ББК 81.2 Бел93
З-22
УДК 808.26(075)

Укладанне М. А. ФЕДАСЕЕНКІ,
Г. М. РАЗАНАВАЙ, Т. П. ПРОХАРАВАЙ,
Н. С. ЯНУШКЕВІЧ

Кніга адрасавана дзецям. Тым, хто яшчэ ў пялюшках, падыдуць калыханкі, дашкольнікам дарэчы будуць пацешкі, жарты, казкі, а вучні малодшых класаў будуць выбіраць на свой густ вершы, легенды, апавяданні, загадкі, смяшынкі, песні, гульні...

Чытанка складаецца з двух частак. Яна спатрэбіцца мамам і татам, бабулям і дзядулям, выхавацелям дзіцячых садоў і настаўнікам пачатковых класаў.

*Рэкамендавана*

*Навукова метадычным цэнтрам вучэбнай кнігі
і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь*

З-8080260000
ISBN 5-87884-151-7 (Ч. 2)
ISBN 5-87884-150-9








*...Усіх казак не назавеш, не пералічыш. Іх — безліч... Яны і дагэтуль складаюць неацэнны наш скарб, тым больш вялікі, што яны былі народу замест кнігі ў тыя часы, калі кніга беларуская, нават мова беларуская былі забаронены. І тады толькі казка вяла дзяцей у далёкі край, «за сем гор і мораў, трошкі бліжэй ад сонца і трошкі далей ад месяца».*

*УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ*

## МУХА-ПЯЮХА

(Беларуская народная казка)

Жыла-была муха-пяюха. Мела яна каляску і шэсць камароў.

Запрэгла муха-пяюха камароў у каляску ды паехала на пагулянку. Едзе яна дарогаю, едзе шырокаю — бяжыць мышка:

— Добры дзень, пані! Як паню зваць-велічаць?

— Я муха-пяюха. А ты хто?

— А я па паліцах скрабатуха.

— Сядай, паедзем разам.

Едуць яны дарогаю, едуць шырокаю — скача жабка:

— Добры дзень, панове! Як вас зваць-велічаць?



— Муха-пяюха. Па паліцах скрабатуха. А ты хто?

— А я па сажалках рагатуха.

— Сядай, паедзем разам.

Едуць яны дарогаю, едуць шырокаю — сядзіць на галінцы вавёрка:

— Добры дзень, панове! Як вас зваць-велічаць?

— Муха-пяюха. Па паліцах скрабатуха. Па сажалках рагатуха. А ты хто?

— А я па елках скакуха.

— Сядай, паедзем разам.

Едуць яны дарогаю, едуць шырокаю — бяжыць заяц:

— Добры дзень, панове! Як вас зваць-велічаць?

— Муха-пяюха. Па паліцах скрабатуха. Па сажалках рагатуха. Па елках скакуха. А ты хто?

— А я праз дарогу скок.

— Сядай, паедзем разам.

Едуць яны дарогаю, едуць шырокаю — ідзе воўк:

— Добры дзень, панове! Як вас зваць-велічаць?

— Муха-пяюха. Па паліцах скрабатуха. Па сажалках рагатуха. Па елках скакуха. Праз дарогу скок. А ты хто?

— А я галодны воўк. Усіх вас паем.

Пачулі гэта камары, падняліся ўгору і паляцелі разам з каляскай.

А галодны воўк паляскаў зубамі ды і пайшоў далей ні з чым.

## ЗАЙКАВА ХАТКА

(Беларуская народная казка)

Жылі-былі ў лесе лісічка і зайчык. Жылі яны непадалёку адзін ад другога. Прыйшла восень. Холадна стала ў лесе. Надумаліся яны хаткі на зіму пабудаваць. Лісічка збудавала сабе хатку з труску-сняжку, а зайчык з труску-пяску. Перазімавалі яны ў новых хатках. Настала вясна, прыгрэла сонца. Лісічкіна хатка растала, а зайкава стаіць, як стаяла. Прыйшла лісічка ў зайкаву хатку, выгнала зайку, а сама ў яго хатцы засталася. Пайшоў зайка з свайго двара, сеў пад бярозкаю ды плача. Ідзе воўк. Бачыць — зайка плача.

— Чаго ты, зайка, плачаш? — пытае воўк.

— Як жа мне, зайку, не плакаць? Жылі мы з лісічкаю блізка адзін каля аднаго. Пабудавалі мы сабе хаты: я — з труску-пяску, а яна — з труску-сняжку. Настала вясна. Яе хатка растала, а мая стаіць, як стаяла. Прыйшла лісічка, выгнала мяне з мае хаткі



і сама ў ёй жыць засталася. Дык вось я сяджу ды плачу.

— Не плач, зайка. Пойдзем, я табе памагу, праганю лісічку з твае хаты.

Пайшлі яны. Прыйшлі. Воўк стаў на парозе зайкавай хаткі і крычыць на лісічку:

— Чаго залезла ў чужую хату? Злазь, ліса, з печы, а то скіну, паб'ю табе плечы.

Не спалохалася лісічка, адказвае ваўку:

— Ой, воўк, сцеражыся: мой хвост, як дубец, — як дам, дык будзе табе канец.

Перапалохаўся воўк ды наўцёкі і зайку аднаго пакінуў.

Сеў зноў зайка пад бярозкай ды горка плача. Ідзе праз лес мядзведзь. Бачыць — зайчык сядзіць пад бярозкаю і плача.

— Чаго, зайка, плачаш? — пытае мядзведзь.

— Як жа мне, зайку, не плакаць? Жылі мы з лісічкаю блізка адзін каля аднаго. Пабудавалі мы сабе хаты. Я — з труску-пяску, а яна — з труску-сняжку. Настала вясна. Яе хатка растала, а мая стаіць, як стаяла. Прыйшла лісічка, выгнала мяне з мае хаткі і сама там жыць засталася. Дык вось я сяджу ды плачу.

— Не плач, зайка. Пойдзем, я табе памагу, праганю лісічку з твае хаты.

Пайшлі яны. Прыйшлі. Мядзведзь стаў

на парозе зайкавай хаткі і крычыць на лісічку:

— Нашто адабрала ў зайкі хату? Злазь, ліса, з печы, а то скіну, паб'ю табе плечы.

Не спалохалася лісічка, адказвае мядзведзю:

— Ой, мядзведзь, сцеражыся: мой хвост, як дубец,— як дам, дык будзе табе канец.

Спалохаўся мядзведзь ды наўцёкі і зайку аднаго пакінуў. Зноў пайшоў зайка з свайго двара, сеў пад бярозкаю ды горка плача. Аж бачыць ідзе праз лес пеўнік. Угледзеў зайчыка, падышоў і пытае:

— Чаго, зайка, плачаш?

— Ды як жа мне, зайку, не плакаць? Жылі мы з лісічкаю блізка адзін каля аднаго. Пабудавалі мы сабе хаты. Я — з труску-пяску, а яна — з труску-сняжку. Настала вясна. Яе хатка растала, а мая стаіць, як стаяла. Прыйшла лісічка, выгнала мяне з мае хаткі і сама там жыць засталася. Вось я сяджу ды плачу.

— Не плач, зайка: я выганю лісу з твае хаткі.

— Ой, пеценька,— плача зайка,— дзе табе яе выгнаць? Воўк гнаў — не выгнаў. Мядзведзь гнаў — не выгнаў.

— А вось жа я выганю. Пойдзем,— кажа пеўнік.

Пайшлі. Увайшоў пеўнік у хатку, стаў



на парозе, кукарэкнуў, а потым як закрычыць:

— Я — пятух-чабятух,
Я — пявун-лапатун,
На кароткіх нагах,
На высокіх пятах.
Нясу касу на плячы,
Хачу ліску засячы.

А лісічка ляжыць ды кажа:

— Ой, певень, сцеражыся: мой хвост, як дубец,— як дам, дык будзе табе канец.

Скочыў пеўнік з парога ў хату ды зноў крычыць:

— Я — пятух-чабятух,
Я — пявун-лапатун,
На кароткіх нагах,
На высокіх пятах.
Нясу касу на плячы,
Хачу ліску засячы.

І — скок на печ да ліскі. Дзюбануў лісу ў спіну. Як усхопіцца лісіца, ды як пабяжыць вон з зайкавай хаткі, а зайка і дзверы зачыніў за ёю. І застаўся ён жыць у сваёй хатцы разам з пеўнікам.

## ПІЛІПКА-СЫНОК

(Беларуская народная казка)

Жылі мужык і жонка. А дзяцей у іх не было. Жонка бядуе: няма каго ёй калыхаць, няма каго гадаваць...

Аднаго разу мужык пайшоў у лес, высек з алешыны палена, прынёс дахаты і кажа жонцы:

— На, калышы.

Палажыла жонка палена ў калыску ды давай калыхаць і ката спяваць:

— Люлі, люлі, сынок, з белымі плячыцамі, з чорнымі вачыцамі...

Калыхала дзень, калыхала другі, на трэці бачыць: замест алешынкі ляжыць у калысцы хлопчык!

Зарадаваліся мужык і жонка, назвалі сынка Піліпкам і сталі яго гадаваць.

Падрос Піліпка і кажа бацьку:

— Зрабі мне, тата, залаты чоўнік, срэбранае вясельца — хачу рыбу лавіць.

Бацька зрабіў яму залаты чоўнік, срэбранае вясельца ды выправіў на возера лавіць рыбу.

Сынок як лавіць ды лавіць — дзень ловіць і ноч ловіць... Нават і есці дахаты не ідзе: вельмі ж добра рыба ловіцца! Маці



яму сама абед насіла. Прынясе да возера і кліча:

— Піліпка-сынок, плыві пад беражок, з'еш піражок.

Піліпка падплыве да берага, высыпле з чоўна рыбу, а сам з'есць піражок ды зноў на возера.

Пачула старая ведзьма Баба Яга — касцяная нага, як маці кліча Піліпку, і парашыла яго са свету звесці.

Узяла яна мяшок і качаргу, прыйшла да возера і пачала клікаць:

— Піліпка-сынок, плыві пад беражок, з'еш піражок!

Піліпка падумаў, што гэта маці, і падплыў. А Баба Яга падчапіла качаргою чоўнік, выцягнула на бераг, схапіла Піліпку ды ў мяшок.

— Ага, — кажа, — больш не будзеш ты тут рыбку лавіць!

Закінула мяшок на плечы і панесла да сябе, у лясную гушчэчу.

Доўга несла, змарылася, села адпачыць ды і заснула. А Піліпка тым часам вылез з мяшка, паклаў туды цяжкіх камянёў ды зноў вярнуўся на возера.

Прачнулася Баба Яга, схапіла мяшок з камянямі і, крэхчучы, панесла дадому.

Прынесла і кажа да сваёй дачкі:

— Спячы ты мне на абед гэтага рыбака.

Вытрусіла Баба Яга мяшок на падлогу, аж там адны камяні... Як узлавалася Баба Яга, як закрычыць на ўсю хату:

— Я ж табе пакажу, нягоднік, як мяне падманваць!

Зноў пабегла на бераг возера ды давай клікаць Піліпку:

— Піліпка-сынок, плыві пад беражок, з'еш піражок!

Пачуў гэта Піліпка.

— Не, — кажа, — ты не мая маці, а ведзьма Баба Яга: я цябе ведаю! У маёй мамы голас танчэйшы.

Як ні клікала Баба Яга, Піліпка не паслухаў яе.

«Добра ж, — падумала Баба Яга, — зраблю я сабе танчэйшы голас».

Пабегла яна да каваля і кажа:

— Каваль, каваль, натачы мне язык, каб танчэйшы быў.

— Добра, — кажа каваль, — натачу. Кладзі яго на кавадла.

Палажыла Баба Яга свой доўгі язык на кавадла. Каваль узяў молат і пачаў кляпаць язык. Адкляпаў так, што ён зусім тонкі зрабіўся.

Пабегла Баба Яга на возера ды кліча тоненькім галаскам:



— Піліпка-сынок, плыві пад беражок, з'еш піражок!

Пачуў Піліпка і падумаў, што гэта маці яго кліча.

Падплыў да берага, а Баба Яга цап яго ды ў мяшок!

— Цяпер ты мяне не падманеш! — радуецца Баба Яга.

І, не адпачываючы, прынесла яго дадому. Выкінула з мяшка і кажа дачцэ:

— Вось ён — падманшчык! Палі ў печы, пячы яго. Каб да абеду гатовы быў.

Сказала так, а сама пайшла некуды.

Дачка запаліла ў печы, прынесла лапату і кажа Піліпку:

— Лажыся на лапату, я цябе ў печ саджаць буду.

Лёг Піліпка і падняў ногі ўгору.

— Не так! — крычыць ведзьміна дачка. — Гэтак я цябе ў печ не ўсаджу.

Піліпка звесіў ногі ўніз.

— Не так! — зноў крычыць ведзьміна дачка.

— А як жа? — пытаецца Піліпка. — Пакажы сама.

— Дурны ты! — вылаяла яго ведзьміна дачка. — Вось як трэба. Глядзі.

Легла яна сама на лапату, выпрасталася. А Піліпка за лапату ды ў печ! І засланкаю яе

засланіў ды яшчэ моцна ведзьмінаю ступаю затуліў, каб не выскачыла з гарачай печы.

Толькі ён выбег з хаты, бачыць: Баба Яга ідзе.

Пілінка скокнуў на высокі густы явар і схаваўся ў галлі.

Зайшла Баба Яга ў хату, панюхала — смажаным пахне. Дастала з печы смажаніну, наелася мяса, косці на двор выкінула ды пачала качацца па іх, прымаўляючы:

— Павалюся, пакачуся, Піліпкавага мяса наеўшыся, крыві напіўшыся.

А Піліпка адказваў ёй з явара:

— Павалiся, пакацiся, даччынога мяса наеўшыся, даччыной крыві напіўшыся.

Пачула гэта ведзьма і аж учарнела ад злосці. Падбегла да явара і давай яго зубамі падгрызаць. Грызла, грызла, зубы паламала, а моцны явар стаіць як стаяў.

Пабегла тады Баба Яга да каваля:

— Каваль, каваль, выкуй мне сталёвую сякеру, а то я тваіх дзяцей паем.

Спужаўся каваль, выкаваў ёй сякеру.

Прыбегла Баба Яга да явара, пачала яго секчы. А Піліпка кажа:

— Не ў явар, а ў камень!

А ведзьма сваё:

— Не ў камень, а ў явар!

А Піліпка сваё:



— Не ў явар, а ў камень!

Тут сякера як стукнецца ў камень — уся вышчарбілася.

Заенчыла са злосці ведзьма, схапіла сякеру ды пабегла да каваля вастрыць.

Бачыць Піліпка — хістацца пачаў явар: падсекла яго ведзьма! Трэба ратавацца, пакуль не позна.

Ляціць чарада гусей. Піліпка да іх:

— Гусі, гусі, скіньце мне па пяру! Я з вамі палячу да бацькі, да маткі, там вам адплачу...

Гусі скінулі яму па пяру.

Зрабіў Піліпка з гэтых пёраў толькі паўкрыла.

Ляціць другая чарада гусей. Піліпка просіць:

— Гусі, гусі, скіньце мне па пяру! Я з вамі палячу да бацькі, да маткі, там вам адплачу...

І другая чарада скінула яму па пяру.

Потым праляцелі трэцяя і чацвёртая. І ўсе гусі скінулі Піліпку па пяру.

Зрабіў сабе Піліпка крылы ды паляцеў услед за гусямі.

Прыбегла ведзьма ад каваля, сячэ явар, аж трэскі сыплюцца. Секла, секла — явар — трах! — упаў на ведзьму і задушыў яе.

А Піліпка прыляцеў з гусямі дахаты.

Зарадаваліся бацькі, што Піліпка вярнуўся, пасадзілі яго за стол, пачалі частаваць.

А гусям далі аўса. Тут і казка ўся.

## НЕ СІЛА, А СМЕЛАСЦЬ

**(Беларуская народная казка)**

Жыла ў адной вёсцы дзяўчына Марыля. Маленькая ўдалася ростам, дык усе яе звалі не Марыляй, а Марылькай. І сілу яна мела, як у таго камара.

Жартуюць з яе сяброўкі. «На цябе,— кажуць,— хлопец як дзьмухне, дык ты і паляціш, як пух!»

Ды затое была Марылька такая смелая, што і хлопец другі не дакажа. Бывала, убачыць, што большы крыўдзіць меншага,— як ястраб налятае на крыўдзіцеля, і той адступае перад ёю.

Пачалі аднаго разу сяброўкі жартаваць з Марылькі:

— Ды ты не такая і смелая, як думаеш. Схадзі вось уночы на могілкі, тады паверым.

— І схаджу! — адказвае Марылька.

— Нябось убачыш там пень, дык душа ў пяткі схаваецца...

— А вось жа, на злосць вам, пайду! — кажа Марылька.



Настала ноч. Марылька пакінула сябровак на вуліцы, а сама пабегла хуценька на могілкі.

Бяжыць і не азіраецца. Каля могілак супынілася ды пайшла ціха. А каб не было страшна, заспявала песню. Ходзіць так па могілках ды спявае — няхай чуюць сяброўкі, што яна тут!

Здарылася якраз, што ў тую ноч зладзеі абакралі аднаго багатага гаспадара і везлі яго дабро каля могілак у свой лес. Пачулі яны песню, напужаліся, кінулі воз ды пабеглі хавацца, хто куды.

Падышла Марылька да воза, паклікала — ніхто не адгукаецца. Агледзела воз, а там усялякага дабра поўна. Здагадалася яна, што гэта зладзейская работа, бо ад зладзеяў у іх аколіцы шмат хто бяду меў. Ніхто не ведаў, адкуль яны прыходзяць і куды крадзенае возяць.

Села Марылька на воз ды пагнала каня ў вёску.

Убачылі зладзеі, што тут усяго толькі адна малая дзяўчынка, кінуліся за ёю, але так і не дагналі.

Вярнула смелая Марылька гаспадару каня і ўсё дабро. Зарадаваўся гаспадар і даў ёй за гэта вялікія грошы. Купіла яна за тыя грошы сабе новую сукенку, чаравікі, пры-

харашылася так, што ўсе сяброўкі зайздросцяць ёй.

А зладзеі ніяк не могуць сабе дараваць, што такая малая дзяўчынка паразганяла іх, як зайцоў. Ды і накрадзенага дабра шкада ім. Вось і надумаліся яны завабіць смялячку ў свой лес і адпомсціць ёй.

Прыехаў да Марылькі праз колькі дзён адзін з тых зладзеяў у сваты. Марылька кажа яму:

— Ты чалавек мне не знаёмы, я раней хачу паглядзець, дзе ты жывеш і як жывеш.

Зладзей, вядома, і рад: сама трапіць у іх рукі! Расказаў ён ёй, дзе яго шукаць, і паехаў.

Сабралася Марылька ў розведы да жаніха. Маці пачала яе адгаворваць, не пускаць. Ды дзе там — нічога не зробіш з упартаю дачкою! Запрэгла яна сваю кабылку, села і паехала.

Даехала да лесу, бачыць — збоку паваротка, а каля яе на кусце заламана галінка. Яна і завярнула на гэтую паваротку. Праехала крыху, а там новая паваротка і зноў галінка заламана.

Ехала яна, ехала, даехала да нейкага балотца. А за ім пайшоў лес такі густы, што і носа не ўбіць. І ніякай дарожкі нідзе няма. Прывязала яна да бярэзіны кабылку,



а сама пайшла ў гушчар. Пралезла мо з ганкі і ўбачыла прасвет, а на ім хатку. Падкралася да хаткі, глядзіць праз акенца, аж там зладзеі дзеляць накрадзенае дабро. Лаюцца, крычаць, ледзь не з нажамі адзін на аднаго кідаюцца. Прыгледзелася Марылька і пазнала сярод іх таго, хто да яе ў сваты прыязджаў... Стаіць ён, размахвае вялізным нажом, разнімае другіх. «Відаць, гэта сам атаман разбойнікаў», — думае Марылька.

Завярнулася яна ды пайшла хутчэй да кабылкі.

Плішчылася яна, плішчылася праз гушчэчу, усё адзенне на сабе парвала і заблудзілася. Туды-сюды кідаецца — няма кабылкі! Раптам перагарадзілі ёй дарогу два ваўкі... Стаяць ды зубамі ляскаюць. «Ну, — думае Марылька, — з'елі яны маю кабылку». Узяла яе злосць на ваўкоў, схапіла яна патарчаку і з крыкам кінулася на іх. Спалохаліся ваўкі смелай дзяўчыны, падцялі хвасты ды падаліся ў гушчар.

Прабіраецца Марылька далей. Вось ужо і сонейка зайшло, птушкі сціхлі, толькі пугач крычыць сваё «пу-гу!» ды сава падлятае да яе на сваіх мяккіх крылах, чуць не на галаву садзіцца. А як адляціць ды пачне выгукваць ды плакаць, бы малое дзіця, дык аж пошчак ідзе па лесе.

Выбралася гэтак Марылька на нейкую дарожку, бачыць — едзе на яе кабылцы якісьці чалавек. Прыгледзелася, аж гэта іх сусед, стары Ахрэм. Хадзіў ён па лесе з сякераю, шукаў якой патрэбнай дзеравякі ды натрапіў на прывязаную кабылку. Пагукаў — няма гаспадара. «Мабыць, яе зладзеі ўкралі ды схавалі тут», — падумаў Ахрэм. Адвязаў ён кабылку, сеў у драбінкі ды і падаўся дахаты.

Пачуў Ахрэм голас, азірнуўся: гоніцца за ім нейкая не то русалка, не то ведзьма: косы распушчаны, адзенне на кавалкі пашматана... Давай ён кабылку паганяць, ад бяды ўцякаць.

А русалка ўсё бяжыць за ім і нават па імені кліча...

Бачыць Ахрэм, што не ўцячы яму на кабылцы ад гэтай мары. Саскочыў ён з воза, схапіў сваю сякеру ды так паджгаў, што толькі пяты замільгалі.

Прыехала Марылька дахаты і расказала ўсім, дзе зладзеі жывуць. Сабраліся хлопцы, зрабілі ў лесе аблаву і палавілі іх.

Зажылі з таго часу людзі ў той аколіцы ціха ды мірна.

Праўду бо кажуць: бярэ не сіла, а смеласць.



## ЛЮДЗЕЙ СЛУХАЙ, А СВОЙ РОЗУМ МАЙ

(Беларуская народная казка)

Быў адзін дурнаваты чалавек. Захацелася яму пайсці на кірмаш. Злавіў ён белага пеўня, засунуў за пазуху ды пайшоў. «Прадам, — думае, — пеўня, куплю махоркі».

Яшчэ не дайшоў да кірмашу, а тут ужо яго і купцы сустракаюць:

— Што прадаеш, дзядзька?

— Пеўня, — кажа чалавек.

Дастаў ён з-за пазухі белага пеўня. Купцы паглядзелі, галовамі паківалі:

— Які ж гэта певень? Гэта ж заяц!

«Жартуюць, — думае дзядзька, — ліха ім!» Забраў пеўня ды ідзе далей.

Прайшоў крыху — другія купцы падбягаюць:

— Што прадаеш?

— Пеўня.

Паглядзелі:

— Які ж гэта певень? Гэта ж заяц!

Прыгледзеўся лепш чалавек і сам да свайго пеўня: «А можа, і заяц? — думае. — Не вер вачам! Відаць, праўда, калі ўсе як у бубен б'юць».

Прыйшоў ён на самы кірмаш. Людзей там так густа, што і яблыку няма дзе ўпасці.

Каля аднае крамы стукаюць у патэльні, каля другой звоняць косамі — пакупнікоў заклікаюць. Такі шум, гоман на кірмашы, што чалавек ледзь не аглух.

Ачухаўся ён трохі і сам пачаў крычаць:

— Купіце зайца! Купіце зайца!

Падыходзіць да яго баба, дзівіцца:

— Які ж гэта заяц? Гэта ж певень!

Ды чалавек стаіць на сваім:

— Заяц, кажу табе, а не певень!

Сабралася куча народу. Жартуюць з бабы:

— Дзядзька праўду кажа! Ці ж ты не бачыш, што гэта заяц!

Тут ужо чалавек зусім паверыў, што прынёс ён на кірмаш зайца, а не пеўня. І калі хто з купцоў гаварыў цяпер, што гэта певень, а не заяц, дык ён ледзь не з кулакамі на яго кідаўся.

Хадзіў, хадзіў чалавек па кірмашы з пеўнем, і ўсё яму здавалася, што гэта не певень, а заяц.

Надакучыла пеўню цягацца з чалавекам — пара б ужо і на седала збірацца! Залопаў ён крыламі ды як закрычыць на ўвесь кірмаш:

— Ку-ка-рэ-ку!

Пачуўшы гэта, чалавек зусім збіўся з панталыку: заяц, а пеўнем спявае! Выкінуў ён пеўня з-за пазухі, плюнуў ды пайшоў дахаты.

Праўду кажуць старыя людзі: не той дурань, каго завуць дурнем, а той дурань, хто чужым розумам жыве.

Людзей слухай, а свой розум май.



## НЕ КАЖЫ «ГОП», ПАКУЛЬ НЕ ПЕРАСКОЧЫШ

**(Беларуская народная казка)**

Пра паляўнічых расказваюць розныя байкі. Штукары яны на выдумкі, што і казаць. Любяць прылгаць і памарыць аб паляўнічым шчасці.

Дык вось. Жыў-быў некалі адзін такі паляўнічы. Пайшоў ён у лес, глядзіць — заяц пад кустом спіць. Тоўсты шарак, сыты. Адкарміўся за лета на добрых харчах.

Дастаў узрадаваны паляўнічы капшук з тытунём, напіхае люльку, а сам думае, любуючыся зайцам: «Няхай, небарака, яшчэ паспіць. Ад сну не толькі чалавек, а і заяц тлусцее. Нікуды ад мяне ён цяпер не ўцячэ. Але што ж я з ім зраблю, як застрэлю? Ага! От што зраблю. Мяса пасалю, у дзежку складу, буду есці патрошку, а шкуру — хвацкая шкура! — прадам. Немалыя грошы вазьму! Танна не прадам. Буду таргавацца. Так, так. А што за тыя грошы куплю?»

Прыкінуў мужык-паляўнічы і так і гэ-

так: шмат дзірак у гаспадарцы на тыя грошы. «Ага! — падумаў ён. — Лепш за ўсё куплю за іх курачку. Яна яек нанясе. Потым пасаджу яе на тыя яйкі ў рэшата, яна куранятак выведзе: пеўнікаў і курачак. Пеўнікаў, як падрастуць, парэжу — зноў мяса будзе, а курачак прадам — зноў грошы будуць. Немалыя грошы! Што я за іх куплю? Куплю на гэты раз авечку. Яна прывядзе ягнятак: баранчыка і ярачку. Баранчыка, як падрасце, я на мяса зарэжу — от жа наемся цяпер мяса ўдосталь. А ярачку гадаваць буду. Год за годам — і цэлую чараду авечак развяду. Так, так, далібог, развяду. Што ж цяпер з імі рабіць буду?»

Думаў-думаў паляўнічы, так і гэтак меркаваў. «Ага! — надумаўся нарэшце. — Чараду авечак я таксама прадам. Цэлы мех грошай за іх вазьму. За тыя грошы куплю карабель, нагружу яго лёнам і семем ды паеду за мора гандляваць. Яшчэ больш грошай утаргую. Вярнуся дахаты, куплю маёнтак, стану панам. Зямлю мужыкам у арэнду аддам, немалыя падаткі на іх накладу, а сам буду піцьгуляць ды на слуг пакрыкваць. Прыйдзе каторы з мужыкоў-арандатараў да мяне ў палацы, паклоніцца нізка: «Паночак, будзь ласкаў, пачакай з падаткам за зямлю. Зараз грошай няма. Аддам пасля з дабаўкаю...» А я вусы падкручу ды як закрычу:



— Прэч, мужык, з вачэй! Нясі падатак хутчэй!»

І так моцна крыкнуў шчаслівы паляўнічы, што заяц прахапіўся — ды толькі яго і бачылі.

Недарэмна ж кажуць: «Не здзірай шкуры з незабітага мядзведзя».

Або яшчэ лепш: «Не кажы «гоп», пакуль не пераскочыш».

## АД КРАДЗЕНАГА НЕ ПАСЫЦЕЕШ

(Беларуская народная казка)

Былі ў аднаго чалавека два сыны. Як выраслі яны, бацька сказаў:

— Пара, сыны, за сталую работу брацца. Хто з вас чым хоча заняцца?

Маўчаць сыны — не ведаюць, якую сабе работу выбраць.

— Ну дык пойдзем, — кажа бацька, — у свет, паходзім, паглядзім, што людзі робяць.

Сабраліся і пайшлі.

Ідуць так памаленьку, сыны да ўсяго прыглядаюцца, думаюць, якую работу ім выбраць.

Падышлі да адной вёскі. Бачаць — стаіць пры канцы вёскі кузня. Зайшлі яны ў

кузню. Прывіталіся да каваля, пагаварылі. Старэйшы сын нават молат у рукі ўзяў — памог кавалю нарог выкаваць.

І зноў далей рушылі.

Падышлі да другой вёскі. Старэйшы сын паглядзеў туды-сюды: не відаць кузні ў гэтай вёсцы. Вось ён і кажа да бацькі:

— А чаму б і тут кузню не паставіць? Я мог бы за каваля застацца. Мне гэта работа падабаецца.

Бацька зарадаваўся: знайшоў, думае, большы сын сабе спосаб да жыцця!

— Добра, — кажа, — будзь кавалём у гэтай вёсцы.

Паставіў ён сыну кузню, той і пачаў кавальскаю справаю займацца. Людзі яго хваляць, і сам ён сваёю работаю задаволены.

А меншы сын, колькі ні ходзіць, — ніяк не можа работу па густу выбраць.

Ідзе ён аднаго разу з бацькам каля лугу. Бачыць — пасецца на лузе вол. А вёска далекавата, і пастуха не відаць.

— Ці не пачаць мне, бацька, валоў красці? — кажа сын. — Работа гэта лёгкая, і кожны дзень з мясам буду. Растаўсцею і сам, як вол.

— Крадзь, — кажа бацька. — На тое ж я цябе і ваджу, каб ты сабе які сталы занятак выбраў.



Заняў сын вала і пагнаў дахаты. А бацька кажа:

— Пачакай мяне пры лесе — мне трэба яшчэ ў гэтую вёску заглянуць: там адзін мой знаёмы жыве...

Гоніць сын вала ды ўсё азіраецца, як воўк, ці не бяжыць хто за ім. Пакуль да лесу дагнаў, дык добра такі перадрыжаў. Аж млосна ад страху зрабілася.

Пачакаў ён на ўзлеску, пакуль бацька вярнуўся, і пагналі разам вала дахаты.

Зарэзалі дома вала, знялі шкуру ды пачалі варыць свежаніну.

Наварылі, бацька кажа сыну:

— Вось што, сынку, давай знімем мерку і паглядзім, хто з нас ад гэтага вала пасыцее.

Узяў ён шнурок, змераў шыю сабе і сыну і завязаў вузельчыкі.

Селі за стол. Бацька есць спакойна, а сын ўсё на дзверы паглядае: ці не ідзе хто вала шукаць? Забрэша сабака, пройдзе ці праедзе хто — сын за мяса ды ў каморку хаваецца... А ў самога рукі і ногі дрыжаць.

І пайшло так дзень за днём.

З'елі нарэшце таго вала. Бацька кажа сыну:

— А цяпер давай шыі мераць: хто з нас пасыцеў?

Памералі, дык у бацькі шыя ўдвая патаўсцела, а ў сына ўдвая патанчэла.

Дзівіцца сын:

— Чаму гэта так?

— Бо ты еў крадзенага вала.

— Дык жа і ты крадзенага еў!

— Не, я заплаціў за вала гаспадару і еў, як свайго. Таму я і пасыцеў. А ты як сядзеш за стол, дык страх адразу на шыю скок і душыць! Праз гэта яна і худзее. Ад крадзенага, брат, не пасыцееш!

## ПАКАЦІГАРОШАК

(Беларуская народная казка)

Жыў дзед з бабаю. Былі ў іх два сыны і дачка Палашка. Прыгожыя выраслі сыны — высокія ды стройныя. А дачка — яшчэ прыгажэйшая.

Сыны з бацькам зямлю аралі, збожжа сеялі, гаспадарку вялі і з гэтага жылі.

Аднаго лета ўправіліся яны загадзя з работаю, усё з поля сабралі, звезлі ды змалацілі.

Паглядзеў бацька на няпоўныя засекі і кажа:

— Вось што, сыны мае любімыя. Збожжа ў нас сёлета не надта зарадзіла. Ці не пайсці



вам у заробкі да чужых людзей? Запас бяды не чыніць.

Падумалі браты — і праўда: не шкодзіла б лішні рубель мець у гаспадарцы. За яго можна будзе вясною хлеба прыкупіць, калі свайго не хопіць. Але куды ж пайсці ў заработкі? Скрозь тут бедныя людзі жывуць.

— Схадзіце за пушчу, — раіць бацька. — Можа, там вас хто нойме.

Узялі браты харчоў па торбе і кажуць:

— Калі мы праз тыдзень не вернемся, дык няхай нам Палашка прынясе свежага хлеба.

— А як жа я ведаць буду, куды вам несці? — пытаецца Палашка.

Падумалі браты і кажуць:

— Мы возьмем з сабою куль саломы ды будзем па дарозе церушыць па саломінцы — гэты след і прывядзе цябе да нас.

— Калі так, дык мне не цяжка будзе знайсці вас, — згадзілася сястра.

Сабраліся браты і пайшлі.

Ідуць ды саломай за сабою цярушаць. Мінулі поле, увайшлі ў цёмную пушчу. А ў той пушчы жыў страшны Цмок з жалезным языком. Убачыў ён, што браты след за сабою пакідаюць, узяў ды перакінуў саломінкі на другую сцежку. А вяла тая сцежка проста да яго касцянога палаца...

Мінуў тыдзень. Не вярнуліся браты. Радуецца бацька:

— Мусіць яны знайшлі там добрую работу. Занясі ты ім, дачушка, свежага хлеба.

Узяла Палашка хлеба, сёе-тое да хлеба ды рушыла ў дарогу. Ідзе і ўсё на саломінкі ўглядаецца. Аж раптам бачыць перад сабою палац — з чалавечых касцей збудаваны, чалавечымі чарапамі накрыты…

Спужалася дзяўчына. «Куды я трапіла?» — думае.

А тут і сам гаспадар выходзіць з палаца — пудзіла паганае.

— А-а, — ухмыляецца ён, — папалася да мяне. Я да цябе даўно прыглядаўся, забраць у свой палац збіраўся. А тут ты і сама прыйшла. Ну, што ж, цяпер забывайся на бацьку, на матку — ідзі да мяне. Будзеш жыць у маім палацы за наймічку. А не захочаш — закіну і твой чэрап на свой дах.

Залілася Палашка слязьмі, ды што зробіш. Не злітуецца паганы Цмок.

Тым часам Палашчыны браты і праўда знайшлі ў аднаго багатага чалавека добрую работу. Згадзіліся рабіць на сваім хлебе. Тыдзень працавалі, а потым бачаць, усе харчы выйшлі. Чакалі, чакалі сястру — ды так і не дачакаліся.



Прыходзяць браты дахаты і з крыўдай пытаюцца ў бацькі:

— Чаму ты нам, бацька, не прыслаў харчоў?

— Як не прыслаў? — дзівіцца бацька. — Палашка ж панесла вам і хлеб, і да хлеба…

— Не, — кажуць браты, — не бачылі мы яе.

Напалохаліся бацькі, бядуюць: «Ці не загінула дзе дачка?»

— Я пайду яе шукаць, — кажа старэйшы брат.

— Ідзі, сынок, — згадзіліся бацька і маці.

Сабраўся ён і пайшоў. Ідзе так пушчайлесам, бачыць — саломінкі зусім у другі бок павялі. Пайшоў ён па той сцежцы, куды саломінкі вялі, і прыйшоў да касцянога палаца.

Убачыла яго Палашка з акна, выбегла насустрач.

— Ах, братка, ах, родны! — плача сястра. — Няшчасная я цяпер гаротніца ды нявольніца…

І расказала яна брату, як у няволю да паганага Цмока трапіла.

— Не плач, сястрыца, — суцяшае брат, — я цябе вызвалю.

— Не, братка, не ведаеш ты, з кім справу маеш. Ідзі лепш хутчэй назад, а то Цмок

заб'е цябе. Ён за сто вёрст чалавечы дух чуе.

— Смерці я не баюся,— адказвае брат.— А вось давай лепш падумаем, як твайго гаспадара ашукаць, як табе адсюль да бацькоў вярнуцца.

Сястра кажа:

— Пачакай тут, я пайду спытаюся ў гаспадара, ці пусціць ён цябе ў свой палац. А там мо што-небудзь прыдумаем.

Пайшла яна да Цмока.

— Што б ты, гаспадар, зрабіў, каб сюды мой брат праведаць мяне прыйшоў?

— За госця прыняў бы,— ухмыльнуўся Цмок.

Паверыла яму Палашка і прывяла брата ў палац.

Цмок пасадзіў госця за стол і кажа да Палашкі:

— Прынясі нам жалезнага бобу.

— Давай, госць, папалуднуем,— кажа Цмок. І сам пачаў жалезны боб жменямі чэрпаць ды ў рот насыпаць.

Узяў і госць адну бабінку, патрымаў, патрымаў у роце і выплюнуў.

Цмок скрывіўся.

— Відаць, ты, госць, не галодны?

— Дзякую,— кажа госць,— есці мне і праўда не хочацца...

— Ну, дык пойдзем аглядаць мае багацці!



Абышлі яны ўсе пакоі, усе скляпы — дабра ў Цмока лікам не лічана: і золата, і серабро, і футры дарагія.

Павёў Цмок госця ў стайню. А там стаяла дванаццаць жарабцоў, і кожны жарабец на дванаццаці ланцугах да жалезных слупоў прыкуты.

— Ну, што, госць, хто з нас багацейшы: ты ці я? — выхваляецца гаспадар.

— Дзе мне з табою раўняцца,— кажа госць.— У мяне і сотай долі таго няма.

— А цяпер я табе пакажу яшчэ адну штуку.

Прывёў яго Цмок да калоды — чатыры сажні таўшчынёю, дванаццаць даўжынёю.

— Бачыш гэтую калоду?

— Бачу,— адказвае госць.

— Дык вось: калі ты яе без сякеры пасячэш, без агню спаліш, тады пойдзеш дадому жывым. А не — смерць табе.

Госць кажа:

— Хоць зараз забі мяне, гаспадар, а гэтага я зрабіць не магу.

— Не можаш! — зароў Цмок.— Дык чаго ж ходзіш да мяне ў госці? Бач ты, пасябраваў са мною, з самім царом лясным! Няма табе сюды дарогі!

Забіў Цмок госця, вочы выкалаў, а самога ў стайні да бэлькі падвесіў.

Мінуў дзень-другі, не вярнуўся старэйшы брат. Тады малодшы брат кажа бацькам:

— Пайду я сястру шукаць.

Шкада бацькам пускаць яго ў невядомую дарогу, адзін ён у іх застаўся. Пачалі яны яго адгаворваць.

— Не, — кажа малодшы сын, — пайду.

Сабраўся і пайшоў.

Ну, вядома, і з ім сталася тое ж, што і з большым братам.

Даведалася пра гэта Палашка, моцна загаласіла.

— Ах, гаспадар! Чаму ты маіх родных братоў са свету звёў? Засталіся ў мяне цяпер адны толькі старыя бацька і маці. Калі так, дык забі і мяне ды павесь у сваёй стайні разам з братамі...

— Не, — ухмыляецца Цмок, — табе я такой смерці не зраблю, бо ты мне — слуга. А вось калі бацьку і матку злаўлю, дык адразу заб'ю, каб ты забылася і больш пра іх не думала.

Кепска стала жыць бацькам без дзяцей. Сядзяць яны ды бядуюць: хто іх на старасці дагледзіць, хто пахавае...

Пайшла аднаго разу баба па ваду. Бачыць: коціцца па дарозе гарошынка. Падняла яна тую гарошынку ды з'ела. А праз нейкі час нарадзіўся ў яе хлопчык. Ды такі прыгожанькі — поўны, кучаравы, русявы. І далі яму бацькі імя — Пакацігарошак.

Расце хлопчык не па днях, а па гадзінах. Радуюцца бацька і маці — будзе ім на старасць падмога. Адна толькі бяда: дакранецца да каго з дзяцей Пакацігарошак, гуляючы, — той і падае, як сноп. Кожны дзень прыходзяць да дзеда і бабы суседзі скардзіцца, што Пакацігарошак іх дзяцей крыўдзіць.

Так ён і гадаваўся.

Аднойчы пачаў Пакацігарошак распытвацца ў маткі:

— Чаму я адзін у вас? Чаму ў мяне няма ні братоў, ні сясцёр?

Маці выцерла хусткай вочы і кажа:

— Былі ў цябе, сынок, і браты і сястра...

— А дзе ж яны? Калі паўміралі, то я нічога зрабіць не магу, а калі ў няволю трапілі, то вызваляць пайду.

Расказала маці, што ведала, пра сваіх дзяцей.

Назаўтра Пакацігарошак пайшоў на вуліцу гуляць. Знайшоў там старую шпільку, прынёс у хату і кажа бацьку:

— Нясі, тата, гэтую шпільку да каваля, скажы, каб выкаваў з яе булаву на дванаццаць пудоў.

Бацька нічога яму не сказаў, а сам сабе падумаў: «Вось жа дзіця ў мяне вырадзілася,

не такое, як у людзей. Малы яшчэ, а ўжо з бацькі жартуе. Дзе ж гэта бачылі, каб са шпількі дванаццаціпудовую булаву хто выкаваў?»

Закінуў бацька шпільку на паліцу, а сам паехаў да каваля і заказаў яму дванаццаціпудовую булаву.

Увечары прывозіць булаву. Узяў Пакацігарошак булаву, выйшаў на агарод, размахнуўся і шпурнуў яе ў неба. А сам вярнуўся ў хату і лёг спаць. Бацька аж за галаву хапіўся.

Назаўтра ўстаў Пакацігарошак, прыпаў правым вухам да зямлі, слухае: гудзе зямля!

— Бацька! — кліча сын. — Ідзі паслухай, булава назад з неба варочаецца.

Падставіў ён калена, булава ўдарылася аб калена і пераламалася папалам. Паглядзеў на яе Пакацігарошак і кажа:

— Ты мне, тата, зрабіў булаву не з таго жалеза, што я табе даў. Скажы кавалю, каб зрабіў з той шпількі!

Пачухаў бацька патыліцу ды зноў паехаў да каваля, на гэты раз ужо са шпількаю.

Здзівіўся каваль — як можна са шпількі дванаццаціпудовую булаву выкаваць! Але ўзяўся за работу. Укінуў шпільку ў агонь, а яна давай расці, як на дражджах. Расце і і расце.



Зрабіў каваль са шпількі дванаццаціпудовую булаву, ды і яшчэ вунь колькі жалеза засталося...

Прывёз бацька булаву дахаты. Сын паглядзеў на яе і пытаецца:

— З чаго каваль булаву каваў? Мо зноў не са шпількі?

— На гэты раз, — кажа бацька, — зроблена ўсё так, як ты прасіў.

Ускінуў Пакацігарошак цяжкую булаву на плечы, пастаяў, развітаўся з бацькам, з маткай і пайшоў у белы свет — сястру і братоў шукаць.

Шмат часу ён ішоў ці мала, але нарэшце трапіў-такі да Цмокавага палаца. На двары сустрэла яго Палашка.

— Хто ты такі? — пытаецца. — І чаго прыйшоў сюды? Тут жа страшны Цмок жыве...

Расказаў ёй Пакацігарошак, хто ён і куды ідзе.

— Не, — кажа Палашка, — няпраўда гэта: былі ў мяне два браты, ды іх паганы Цмок пазабіваў і да бэлькі ў стайні падвесіў. А ты не мой брат.

І не паверыла.

— Дык дазволь хоць пераначаваць у вас? — папрасіўся Пакацігарошак.

Пайшла Палашка да Цмока.

— Што гэта ты такая смутная? — пытаецца ў яе Цмок.

— Ды вось прыйшоў нейкі хлапец і кажа, што ён мой брат. Просіцца хоць пераначаваць з дарогі.

Узяў Цмок сваю чараўнічую кнігу, разгарнуў яе, паглядзеў і кажа:

— Так, у цябе яшчэ будзе адзін брат... Але не гэты. Гэты маніць. Пакліч яго сюды, я з ім сам пагавару.

Прыйшоў Пакацігарошак да Цмока.

— Добры дзень, гаспадар!

— Добры дзень, госць.

Паставіў Цмок на стол свой жалезны боб.

— Садзіся, — паказаў Пакацігарошку на жалезнае крэсла.

Пакацігарошак як сеў, дык крэсла і развалілася пад ім.

— Э, гаспадар, — дзівіцца Пакацігарошак, — слабыя ж у цябе крэслы! Хіба не маеш добрых майстроў, каб моцныя крэслы зрабілі?

Спужаўся Цмок. Прынёс другое крэсла, мацнейшае.

Сеў Пакацігарошак за стол. Цмок падсунуў яму жалезны боб.

— Частуйся.

— А я такі і выгаладаўся за доўгую дарогу, — кажа Пакацігарошак.



І пачалі яны жалезны боб есці. Цмок жменю ўсыпле ў свой роцішча, а Пакацігарошак — дзве. Есць, аж за вушамі трашчыць.

З'елі ўвесь боб.

— Ну як — наеўся? — пытаецца Цмок.

— Слабавата. Толькі чарвячка замарыў.

Бачыць Цмок: у ядзе не справіцца яму з гэтым хлопцам!

— То пойдзем, госць, паглядзім маё багацце, — кажа Цмок.

Паказаў Цмок Пакацігарошку ўсе свае багацці.

— У каго больш дабра, — ухмыляецца Цмок, — у цябе ці ў мяне?

— Я не багаты, — кажа Пакацігарошак, — але і табе няма чым хваліцца.

Цмок узлаваўся:

— Ты смяешся з мяне! Хадзем, пакажу табе адну штуку.

Прывёў Пакацігарошка да той калоды, да якой братоў яго вадзіў.

— Калі ты яе без сякеры пасячэш, без агню спаліш, то пушчу цябе дадому. А не — дык будзеш там, дзе і браты твае...

— Гэта яшчэ паглядзім! — смяецца Пакацігарошак. — Не кажы «гоп», пакуль не пераскочыш!

Дакрануўся ён мезеным пальцам да калоды, дык яна і рассыпалася на дробныя трэс-

кі. А як дзьмухнуў потым, дык ад трэсак і пылу не засталося.

Бачыць Цмок – незвычайны трапіўся госць.

— Пойдзем цяпер дужацца,— кажа Цмок.— Паглядзім, у каго з нас большая сіла.

— Навошта далёка ісці. Давай на руках паспрабуем. Я тваю руку сцісну, а ты маю.

— Дзе табе, малакасосу, са мной на руках дужацца! — пачаў гарачыцца Цмок.

— Нічога, давай!

Цмок узлаваўся не на жарты.

— Давай!

Схапіліся яны дужацца. Пакацігарошкава рука толькі пасінела, а Цмокава пачарнела.

— Не, так дужацца я не згодзен,— кажа Цмок.— Давай па-другому.

Дзьмухнуў ён — стаў медны ток. Дзьмухнуў Пакацігарошак — стаў сярэбраны.

Сашчапіліся біцца. Дзьмухнуў Цмок — увагнаў Пакацігарошка ў сярэбраны ток па костачкі. Стукнуў Пакацігарошак Цмока булавою — угруз Цмок у медны ток па калені. Другі раз дзьмухнуў Цмок — увагнаў Пакацігарошка ў сярэбраны ток па калені. А Пакацігарошак як стукнуў Цмока булавою — угруз Цмок у медны ток па самыя грудзі.



Цмок запрасіўся:

— Пачакай, госць: давай адпачнём.

— Не вельмі ты яшчэ і змарыўся,— усміхаецца Пакацігарошак.— Я з вялікай дарогі прыйшоў, і то нішто сябе адчуваю. А ты вылежваўся, як пан.

Падумаў Цмок, пакруціў галавою і кажа:

— Відаць, хлопча, ты заб'еш мяне.

— Дзеля гэтага я і прыйшоў!

— Пакінь мне хоць палавіну жыцця,— заенчыў Цмок.— Бяры сабе ўсё маё багацце, але не дабівай зусім.

— Не, нячыстая сіла, не будзе гэтага! Ты абазваў мяне малакасосам, абняславіў, а цяпер ратунку просіш! Няма табе ратунку!

Вырваўся Пакацігарошак з сярэбранага тока і давай перыць булавою Цмока. Біў, біў і ўвагнаў яго ў медны ток па самыя вушы.

Тут Цмоку і канцы прыйшлі.

Адпачыў крыху Пакацігарошак і пайшоў у Цмокаву стайню. Вывеў аднаго жарабца ў поле, злупіў з яго шкуру мяшком, сам залез у той мяшок. Сядзіць там, чакае.

Прылятае крумкач з крумкачанём. Пачалі шкуру дзяўбці. А Пакацігарошак — цоп! — крумкачаня за нагу.

Убачыў гэта стары крумкач, загаварыў чалавечым голасам:

— Хто тут?

— Я, Пакацігарошак.

— Аддай мне дзіця.

— Дастань гаючай і жывучай вады — аддам.

— Добра, — згадзіўся крумкач. — Дастану.

Узяў ён дзве пляшкі і паляцеў за трыдзевяць зямель, у трыдзесятае царства. А ў тым царстве з адной гары выцякала крыніца з вадою гаючай, з другой — з вадою жывучай. Набраў крумкач вады адной і другой ды вярнуўся назад.

— На, — кажа Пакацігарошку, — табе ваду, толькі вярні мне дзіця.

— Тут Пакацігарошак як бач разарваў крумкачаня на дзве часткі.

— Ай-ай! — загаласіў стары крумкач. — Што ты нарабіў?

— Нічога, — кажа Пакацігарошак. — Гэта я дзеля пробы.

Папырскаў ён крумкачаня вадою гаючай — стала яно цэлым, папырскаў жывучай — ажыло.

— Ну, вось бачыш, — радуецца Пакацігарошак, — цяпер я ведаю, якая гэта вада.

Падзякаваў ён старому крумкачу, а сам пайшоў на стайню да мёртвых братоў. Папырскаў іх жывучай вадой — ажылі браты, папырскаў гаючай — выраслі вочы.

— Ай, — кажуць браты, — як жа доўга мы спалі.



— Спаць бы вам тут векі вечныя, каб не я, — адказвае Пакацігарошак.

Браты працёрлі вочы, углядаюцца.

— Хто ты такі? — пытаюцца ў Пакацігарошка.

— Ваш брат.

— Не, — запярэчыў малодшы брат, — у нас братоў болей не было. Ты маніш.

А большы брат кажа:

— Ну, што ж: хто б ты ні быў, а калі нас з бяды вызваліў, дык ты нам і брат.

Абнялі браты Пакацігарошка, падзякавалі яму. А потым спалілі Цмокаў касцяны палац, забралі сястру ды пайшлі ўсе разам дахаты. І справілі там банкет — на ўвесь свет.

Я ў іх быў, мёд, віно піў, па барадзе цякло, а ў роце не было.

*Ніна Мацяш*

## ДВА БРАТЫ І СЯКЕРА

**(Паводле беларускай народнай казкі)**

Мо даўно, а мо нядаўна —
Казкам-байкам што гады? —
У адной палескай вёсцы
Два жылі-былі браты.

І адзін з іх быў багаты,
Ненажэрлівы такі,
Замыкаў свой скарб вялікі
На чатыры аж замкі.

А ў другога толькі й скарбу
Усяго таго было,
Што старэнькая сякера
Пад залатанай палой.

Ён бандарыў і цяслярыў,
Сек лазу на кашалі.
Бедны быў, ды пакланяўся
Толькі працы і зямлі.

З мазаля і хлеб, і песня,
А зямля вучыла быць
І няскваліным, і цярплівым
У нягодах у любых.

Тым і жыў.
Ды вось аднойчы,
Ходзячы каля ракі,
Незнарок сваю сякеру
Выпусціў бядак з рукі.

Падхапіць хацеў — ды дзе там:
Прагна плюхнула вада...
Закрычаў ён у адчаі:
— Ах ты, горкая бяда!



Як цяпер на свеце жыць мне
Без карміцелькі маёй?
Хоць ты кідайся самому
У вір гэты галавой...

Сеў дзяцюк і аж заплакаў,
Бо гарчэй ад усяго
Знаць было, што не паможа
Ні на волас брат яго.

Але што гэта?!
Ні ветру —
Хвалі ж, хвалі па вадзе...
Вынырае, падплывае
Да яго сівенькі дзед.

Позірк мяккі і прыветны,
Голас дабрынёй гучыць:
— Што з табою, чалавеча,
Мо змагу чым памагчы?

Расказаў сваё няшчасце,
А ў адказ дзядок:
— Чакай!
Ціха, шчыра ён прамовіў
І нырнуў.
Праз міг:
— Трымай!

І сякеру залатую,
Вынырнуўшы, падае.
Бляск такі ад той сякеры,
Што аж глянуць не дае.

Але дзядзька:
— 'Не, такога
Зроду я не меў дабра...

Дастае тады другую
Дзед сякеру — з серабра.

Зіхаціць вада, збягае
Срэбнай хваляй з вастрыя.
Уздыхае бедалага:
— Не, і гэта не мая.

Трэці раз на дно рачное
Апускаецца стары
І жалезную сякеру
Падае:
— Твая? Бяры.
А на памяць аб сустрэчы
Забірай і гэтых дзве.

І кладзе да ног мужычых
Тры сякеры на траве...



* * *

Шмат сплыло ці мала часу,
Толькі і багаты брат
Нейк дачуўся пра дарункі
З золата і серабра.

А бядняк і не таіўся,
Што за дзіва з ім было.
Ад зайздрошчаў багацею
Аж дыханне заняло.

Вось бяжыць і ён на бераг
Тое самае ракі
І сякеру выпускае —
Быццам незнарок — з рукі.

Сам качаецца па доле,
Енчыць, бараду скубе:
— Ой, карміцелька-сякера,
Як пражыць мне без цябе?!

А рака ўсё неспакойней,
Хвалі, хвалі па вадзе...
Вынырае, падплывае
Да яго сівенькі дзед.

Позірк мяккі і прыветны,
Голас дабрынёй гучыць:
— Што з табою, чалавеча,
Мо змагу чым памагчы?

А пачуўшы, што за гора,
Моўчкі ён нырца дае
І — жалезную сякеру
Багацею падае.

Той аж замахаў рукамі:
— Што ты, гэта не мая!
Па такому недаломку
Не перажываў бы я!

Хмурыць бровы дзед — і
ў хвалі, —
Хвалі б'юцца ўсё круцей, —
І з'яўляецца з сякерай
Срэбра чыстага ў руцэ.

— Не мая, о не, і гэта
Не мая! — Багач у крык. —
У мяне была сякера
З золата... Дастань, стары!

І без слова трэцім разам
У бурлівай той вадзе
З залатой цяпер сякерай
Паказаўся сівы дзед.

— Вось цяпер мая! Ну што ты,
Не марудзь — давай хутчэй!
Скочыў скнара сам за ёю



У ваду і —
знік з вачэй.
І рака адразу стала
Ціхаплыннай, як была...

Сёння ж мне вось нашаптала,
Пра ўсё гэта расказала.
І легенд яшчэ нямала
Наша памяць зберагла.

*Янка Журба*

## БАБУЛЬКА І КОЗЛІК

**(Паводле народнай казкі)**

Шэранькі козлік
Жыў у бабулькі,
Быццам у роднай
Мілай матулькі.

Козліка бабка
Дужа любіла,
Свежай травою
Часта карміла.

Шчыра дзень кожны
Яго даглядала,
Смачнага пойла
Ўранні давала.

Ў сенцах на сене
Клаўся ён спаці,
Ў гай разам з бабкай
Бегаў гуляці.

Козлік задумаў
Бегчы ў лясочак:
Стаў яму цесен
Бліжні гаёчак.

Ўраз разбурыў ён
Тын ля дамочка
І апынуўся
Ў цёмным лясочку.

Ў лесе, дзе густа
Сосны стаялі,
Козліка зверы
Хутка дагналі...

Плакала доўга
Ў хаце бабулька.
Як па дзіцяці
Плача матулька.



*Цётка*

## СВАРБА

Пасварыліся вясна з зімою, ну і давай адна адной на злосць рабіць.

— Я, — кажа вясна на зіму, — не буду з табой шмат гаварыць! За каўнер і так шпургану, што аж за лясамі ты ў мяне апынешся!

— Маўчы, маўчы, — бурчала белая зіма. — Хіба я цябе ў барані рог заганю, як сцісну, то аж табе вылезуць вочы.

Ну і пачалі адна адной наперакор рабіць. Зіма паўзе з марозам — вясна лезе з адлігай, і зноў няма парадку. Цярпелі людзі, цярпелі, а после давай сход рабіць, давай радзіць, на чыёй тут старане ім стаць. Адны казалі:

— Мы яшчэ не вымалацілі збожжа, не навазілі дроў, не адпачылі после летняй працы, хай пабудзе зіма.

Другія зноў крычалі:

— Вон зіму! Яна нас памарозіць; мы і так лапці патапталі, кажухі абадралі. Досыць нам яе; хочам вясны.

І немаведама, як то прайшло б на тым сходзе, каб не ўвайшоў старэнькі жабрак і не пачаў жаліцца на зіму.

Праўда: вушы былі абмарожаны, рукі пакрэпшы, світка рваная, сам ён дрыжаў ад холаду. Увесь сход закрычаў у адзін голас:

— Не хочам зімы! Хай вясна ідзе да нас!

Бедная зіма заплакала горка на людзей, слёзкі яе цяклі са стрэх, білі па абалонках (па шыбах), разліваліся па зямлі, збягалі ў лужы, з лужаў у рэчкі, з рэчак у моры, з мораў у акіяны.

А вясна смяялася, строілася ў кветкі, гарцавала па палях, песцілася па садох, шчабятала з птушкамі, цалавалася з дзеткамі, аж пакуль не пасварылася з летам.

Хто цяпер абдалее, скажыце, дзеткі, самі.

## ЖУРАВЕЛЬ І ЧАПЛЯ

Жылі сабе па абодвух канцах балота Журавель і Чапля.

После стала ім надта маркотна жыць, і вот тут уздумаў Журавель да Чаплі ў сваты ісці. Ціпяху, ліпяху, сем вярстоў па маху, цераз бор ды ў Чапляў двор.

— Як маешся, Чапля?

— Здароў, Журавель.

— Ці не пойдзеш, Чапля, за мяне замуж?

— А твае ногі доўгія, пер'е каротка; дужа ты брыдкі... Ідзі сабе, дзе быў!

Журавель перабраўся ізноў цераз балота дый прыйшоў у свой двор. Раздумалася Чапля, што за Жураўля замуж не пайшла.



«Дай, — кажа, — пайду да яго цераз балота і перапрашу».

Ціпяху, ліпяху, сем вярстоў па маху, цераз бор ды ў Жураўлёў двор.

— Здароў, Журавель!

— Як маешся, Чапля?

— Вазьмі мяне замуж за сябе.

— Твая шыя доўгая, і сіня, і крывая, і сама ты гарбата; такой мне не патрэбна.

Хаця было і стыдна, аднак Чапля папля лася цераз бор назад у свой двор.

Шкода стала Жураўлю, што не ўзяў Чаплю бедную, і зноў пайшоў ён тою самаю дарогаю. Ціпяху, ліпяху, сем вярстоў па маху...

Так цэлы век свой і хадзілі яны адзін да аднаго ў сваты, і так на абодвух канцах балота асталіся іх хаты.

*Ніна Тарас*

## КОТ, САБАКА І МЫШ

Прайшло таму нямала год,
Калі сабака, мыш і кот
Жылі ў згодзе, разам елі,
Скакалі, нават песні пелі,
Дзялілі косці пад сталом
І забаўлялі цэлы дом.

Ды вось аднойчы гаспадар
Задумаў ехаць на базар.
Ён загадаў сабаку строга:
— Не адыходзься ад парога,
Сядзі, для пэўнасці, пры хаце,
Пільнуй усё маё багацце.

І можа мала, можа многа
Сядзеў сабака ля парога.
Ды захацеў ён паскакаць,
Крыху пагаўкаць, пабрахаць.
І кажа ён кату:
— У дружбу
Ты саслужы адну мне службу
І за мяне пільнуй у хаце
Гаспадаровае багацце.
— Ну, што ж, —
яму прамовіў кот, —
Каб большых не было турбот!
З ахвотай пасяджу ля ганка,
А ты бяжы сабе пагаўкай.

І можа мала, можа многа
Той кот праседзеў ля парога —
Паклікаў мыш, сказаў:
— У дружбу
Ты саслужы адну мне службу
І за мяне пільнуй у хаце
Гаспадаровае багацце,



Бо тут ад ветру на парозе
Я дужа лапкі памарозіў.
— Ну, добра, — кажа мыш, — скарэй
Скачы на печ ды лапы грэй.

І можа мала, можа многа
Сядзела мышка ля парога,
Ды раптам чуе — ў гушчы траў
Цвыркун на скрыпачцы зайграў.
Тут мышка, ўзяўшы лапкі ў бокі,
Хутчэй пусцілася ў скокі.
Вярнуўся гаспадар — а ў хаце,
Глядзіць, няма яго багацця.
Хацеў сабаку ён прагнаць,
Ды той пачаў яго лізаць,
Прасіць, маліць гаспадара:
— Не праганяй мяне з двара,
За гэта цэлы век нязменна
Я праслужу табе сумленна.
Тут гаспадар сказаў лагодна:
— Ну, добра, я на гэта згодны,
Служы, ды верны будзь, як друг,
Аднак — ідзі, брат, на ланцуг...

Сабака, бедны, з той пары
Сядзіць навязан на двары.
За крыўду за сваю гатоў
Ён разарваць усіх катоў.
А кот хадзіць пачаў цішэй,

Лавіць спалоханых мышэй.
А мыш, схаваўшыся ў падмосце,
Грызе падлогу там са злосці.

*Паўлюк Прануза*

## У СТРАХА ВЯЛІКІЯ ВОЧЫ

За дзень набегаўшыся ўволю,
Спачыць лёг заяц на траву.
Ад лёгкага ўсхапіўся болю —
Штось дзеўбанула ў галаву.

І, не шукаючы сцяжынак,
З кустоў збіваючы расу,
Ён бег і падаў з паўгадзіны
І ля нары спаткаў лісу.

— Ты што, сусед мой, гэтак рана?
Бяда якая? Што карціць?
Спалоханы, усхваляваны,
Ледзь заяц мог прагаварыць:

— Па мне на золаку стралялі,
Ды неаднойчы: бах-бах-бах.
Тры кулі на мяне ўпалі.
Я ледзь уцёк. Такі быў страх...

— А ці далёка месца тое?
Я правяла б цябе туды,



Разведала б я, што такое
І хто пакінуў там сляды.

Ды вось бяда. Я захварэла,
Не адыходжу ад нары. —
Ціхутка заяц і нясмела
Брыў па маўкліваму бары.

Спаткаў ваўка. І той згадзіўся:
— Твой дом знайсці дапамагу.
Пайшлі, ды хутка прыпыніўся.
Завыў: — Я далей не магу.

Ля дуба стройнага — асілка,
Нібы сястрыцы і браты,
Кляны, бярозкі і асінка,
Чырвоныя на іх лісты.

Воўк спруцянеў, нібы ўкапаны,
Закляцалі яго клыкі:
— Тут паляўнічы дзесь схаваны.
Глядзі: развесіў ён сцяжкі.

Хутчэй адсюль. Назад.
Па лесе
Брыдуць, напружваючы слых.
Мядзведзь з глухой гушчэчы лезе.
— Куды вы? — запытаў у іх.

Ён зайца выслухаў ахвоча.
— Я сам жадаю паглядзець...
Прыйшлі пад дуб.
Як зарагоча,
Як закалоціцца мядзведзь!

Быў смех такі, што задрыжалі,
Нібы ад выбуху, кусты.
Не кулі на траве ляжалі,
А тры паспелых жалуды.

*Ілья Шахрай*

## ЧАРОЎНАЯ ПАДУШАЧКА

Даўным-даўно ў адной вёсцы на высозных таполях жылі буслы. І людзі заўсёды радаваліся, гледзячы на іх, дапамагалі будаваць гнёзды — усцягвалі на таполі колы ад калёс.

Неяк навалілася на вёску бяда. Дзеці плачуць, у ложках круцяцца, ніяк заснуць не могуць. Тут дарослыя і здаўмеліся: набілі падушачкі мяккім гусіным пухам. Прылеглі дзеці, але зноў не спіцца ім, валтузяцца, капрызяць, як хворыя. І ні лекі, ні калыханкі не дапамагаюць. Зусім бацькі разгубіліся, не ведаюць, што рабіць.

Дазналіся пра бяду буслы. Выцягнулі яны са сваіх крылаў па пёрку і аддалі людзям. А пер'е ж у іх незвычайнае. Гэта пер'е птушак-вандроўнікаў, якія шмат дзівоснага нагледзеліся, шмат выпрабаванняў вытрымалі ў час пералётаў. Уклала кожная маці чароўнае буслінае пёрка ў дзіцячую падушачку. І адбыўся цуд: як толькі дзіця датулялася да яе шчакою, дык адразу ж засынала. І пачынала ў сне лятаць, нібыта птушка, над цудоўнымі мясцінамі, якіх ніколі раней не бачыла.

З таго выпадку і навучыліся людзі лятаць у сне, а потым і наяве. Кажуць, наш славуты касманаўт якраз родам з вёскі, аблюбаванай буслámi.

А ў вас ёсць чароўная падушачка?

*Васіль Вітка*

## ДЗЕЦІ НА ПАРАШУТАХ

Вясною, як толькі прыгрэла сонейка, яна першаю выглянула з сухой леташняй травы і адразу расцвіла жоўтым цветам. Азірнулася вакол, бачыць — выглянулі з травы і расцвілі іншыя кветкі — маленькія жоўтыя сонейкі.

— Гэта мае сваякі, — сказала кветка, і ёй стала радасна, што яна не адна на свеце.

Але з кожным днём прыгравала сонейка,

і кветка пачала сівець. Замест жоўтай зрабілася белай-белай.

— Што ж цяпер будзе? — спалохалася яна, бо ўбачыла, што ўсе яе сваякі таксама белыя. Чуе кветка — ляціць цяжкі калматы чмель. Яна ведала гэтага чмяля. Ён часта лятаў тут і гудзеў сваім тоўстым голасам, збіраў мёд і ніколі не мінаў яе пялёстачак.

— Што будзе? — трывожна спыталася кветка. — Няўжо я загіну і загіне ўся мая радня?

Мудры чмель ёй сказаў:

— Не палохайся. На той год закрасуеш зноў. Толькі трэба зрабіць так, каб твае дзеці разляцеліся як мага далей.

— А як мы разляцімся? У маіх жа дзетак няма крыл?

Мудры чмель думаў-думаў і нічога не прыдумаў.

— Думай сама, — сказаў ён. Загуў, як самалёт, і паляцеў.

Доўга думала кветка-дзьмухавец і нарэшце радасна ўсклікнула:

— Прыдумала! — і пачала кветка-маці шыць сваім дзеткам белыя шаўковыя парашуцікі. І толькі дзьмухнуў ветрык, паляцелі сынкі і дачушкі — кожны на сваім белым парашуціку. І кожны стараўся адляцець далей. Хто дзе ўпаў — там і заснуў да будучай вясны. А як толькі пасля зімы прыгрэла



сонейка, прачнулася маці, глянула — а навокал жоўта ад кветак!

— Як я добра прыдумала! — радасна сказала кветка-маці.

*Змітрок Бядуля*

## СКАРБ

Ля рэчкі, пад вольхай, хохлік знайшоў ракавінку. Уладзіў у ёй кузню і давай чырвонцы каваць. Праца ў яго заўсёды кіпела ўночы, калі, бадай, усе жывыя істоты спалі, калі спяваў адзін салоўка і месячык рэчку фарбаваў.

У кузні ў хохліка было некалькі памочнікаў. Светлячок раскладваў агонь на горне. Цвыркун працаваў малатком пры кавадле. Жаба дзьмухала кавальскімі мяхамі.

Пад карэннямі вольхі, ля рэчкі, крот выкапаў патаемныя падзямеллі, дзе хохлік хаваў свой багаты скарб — скрыні з золатам. Разнеслася вестка па ўсёй ваколіцы ля рэчкі, што хохлік вельмі багаты і мае незлічоныя скарбы пад вольхай.

— Сама сваімі вушамі чула, — казала маленькая плотачка ў рэчцы, — цэлымі начамі куе ды куе ў сваёй кузні, грукае і стукае і нам, рыбкам, проста спаць не дае.

— Сама сваімі вачыма бачыла,— казала варона,— усё там у яго ў кузні блішчыць і блішчыць. Свеціць як маланка, ажно вочы слепіць мне, старой. І я мусіла сабе купіць цёмныя акуляры, бо доктар драч напужаў мяне, што зусім аслепну пад старасць, калі не буду асцерагацца. Адно гора з гэтым хохлікам.

— Ку-ку! Ку-ку! Раз-два! Тры-чатыры! — кукавала зязюля на вольсе. Яна ў цёплыя раніцы сядзела на дрэве ды ўсё лічыла багацце хохліка. Але зязюля ў лічбах надта не кемная: лічыць-лічыць, заблытаецца ды зноў спачатку пачынае, і гэтак штодня.

— З-з-з-м-м-м! З-з-з-м-м-м! — гудзеў авадзень над рэчкай.— Гэта ж проста бяда, аднаму ўсё, а другому нічога. Я лётаю-лётаю, б'юся як рыба аб лёд і нічагуткі не маю, а хохлік увесь свет захапіў.

— Ш-ш-ш! — казаў чарот.— Не шуміце так, не грыміце ды не зайздросце. Працуйце, дык і вы будзеце мець. Я вось сведка, як хохлік са сваёй сям'ёй працуе да поту.

— Дурань, дурань, дурань! — крыкнуў дзяцел чароту.— Не лезь, куды цябе не просяць. Маўчы, ды годзе. А вось давайце, браткі, будзем дзяліць хохлікава дабро!

— Давайце! Давайце! — крыкнулі вераб'і.



— І мы, і мы да кампаніі! — загудзелі камары.

— Калі ўсім, дык і нам! — закудахталі куры.

Падняўся шум, гармідар, крыкі. Налятаелі з усіх бакоў звяры і птушкі, мухі і ўсе жывыя істоты, хто толькі даведаўся аб багацці хохліка. Усе рынуліся да хохліка ў кузню, каб яго абрабаваць.

Але хохліка таксама ўлегцы не возьмеш. Ён схаваў свае скарбы спрытна. Закопваў па ўсёй ваколіцы ў розных мясцінах — па лясах, па лугах, пад крушнямі, пад дрэвамі. Не было лапінкі зямлі, дзе не ляжалі б яго скарбы. Але ніхто іх знайсці не можа. Грабуцца куры на сметніках. Капаюцца птушкі на палях. Порацца звяр'ё пад карчамі, рыба ў вадзе. Шукаюць, шукаюць, але нічога з гэтага не выходзіць.

Наслухаўся малы Саўка ад свайго старога дзеда, каторы жыў у млыне ля рэчкі, шмат баек аб багатых скарбах. Яны захаваны ў зямлі, іх усе шукаюць пад карчамі і знайсці не могуць.

— Іх трэба шукаць апоўначы ў купальскую ноч, калі кветка папараці цвіце,— казаў дзед,— тады можна іх знайсці.

Вось у купальскую ноч, калі дзед ужо спаў, малы Саўка выйшаў ціхенька з хаты.

Узяў з сабою рыдлёўку і пабрыў скарбаў шукаць. Убачыў ён здалёку агеньчык, які блішчаў на полі ля крушні і вабіў да сябе.

«Гэта, пэўна, скарб!» – падумаў Саўка і пайшоў на гэты агонь. Ён да агню, а агонь ад яго далей і далей, і завёў агонь хлопчыка ў самы цёмны гушчар. Страшна і жудасна было ў гушчары. Дрэвы, як жывыя істоты, шапталіся паміж сабою і нібы дзівіліся, што такі малы хлопчык не баіцца адзін швэндацца ў лесе па начах. Тым часам агонь знік, а замест агню залаты пеўнічак заблішчаў на карчы.

– Вось дзе скарб! – узрадаваўся Саўка і трах рыдлёўкай пеўнічка па галаве. Пеўнічак запяяў і знік, а замест пеўнічка паказаўся залаты зайчык. Саўка зрабіў тое самае з зайчыкам. Паказалася залатая лісічка... Затым – залаты ваўчок... Залаты мядзведзь... Але ён дзіка раўнуў і глынуў Саўку.

Ачухаўся Саўка праз некалькі хвілін. Ажно стаіць ён пад зямлёй, а на яго глядзіць і ўсміхаецца хохлік, малюсенькі і тоненькі, як травінка, прыбраны ў шоўк і ядвабу. На галоўцы ў яго залатая карона з дарагімі каменнямі.

– Вось ты і папаўся, Саўка, у мае рукі! – сказаў хохлік.

– А я ж цябе не баюся, – загарачыўся



Саўка. – Зачэпіш мяне, дык я цябе вось адным пальцам задушу! – і паказвае хохліку свой палец. Але як глянуў сам на свой палец, дык адразу анямеў ад страху: палец цянюткі, як павуцінка. Тады давай Саўка аглядаць усяго сябе. Ажно ён сам такі ж маленькі, як хохлік. Тут Саўка спужаўся і заплакаў.

– Не плач, – сказаў хохлік. – Давай цяпер, калі ты ростам такі, як я, будзем аглядаць мае скарбы пад зямлёю.

– На волю хачу, да дзеда! – яшчэ галасней заплакаў Саўка, бо ў яго ўжо адпала ахвота скарбы глядзець.

– Вось табе і адважны, – пачаў кпіць з яго хохлік, – звяроў не баяўся, а цяпер плачаш. Сорам, а яшчэ такі хлопец! Глянь, Саўка, налева і дзівіся!

Як глянуў Саўка налева, дык адразу плакаць перастаў, бо сярэбраныя палацы мігацелі пад зямлёй. Увёў хохлік Саўку ў палацы. Як заблішчалі залатыя сцены і дарагія каменні на сталах, дык Саўка аж засмяяўся з радасці і забыўся аб усім на свеце.

– Гэта мае палацы, – тлумачыў яму хохлік. – Я тут жыву з усёй маёй вялікай грамадой. Мы ўсе вельмі багатыя. Мая грамада разышлася па ўсіх кутках зямлі на працу. Кожны хохлік мае багатыя скарбы – куе і куе золата і дае багацце таму з людзей, хто

шчыра працуе. Матка-зямля мае шмат багацця. Яна шчодрая да тых, хто любіць працаваць. Без мазалёў і поту ніякіх скарбаў не знойдзеш.

Раптам пачуўся шум пад зямлёй. З усіх бакоў, з усіх шчылін пачалі сыпацца хохлікі, як залатыя сняжынкі, як брыльянтавы мак, як жывы каляровы дождж. Малюсенькія-малюсенькія, драбнюткія-драбнюткія і многа-многа, ажно ў вачах мігацела, гледзячы на іх. А ўсе, відаць, працаўнікі заядлыя, майстры адукаваныя: хто з сякерай, хто з рыдлёўкай, хто з малатком, хто з мяшочкам за плячыма, а хто з такім дзіўным інструментам, што Саўка і не ведаў, што гэта.

— Гэта мая сямейка на вячэру прыйшла... Гэй, ты! — паклікаў хохлік аднаго з кампаніі. — Як расце поле таго ратая, што раней за ўсіх у вёсцы на шнур свой выходзіць?

— Вельмі добра расце... Я сам даглядаю жытнія зярняткі, кармлю іх зямельным сокам і паю расіцай.

— А ты што сягоння зрабіў? — строга крыкнуў ён другому.

— Я глядзеў за тым, каб сад добра расцітаў, каб вецер без пары кветак не зрываў.

— Ну, глядзі, бо гаспадар дзень і ноч у садзе капаўся, трэба, каб яблыкі былі, як гарбузы, а грушы — як кулакі.



— А ты, жэўжык, што рабіў? — звярнуўся ён да трэцяга.

— Я пільнаваў агарод з агуркамі. Лічыў і лічыў, бо трэба, каб сёлета было шмат агуркоў. — І хохлік пачаў лічыць па пальцах. — Пяць коп гаспадару; шаўцу, што яму боты шыў, — тры капы; кавалю за рыдлёўку — тры капы; хлопчыку, які ваду цягаў, — тры...

— Ах ты такі і сякі! — зазлаваўся стары хохлік. — Чаму ты гэтакі скупы? Глядзі, каб усім было не меней як па дзесяць коп!

— Буду старацца, — пужліва сказаў працаўнік.

Падышоў новы хохлік з кнігай і пачаў чытаць аб тым, як хлопчыкі ў школах вучацца, хто стараецца і хто толькі мух ловіць. Доўга чытаў ён аб гэтым, пералічваючы ўсіх сяброў і знаёмых Саўкі.

— Рыхтаваць старанным хлопчыкам самыя найлепшыя гасцінцы, а гультаям і абібокам нічога не даваць! — загадаў старшы хохлік.

Пасля розных распытванняў працавітыя хохлікі селі вячэраць. Чаго-чаго там ні было на вячэру: самыя найлепшыя прысмакі, якія толькі ёсць на зямлі. Саўку, як госцю, вядомая рэч, пападаліся найсмачнейшыя кавалкі.

Павячэраўшы сытна, Саўка заснуў і не

паспеў азірнуцца, як апынуўся на ложку сваім у дзедавай хаце.

З таго часу болей Саўка не шукаў скарбаў, бо ведаў, што матка-зямля мае іх у сабе вельмі шмат, але дае толькі тым, хто працуе. І Саўка ўзяўся за навуку, каб навучыцца працаваць.

*Алесь Якімовіч*

## ВЕРАБ'ЁВЫ ГОСЦІ

Збудаваў верабей
На сметніку хатку.
Палажыў у дзвярах
Дубовую кладку.

Учыніў верабей
Каля хаткі жніва,
Наварыў бочак пяць
Пшанічнага піва.

Ўсё, што трэба, зрабіў
Дома і за домам
Ды лісты разаслаў
Родным і знаёмым:

— Нізка б'ю вам чалом,
Мае ягамосці,



Прыязджайце хутчэй
Да мяне у госці!

Апрануўся як след
Ды стаў ля парога.
Бачыць: едзе гасцей
Многа, многа, многа!..

Едзе сам журавель
З жонкай жураўліхай,
Едзе бусел-клекатун
З жонкаю бусліхай.

Едзе і чачотка —
Вераб'ёва цётка,
Едзе і сініца —
Родная сястрыца.

Гуска з гусянятамі,
Качка з качанятамі,
І сарокі, і дзятлы,
І вароны, і шчыглы...

Прыляцеў і удот
Ды усеўся на плот.

Рады шэры верабей —
Шмат наехала гасцей!

Сабраліся госці.
Чым жа частаваць?
Узяліся разам
Абед гатаваць.

Журавель з чачоткай
Грэчку малацілі,
Курапатка з гускай
Да млына насілі.

Бусел жорны круціць,
Качка засыпае,
А сінічка-невялічка
Муку абірае.

Намалолі мукі
На бліны, праснакі.

Напяклі пірагоў
Цэлых сем карабоў.

Ды злавілі камара
Каля падваротні,
Нарабілі каўбас
Пэўна аж паўсотні.

Сталі есці, сталі піць,
Вераб'я таго хваліць.



Елі мяса, каўбасу,
Елі верашчаку.
Як пад'елі, вераб'ю
Ўсе сказалі: «Дзякуй!»

Тут музыкі, як адзін,
Весела зайгралі,
Госці ўпрысядкі пайшлі,
Песні заспявалі.

Вось сарока-белабока
Скача, глянуць люба.
А удод навокал ходзіць,
Патрасае чубам:

— Я стракаты удод,
Я — чубаты Фядот.
Дзюба ў мяне — спіца.
Мяне сам майскі жук
Як агню баіцца!

Дзяцел голас падаў:
— Знайшоў чым хваліцца!
Ты б жука з-пад кары
Выдзеўб гэтай спіцай!

— Глупства! — бусел сказаў. —
Глупства, ды і толькі:
Паспрабуйце сыграць
Дзюбаю вы польку!

І пайшоў танцаваць,
Сам сабе падпяваць:
— Скача жаба па балоце,
Скача па чароце.
Ты скачы ці не скачы —
Ад мяне не уцячы!

Усміхнуўся журавель:
— А я што — калека?
Паглядзіце на мяне,
Які я умека!

— Ух-ух! Ух-ха-ха! —
Распусціў ён крыллі,
Жураўліху падхапіў
Ды ўрэзаў кадрылю.

Тупнуў сам верабей,
Узяўшыся ў бокі.
А за ім і дзятлы
Пусціліся ў скокі.

За дзятламі — шчыглы,
Гуска, курапатка...
Дружна скачуць, пяюць,
Аж трасецца хатка:
— Дылі-дылі, гуль-гуль!
— Дылі-дылі, буль-буль!



Так ішла тут гульня
Аж да белага дня.
Ўсе стаміліся.
Замарыліся.

Наступіў журавель
На нагу сініцы.
А сініца — у крык:
— Ёлапень, дурніца!

І давай жураўля
Біць па чым цапала.
Жураўліха мужыка
Ледзьве ўратавала.

— Б'юць сястру!
Б'юць сястру! —
Закрычала сойка.
І вароны, і дзятлы
Кінуліся ў бойку.

Хто напаў на каго —
Цяжка разабрацца.
Толькі пер'е ды пух
Сцелецца па хатцы.

Бусел дзюбай даўгой
Б'е ўсіх па парадку.
На бяду вераб'ю
Развалілі хатку...

І цяпер верабей
З гэтае прычыны
На задворках жыве
Без сваёй хаціны.

Я ў гасцях таксама быў,
Вераб'ёва піва піў.
Хоць па вусах і цякло,
А у роце не было.

*Клаўдзія Каліна*

## СТРАКАТАЯ СОЙКА

Даўным-даўно было гэта. Толькі пачалася цёплая восень, а птушкі ўжо збіраюцца ў вырай. Пачула Сойка, што і яе сваячка Зязюля рыхтуецца да адлёту за мора.

«Мусіць, за тым морам добра і хараша, калі Зязюля спяшаецца туды? — падумала Сойка. — А што калі і мне паляцець? Свет убачу, сябе пакажу».

А трэба сказаць, што Сойка ў той час была не такая прыгожая, як цяпер.

Спаткала Сойка Зязюлю і здзівілася. Прybралася тая перад выраем: рабенькае пер'е аж пераліваецца на сонейку.

— Ах, якая ты, сястрыца, прыгожая! — з зайздрасцю ўсклікнула Сойка.



— Трэба прыхарашыцца, у чужы край лячу. — І Зязюля папраўіла дзюбкай пёрка.

— Хачу і я паляцець у выраи, паглядзець, што за край за тым морам, — сказала Сойка.

— Ты хочаш ляцець за мора? У такім шэрым убранні? І не думай, засмяюць цябе там.

— Вось як! — разззлавалася Сойка. — Дык ведай, я ў сто разоў прыгажэй за цябе прыбяруся... Убачыш.

І не паспела Зязюля здагадацца, што надумала рабіць Сойка, як тая вырвала ў яе некалькі пёркаў.

— Зладзейка! Разбойніца! — закрычала Зязюля. — Усім раскажу, якая ты, — і кінулася наўцёкі.

— Кажы, кажы, а за мора я палячу прыгажэйшаю за цябе, — зацвірчэла Сойка і пачала прыладжваць на сваё крыло Зязюліны пёркі.

Прыладзіла і паляцела да ручайка паглядзецца ў ваду. А там у зарасніках арэшніку мітусіліся і свісталі Івалгі:

— Фію-фію! Фію-фі-і! Мы збіраемся ў выраи! Убачылі Сойку і паляцелі з крыкам:

— Ратуйцеся! Разбойніца! Фію-фі!

— Пачакайце, куды вы? — заверашчала Сойка, але Івалгі ўжо разляцеліся.

Сойка пашкадавала, што не змагла раздабыць у іх некалькі жоўтых пёркаў.

Тут яна ўбачыла Сіваваронку і стала асцярожна падкрадацца да яе.

— Гва-алт! — залямантавала Сіваваронка, але на гэты раз Сойка ўсё ж пажывілася некалькімі сіненькімі пёркамі!

З таго дня Сойка стала падпільноўваць усіх птушак, што адляталі за мора.

Яе ўбранне рабілася ўсё больш стракатае. З'явіліся белыя, сінія, чорныя пёркі.

І стала Сойка вельмі прыгожай птушкай. І пачала яна лятаць па лесе і хваліцца ўсім:

— Скора і я палячу за мора, няхай усе паглядзяць, якое ў Сойкі ўбранне.

Лятала яна так ад аднае птушкі да другой і ўсё хвалілася сваім уборам.

Аднаго разу Сарока і кажа Сойцы:

— Прыгожае ўбранне, ды не сваё. Калі думаеш за мора ляцець, то спяшайся, а то цябе зіма застане тут.

— Толькі і ведаеш плёткі разносіць па лесе, — сказала Сойка. — Паспею яшчэ, няхай тут усе птушкі пабачаць мой новы ўбор.

Прачнулася Сойка аднае раніцы, а на галінках — снег, і зямля ўся зацярушана ім. Сустрэла яе Сарока і затрашчала:

— А што я казала, а што я казала... І ўбор новы прыдбала і за мора не паляцела!

— Мне і тут добра. Затое няма прыгажэйшай за мяне птушкі ў гэтым лесе.



Снягір пачуў, як хваліць свой убор Сойка, ціўкнуў і паляцеў далей у гушчар. А сярод людзей цяпер можна пачуць:

— Прыбралася, як сойка стракатая.

## ПЕСНЯ ВЯСНЫ

Злая Зіма пасля доўгай вандроўкі падалася назад у свой край, дзе ніколі не бывае лета, дзе ўсё закута ў лёд і занесена снегам.

Яна ішла па дрымучым лесе. А следам з мяшком снегу за плячамі бегла Завея. Яе сівыя кудлы былі не прычэсаны, адзенне вісела на ёй пашарпанымі шматкамі.

— У-у-у-у! — жаласна завывала Завея. — Гэта бязлітаснае Сонца так рада Вясне, што хоча загубіць нас.

— Не выходзь на прагаліны, трымайся ценю, — сказала Зіма.

А за імі з праталінкі на праталінку бегла басаногая Вясна. На плячах у яе сядзелі дзве птушкі і весела спявалі:

Уцякай, злы Мароз,
Кідай санкі, бяры воз!

Там, дзе ступала Вясна, падымала галоўку блакітная кветачка пралеска. Яна выпрост-

вала сваю зялёную ножку і цягнулася ўсё вышэй і вышэй да Сонца.

Убачыла Зіма пралеску, азірнулася і гнеўна пагразіла Вясне:

— Я замарожу твае кветкі!

Вясна ўсміхнулася, кіўнула на блакітнае неба і адказала на пагрозу:

— Паслухай, як заліваецца звонкай песняй жаваранак. Яго ты не замарозіш. А гэта мой пасланец.

Злосная Зіма закрычала што мела сілы на Вясну:

— Рана ты смяешся! Глядзі. — І дзьмухнула Зіма холадам на блакітную кветачку, а Завея страсянула галавой, заматляла сваімі кудламі і сыпнула з мяшка снегам.

Вясна знікла ў снежнай завірусе. Зіма ўзрадавалася сваёй сіле. Яна бачыла, як упалі шэранькімі камячкамі і схаваліся ў кустах жаваранкі, як паніклі і апусцілі галоўкі пралескі.

— Ха-ха-ха! — зарагатала Зіма. — Хто з нас дужэйшы? Дзе твае кветкі, Вясна? Чаму змоўк жаваранак? Я ўсё загубіла, усё памарозіла. А мая служка Завея замяла іх снегам, пахавала навекі.

Выйшла Зіма з-пад густых ялін на паляну, радасна паглядзела на засыпаную снегам зямлю і гукнула зноў:



— Прыгажуня-вясна, хто тут гаспадыня, я ці ты?

Пачула гэта ласкавае Сонца, выглянула з-за хмар і сваімі цёплымі праменнямі прайшлося па зямлі. Адразу падняўся ўгору жаваранак. Зноў палілася ў вышыні цудоўная песня Вясны і Сонца. Зноў падняла галоўку сіняя пралеска. Памытая снегавой вадой, яна яшчэ больш пахарашэла.

Застагнала ад лютай злосці Зіма, падхапіла Завею ды ходу далей, на поўнач.

## ФІЯЛКА

Увесну пад старою ліпаю расцвіла маленькая Фіялка. Яна з цікавасцю паглядзела навокал і ўбачыла, што ўсе яе суседкі яркія і высокія і над імі кружацца прыгожыя матылькі. А да яе, маленькай кветкі, ніхто не прылятаў, і яна самотна цвіла ў густой траве.

— Ах! — жаласна ўсклікнула Фіялка. — Чаму я такая няшчасная? Ні адзін матылёк не можа знайсці мяне. Лепш бы я зусім не цвіла.

І раптам яна пачула прыемнае гудзенне... Гэта Пчала закружылася над ёю і апусцілася на сінія пялёсткі.

— Як ты мяне знайшла? — спытала радасна кветка. — Я ж такая маленькая і непрыкметная!

— У цябе цудоўны пах, — прагула Пчала.

— Няўжо? — здзівілася Фіялка. — Нават лепшы, чым у тых жоўтых?

— Лепшы. Ты самая цудоўная з ранніх кветак. І я часта буду прылятаць да цябе.

Пчала дакранулася да кветкі, узяла кропельку духмянага нектару і паляцела ў вулей.

І маленькая фіялка яшчэ пышней расцвіла, павесялела. Яна адчула сябе самай шчаслівай на веснавой зямлі. Пчала абмінула многа яркіх высокіх кветак, а знайшла яе, маленькую, непрыкметную, у траве.

*Максім Танк*

## КОНЬ І ЛЕЎ

**(Паводле народнай казкі)**

Працаваў буланы Конь
У гаспадара,
З году ў год вазы вазіў
І зямлю араў.

А калі ён пастарэў
Ды нядужым стаў,
Гаспадар яго з двара
Праганяць пачаў.



Уздыхнуў і кажа Конь:
— Ці ж за шмат гадоў
Я ў цябе не зарабіў
Чатырох падкоў!..

Гаспадар жалеза ўзяў,
Падкаваў Каня.
І пайшоў буланы ўдаль
Насустрэчу дня.

Ён ідзе, мурог скубе,
Ліст духмяны з дрэў.
Раптам бачыць: перад ім
Сам магутны Леў.

— Што ж не кланяешся мне? —
Грозна Леў спытаў.
— Ах, даруй мне, цар звяроў... —
Конь так адказаў. —

Выгнаў гаспадар мяне
Ў гэты ранні час.
Я, галодны, скуб траву, —
Не заўважыў вас.

— Усё роўна вінават
Ты перада мной.
Паглядзі, — гаворыць Леў, —
Што зраблю з табой!

Глыбу з крушні ён схапіў
Ў кіпцюры свае
І так сціснуў, што вада
Пырснула з яе.

— Ну, вядома, ў камні ёсць
Ад дажджоў, снягоў
Шмат вады, што церушаць
Хмары на яго.

Дзіва большае было б, —
Кажа гэтак Конь, —
Каб з гранітнай глыбы мог
Высекчы агонь!

— Бачыш, я дастаў вады, —
Кажа Леў Каню, —
Што мне значыцца дастаць
Нейкага агню!

Спрабаваў Леў высякаць
Іскры, ды дарма,
Толькі кіпцюры ступіў,
А агню — няма.

— Ну, цяпер твая чарга! —
Кажа цар звяроў...
Тут у глыбу ўдарыў Конь
З чатырох падкоў.



Пад аблокі іскраў сноп
З громам паляцеў.
Аж не знаў як уцякаць
З перапуду Леў.

Вось ляціць ён, ледзь жывы,
А настрэчу Воўк.
Той пачаў цару звяроў
Кланяцца здалёк.

— Перастань ты, — кажа Леў, —
Кланяцца да ног.
Я не цар, бо Конь мяне
Сёння перамог.

Воўк не верыць: — Як, скажы,
Ты паддаўся, Леў,
Бо асілкаў гэткіх я,
Пэўна, з сотню з'еў.

Толькі мне ты пакажы
Гэтага Каня, —
Ад яго нат і касцей
Не пакіну я.

— Не хваліся, — кажа Леў, —
І не смейся лепш:
Як пабачыш ты Каня,
З страху сам памрэш.

Хочаш, я табе яго
Пакажу здалёк... —
І пайшлі глядзець яны —
Леў і шэры Воўк.

Толькі лес прайшлі, тут Леў
Кажа: — Бачу я
За пагоркам, на лугу
Гэтага Каня.

Ты ніжэйшы ростам, Воўк,
Можа, не відаць?
Дай спрабую я цябе
Ды вышэй падняць.

І хоць асцярожна Леў
Друга ў лапы згроб,
Але зіркачы ў таго
Вылезлі на лоб.

— Што ж ты дыхаць перастаў? —
Запытаўся Леў. —
Перш хваліўся, а цяпер
З страху анямеў!..

Тут Леў бразнуў аб зямлю
Шэрага Ваўка
І да логвішча свайго
Кінуўся ўцякаць.



Гэта бачыў Гаспадар.
Рад быў дужа ён,
Што ад ворага яго
Выратаваў Конь.

Ён буланага вярнуў
Зноў у стайню — ў дом
І ўвесь век яго карміў
Сенам ды аўсом.

*Валянцін Лукша*

## ЦІКАЎНЫ БАРСУК

Па-над стромай рачной,
Дзе, як жорны, віры,
Жыў занадта цікаўны Барсук
У нары.
Жыў ды быў...
Над ягонай утульнаю хатаю
Нахілялі яліны
Галіны
Бухматыя.
Толькі з пэўнай пары
Барсуку кепска спіцца —
Захацела ў ягонай нары
Пасяліцца Лісіца.
Думу думае,
Як Барсука абхітрыць,

Каб у хатцы ягонай
Спакойна пажыць.
Думу думае дзень,
Думу думае два,
Ажно кругам ідзе
У Лісы галава.
І надумала:
— Слухай,
Суседзе Барсук,
Калі носам праб'еш
Ў сухадрэвіне сук,
Небывалыя дзівы
Убачыць ты зможаш —
Горы розных ласункаў,
Барсучых шмат прыгожых.
Толькі трэба сказаць,
Каб пачулі суседзі:
«Не баюся Мядзведзя!
Не баюся Мядзведзя!..»

Не падумаў Барсук
Пра благія намеры
І Лісіцы-хітрыцы
На слова паверыў.
А Лісіца тым часам
Шаптала Мядзведзю:
— Ты паверыш,
Суседзе?
Ты паслухай,



Суседзе...
Наш Барсук —
Я хвастом, калі хочаш,
клянуся —
На ўсю пушчу крычыць:
«Мішкі я не баюся!»

Мішка Лісцы ў адказ:
— Ну, пайду
Пагляджу,
Бо я гонарам вельмі сваім
Даражу...

Падышоў касалапы
Да дуба старога.
Там Барсук —
Ледзь жывы —
Прытаміўся, нябога,
Але нема крычыць,
Каб пачулі суседзі:
— Не баюся Мядзведзя!
Не баюся Мядзведзя!..

Раззлаваўся Мядзведзь —
Кіпцюрастаю лапай,
Не шкадуючы,
Дурня ляснога падрапаў.
Як заенчыў ад болю
Цікаўны Барсук,

Тузануўся,
Аж трэснуў пракляты той сук —
У лясную глушэчу
Ляціць,
Быццам куля...

Так свайго дамаглася
Лісіца-хітруля.
Узышла каралевай яна
На гару,
Заняла ў рэшце рэшт
Барсукову нару.

А Барсук?
Ён прыжыўся ля новай гары.
Будаваў,
Майстраваў
Ад зары да зары,
Каб нара
І утульнай была,
І глыбокай:
— Зайздрасць хай апякае
Лісінае вока!..

Прабубніць ён такое,
Вясёлы і шустры,
І
Не-не
Ды зірне



У крынічнае люстра.
З-за хітрухі лясной,
З-за праклятай Лісы
На яго галаве —
Светлых тры паласы...

## ЧАМУ ГУСІ ЛЯЦЯЦЬ ЛАНЦУЖКОМ

Далей ад сцежак людных,
Ад дарог
Пасеяў рупны гаспадар гарох.
Пайшоў на поле неяк
Рана-рана, —
Гарох, як ёсць,
На полі здратаваны.
Хто б гэта мог такое учыніць?
Пачаў начамі
Злыдня ён сачыць.
Угледзеў,
Што ляцяць да поля гусі:
«Яны патраву учынілі, мусіць?»
Ён доўга-доўга думаў,
Як тут быць:
Адну са стрэльбы можна правучыць,
Адну са стрэльбы можна пакараць, —
Астатнія ж —
Спакойна паляцяць.

Надумаў:
«Мёду я вазьму,
Гарэлкі трохі,
Змяшаю —
І ў карыта ля гароху!»

Надумаў і зрабіў.
І вось чакае...
На поле гусі раннем прылятаюць.
Гароху падзяўблі,
З карыта папілі —
Не могуць адарвацца ад зямлі.
А гаспадар з-за плота скочыў лоўка,
Гусей адною павязаў вяроўкай,
Расправіцца збіраўся з першай гускай,
Ды ў крык яна,
Крылом яго як лусне!
І статак раптам ускрыліў ў паветра,
А з ім і гаспадар плыве пад ветрам.
Баіцца гаспадар.
Глядзіць —
Балота.
Ад радасці усцешыўся употай:
«Тут падаць з вышыні
Мне будзе мякка».

Вяроўку упусціў і —
Ўніз,
Як мячык...



А гусі з той пары
Асеннім днём
Вяслуюць ў паднябессі
Ланцужком.

*Пятрусь Макаль*

## ВОЎК І ЛІСА

Занядужаў, захварэў
Цар звяроў магутны Леў.
У яго пад вечар дома
Пазбіраліся звяры,
Спачуваючы, вядома,
Як сапраўдныя сябры...
Не прыйшла Ліса адна.
«Вось дык гэта навіна!
Пачакай!» падумаў Воўк
І зубамі шчоўк ды шчоўк.
І пра гэта ціха, глуха
Ён Ільву шапнуў на вуха.
Узлаваўся хворы Леў
І ад гневу аж збялеў.
Сіплым голасам зароў,
Напалохаўшы звяроў:
— Той, хто ўбачыць,
Хай адразу
Да мяне вядзе Лісу,
Шалахвостку за абразу

На кавалкі разнясу!
Як дачулася пра гэта
У нары Ліса-кума,
Дык прыбегла з-за паўсвета
У бярлог Ільва сама.
У вачах хітрынкі скачуць,
Закруціўся хвост трубой.
— Ты хацеў мяне пабачыць —
Вось і я перад табой.
Грозны Леў гукнуў ад гневу,
Аж загойдаліся дрэвы:
— Бач, мяне прыйшлі наведаць,
Як сябры,
Усе звяры...
Ну, а ты?
Хачу я ведаць,
Дзе была ты?
Гавары!
А Ліса Ільву ў адказ
Праспявала ў той жа час:
— О лясны магутны цар!
Памяркуй, мой валадар,
Ды хіба віна мая,
Што хацела вельмі я
Для тваёй ільвінай чэсці
Вестку добрую прынесці?
Гаспадар ляснога царства,
У трывозе і ў журбе
Сёння цэлы дзень лякарства



Я шукала для цябе...
— Што ж, хвалю! —
Усклікнуў Леў
І адразу пасвятлеў.
— Дзе ж лякарства?
Дай хутчэй!..
Можа, стане мне лягчэй.
Галаском ліслівым Ліска
Адказала:
— Лекі блізка.
Лекі Воўк схаваў у пятку.
Вып'еш іх — і ўсё ў парадку.
Пойдуць прэч хваробы ўсе...
...Леў падзякаваў Лісе
За ратунак ад бяды.
І гукнуў:
— Ваўка сюды!
Ну, а ўсе адгэтуль — вон!
Прамінула колькі дзён.
І Ліса на шпацыр выйшла,
Прытанцоўваючы ўвішна.
Ажно бачыць —
Сярод гаю
Па імху, па мурагу
Воўк павольна чыкільгае,
Ледзьве цягнучы нагу.
Глянула кума з дакорам
На старога плеткара:

— Будзеш помніць — нагаворы
Не даводзяць да дабра!

*Уладзімір Дубоўка*

## ЯК СІНЯЧОК ДА СОНЦА ЛЁТАЎ

### 1

Быў час, калі агню нідзе
на свеце не было ў людзей.

І цеплыня ім, і святло —
усё ад сонейка ішло.

Зімой пакутаваў народ:
навокал сцюжа, снег і лёд.

Мароз гуляў, як гаспадар.
Амаль не грэла сонца з хмар.

Нагараваўшыся зімой,
прыйшлі да думкі ўсе такой:

— Ад сонца б іскрачку адну
прынесці ў нашу старану!

Тады б расклалі мы агонь
і грэліся каля яго.



А як бы гэта хто зрабіў,
калі не маюць людзі крыл?

Пасля надумаліся ўсе:
«Агонь нам птушка прынясе!»

А птушкі дружна на зямлі
у часе тым з людзьмі жылі.

Пайшлі да птушак грамадой
з сваёй вялікаю бядой.

Адказ ад птушак быў такі:
— Занадта шлях для нас цяжкі!

Не паляцім далёка так! —
Адзін маленечкі сіняк

ляцець да сонца згоду даў,
чаго ніхто і не чакаў.

Вароны ўсе адразу ў крык:
— Ты прыкусіў бы лепш язык!

Не даляцець табе да хмар!
Загінеш ты!

Кар-р!
Кар-р!

Шкадуюць птушачкі усе:
— Маленькі вельмі ты, сусед!

Не ашчаслівіш ты людзей,
асіраціш сваіх дзяцей...

А сінячок дае адказ:
— Бясспрэчна, я слабей за вас!

Але ж агню няма бліжэй,
а ён патрэбен для людзей!

І паляцеў да сонца так
адзін маленечкі сіняк.

**2**

Ляцеў, ляцеў і прыляцеў.
Вясёлым голасам запеў.

Сваім вясёлым спевам тым
здзівіў ён сонейка зусім.

— Адкуль узяўся ты, сіняк,
не зразумею я ніяк!

За ўсе мінулыя вякі
ў мяне ты першы госць такі! —

Маленькі гэты сонцаў госць
і расказаў пра ўсё, як ёсць.



— Нялёгкі людзі маюць лёс.
Мяне прасілі, каб прынёс
адну іскрыначку для іх
з агнёў палаючых тваіх!

— Прыдумаць не магу ніяк,
што і сказаць табе, сіняк!

Калі агню табе я дам,
як занясеш яго людзям?

Пакуль пабачыш ты свой бор,
ці сам згарыш, ці твой убор!

— Ляцець памалу буду я.
Не спаліць іскарка твая!

— Ну што, сіняк, з табой рабіць!
Агонь, як бачыш сам, гарыць!

Вазьмі лучынку, прыпалі.
Нясі, як зможаш, да зямлі!

Лучынку ўзяў ад сонца ён,
заціснуў дзюбкаю цаўё,

пасля лучынку прыпаліў
і паляцеў з ёй да зямлі...

3

Ляцеў, ляцеў і прыляцеў
ён да сваіх палескіх дрэў.

Ляціць над Прыпяццю-ракой,
Палессе бачыць пад сабой.

Яго вітаюць птушкі ўсе:
— Сіняк ляціць!
Агонь нясе!

Вітаюць людзі ўсе яго:
— Сіняк ляціць!
Нясе агонь! —

Пачуўшы спевы, гоман той,
Сіняк пачаў ляцець стралой.

Агонь узняўся, абхапіў
яго ад галавы да крыл.

Увесь убор гарыць на ім,
закрыў яго адразу дым.

Але не выпусціў ніяк
лучыну з дзюбачкі сіняк,

прынёс агонь, аддаў людзям,
застаўся хоць без пер'я сам.



Пазагараліся кастры,
ад іскры полымя гарыць.

А сінячок, хоць не памёр,
сядзіць галюткі ўвесь, без пёр.

Сумуюць птушкі навакол.
Адзін маленькі пасвіцёл

параду даў такую ўсім:
— Па пёрку мы яму дадзім!

Для нас не будзе страты ў тым,
а ўбор адновіцца на ім!

Адклад нідзе на лад не йдзе, —
адразу ж памаглі ў бядзе.

Здаецца, што — адно пяро!
А колькі пёр з усіх сяброў!

Дапамагчы быў кожны рад,
па пёрку ўсе сабралі шмат.

І аднавіўся зноў убор
на сінячку з сяброўскіх пёр.

У кожнай птушкі колер свой
зімой бывае і вясной.

На той — чырвоны, сіні — ў той,
зялёны, жоўты — на другой...

Багата колераў на іх!
А сінячок сабраў з усіх.

Ён сам калісьці сіні быў,
пакуль агонь не абпаліў.

Не называлі б людзі так,
каб іншы колер меў сіняк!

Цяпер, па памяці старой,
застаўся ўсё ж ён з назвай той,

хоць многа колераў на ім,
хоць стаў стракаты ён зусім...

Адзін пугач не даў пяра,
яшчэ пры гэтым дакараў:

— Яго я лётаць не прасіў!
Узняўся тут страшэнны сквіл.

На грубіянства і дакор
аж загудзеў зялёны бор.

Напалі ўсе на пугача.
Хто дзюбай б'е, хто з-за пляча.

Пачаў даводзіць нешта ён.
Калі ж далі з усіх старон,



схаваўся ціхенька ў карчы,
ад злосці керкае, сычыць.

Сядзеў да цёмнай ночы там,
бо вінаваты быў ён сам.

Ад той пары яго нідзе
не ўбачыш ты у ясны дзень.

Калі на гнёздах птушкі спяць,
тады ён можа вылятаць...

Ад старадаўняй той пары
такі парадак у бары.

А сінячку нядрэнна ў ім.
Ён не баіцца нават зім,

пагрэцца у зімовы час
ляціць у вёску ён да нас.

Яму не страшны тут мароз:
агонь ад сонца ён прынёс.

Пагрэцца мае права ён!
Такі парадак з даўніх дзён

існуе ў нашай старане,
і ён ніколі не міне...

*Мікола Чарняўскі*

## БЫЛІ Ў ЗІМЫ ТРЫ СЫНЫ

Прыпынілася Зіма
У дуброве звонкай.
Падшывае дацямна
Дратваю валёнкі.
І бубніць сабе пад нос
Песеньку, старая,
Як вясёлы Дзед Мароз
Па зямлі блукае.

Як будуе ён масты
Без цаглін і паляў,
Каб завеі наўпрасткі
Па зямлі гулялі.
Пра свае спявае сны...
А ў даўгія ночы
Каля печы спяць сыны
І ўставаць не хочуць.

Вось накрыўся з галавой
Снежань —
Сын старэйшы.
Ён з усіх яе сыноў
Самы лагаднейшы.

Хоць сярэдняга няма,
Але хутка будзе.



Добра ведае Зіма,
Што дзяжурыць Студзень.
Вунь пад коўдраю прыціх
Сын апошні — Люты,
Хоць малодшы ён за ўсіх,
Ды занадта люты.
Лютым хваліцца заўжды
Чараўніца злая
І па свеце халады
З меншым пасылае.

Каля Лютага сядзіць
Да світання моўчкі.
Развіднелася —
Будзіць
Пачала сыночка.
— Уставай і — за парог! —
Кажа маці строга
І кладзе ў кішэнь пірог
Сыну на дарогу.

Выйшаў Люты,
Паглядзеў,
Пахадзіў ля хаты.
Бачыць,
Дзед Мароз ідзе
Белы, барадаты.
— Ну, унучак мой,
Пайшлі.
Потым пагаворым...

Па заснежанай раллі
Праз лугі, азёры
Ходзіць Люты,
Ў кожны кут
Зазірае пільна,
Абсыпае кожны куст
Зіхатлівым пылам.

Праляцела дваццаць дзён.
Шлях ляжыць на поўдзень.
Ды на стрэчу з поўдня ён
Ні за што не пойдзе:
Там чуваць вясёлы крык —
Сцюж спыніўшы рогат,
Выпраўляе Сакавік
Птушак у дарогу...

Паспрабуй змагацца з ім,
Не ўстаіш ніколі.
Люты змогся ўжо зусім —
Сакавік адолеў...

Да свайго прыйшоў двара,
Стукнуў грозна ў дзверы:
— Ну, браты мае,
Пара
Нам мяняць кватэру!



*Алена Васілевіч*

## КАЛІНАВАЯ РУКАВІЧКА

Чаму рукавічка, калі казка будзе пра чырвоную каліну, пра старую яліну-казачніцу, пра ветра-бяздомніка?

А вось паслухай.

Расла на ўзлессі каліна. Была-была ўсё маленькая ды раптам, зусім нეяк непрыкметна, вырасла. Зацвіла белым цветам, закрасавала — на дзіва і зайздрасць усім суседнім дрэвам.

— Ф-фарсуха,— пазіраючы на яе, аж трэсліся ў лажку асіны. Яны былі заўсёды бледныя і зялёныя, і заўсёды ім было холадна.

— Падумаеш, выстраілася,— шапталі хмурыя яліны. Яны насілі цёмнае адзенне і размаўлялі толькі шэптам.

Учэпістыя калючыя дубкі, што раслі на схіле пагорка, таксама непрыхільна пазіралі на маладую каліну: яна зусім не звяртала на іх увагі.

Толькі старая яліна-казачніца спачувальна пазірала на каліну-прыгажуню і жаласна ківала галавой:

— Пацвіце, пакрасуецца ды і завяне. Не яна першая, не яна апошняя... Па лесе гуляе бура, ломіцца грубая жывёла, чалавек хо-

дзіць... А ў яго нядобрыя рукі. Ён ломіць і крышыць усё, што ні стрэне на дарозе. Усё крышыць і ломіць...

Яліна-казачніца пражыла доўгае жыццё і ўсяго нагледзелася за свой век.

Нарадзілася яна ў гэтым лесе даўным-даўно. Яшчэ да пажару. Тады тут жыла і яе маці, маладая стромкая яліна, і бабуля, гэтакая ж, як яна сама цяпер, згорбленая і пахмурая... А потым па лесе прайшоў пажар. Цэлы тыдзень схапіўшыся загрудкі з агнём, змагаўся лес супроць смерці. Цэлы тыдзень агонь нішчыў лясны род. Згарэла маладая прыгожая яліна-маці, згарэла старая бабуля. Не засталося нікога ні з радні, ні з суседзяў. Нейкім цудам уратавалася ў гэтым пекле толькі яна — маладзенькая ялінка. Пажар не абмінуў і яе, але яна выжыла. Сагнулася на адзін бок, пакалечаная, але ўсё-такі жыла!

Мінуў год, за ім другі — і на пажарышчы пачалі адскакваць вясёлыя бярозкі, палез сям-там ельнік, пайшла ўсялякая лясная драбяза.

Мінула яшчэ некалькі гадоў, і вялікае ляснoe няшчасце, як і ўсё на свеце, пачало забывацца.

Вось чаму яліна-казачніца была самай старэйшай і самай мудрай у гэтым лесе.

Цэлымі днямі гойдалася яна на старэчых



нагах ды моўчкі прыглядалася да ляснога жыцця: як трымаюцца і пра што вядуць гутарку маладзейшыя дрэвы, аб чым пяюць птушкі, куды лятае вецер-бяздомнік... Прыглядалася, прыслухоўвалася і ўсё шаптала сабе нешта, усё нешта шаптала...

А ноччу, калі ў лесе рабілася цёмна, хоць выкалі вока, да яліны-казачніцы прылятала старая сава. Днем яна спала, а ноччу гойсала па лесе, шукала сабе спажывы.

— Гэта ты, паўночніца,— нездаволена сустракала яе яліна,— не люблю я тваіх сквапных вачэй. Усе кругом спяць, а ты ўсё шнырыш, усё шнырыш па лесе. Сну няма на цябе.

— Я днём выспалася,— пазяхала сава,— а ноччу ў мяне паляванне: дзе дурное соннае зайчаня схаплю, дзе на мышыную сям'ю натраплю. Ху-ху-ху!

— Зладзейка ты...

— Ху-ху-ху! — зноў на самае вуха старой яліне рагатала сава.— Ты вельмі добрая...

І — мах-мах крыламі — знікла ў цемры.

— Паляцела... — бурчала ўслед ёй яліна-казачніца, пільна прыслухоўваючыся да шолаху ў вавёрчынай хаце.

Вавёрка жыла па суседству з ялінай у цёплым асінавым дупле. Яна была свавольніца і балаболка. Але старая яліна паважала вавёрку за працавітасць і спрыт.

Усё лета рыжым полымем гойсала яна з дрэва на дрэва. Быццам нельга было прыдумаць іншага занятку. Але варта было толькі азваацца недзе яшчэ зусім далёка восені, як вавёрка кідала гульні і бралася за работу. Рамантавала сваю хату. Высцілала яе цёплым мохам. Заканапачвала ўсе дзірачкі. Потым з ранку да вечара насіла ў свой svіран смачныя лясныя арэхі. Не прысядала ні на хвіліну...

Старая яліна толькі дзівілася: адкуль у вавёркі столькі сілы, каб цэлымі днямі цягаць гэтыя ношкі? І сама не вытрымлівала. Набярэ поўны прыпол духмяных зярністых шышак і высыпле вавёрцы.

— На вось табе. Будзеш зімой лускаць і дзякаваць бабулі-яліне.

— Дзякуй, дзякуй, бабулечка. Яны такія смачныя, такія смачныя,— дзякавала вавёрка, набіваючы да столі засекі ў сваім свірне.

І зноў: цок-цок — зноў рыжай маланкай мільгала ў суседнім арэшніку.

Ого, вавёрка была вельмі дбайная, вельмі руплівая гаспадыня.

Пра гэта не раз гаварыла старая яліна і дзятлу-бондару, і зязюлі-мачысе.

— Паглядзі, як трэба пра дом клапаціцца ды пра дзяцей: і каб цёпленька ім было,



і каб смачненька. А ў цябе, мачухно, паслухай, як плачуць дзеці,— дакарала яна зязюлю.

І сапраўды, у лясным гушчары, дзесьці далёка-далёка, чутно было адзінокае жаласнае «ку-ку»...

— Няхай не лётаюць гэтак далёка, дык і блудзіцца не будуць, няхай дома сядзяць... — адмахвалася ад папрокаў зязюля.

— Дома,— ківала галавой яліна.— Дома... Які ж у іх дом? Вунь ты падкінула іх да мухалоўкі... Ну гадуе яна іх, ну корміць. Але ж не родная маці. Смачнейшага чарвячка яна аддасць не тваім дзецям, а сваім...

— Не твая справа,— не жадала слухаць яліну зязюля,— усюды ты свой нос уткнеш...

— Ага, не хочацца слухаць праўду. Горкая яна... — казала ўслед зязюлі яліна і, крыху памаўчаўшы, ужо дакарала дзятла: — А ты чаму такі дурны? Вучыўся б вось у вавёркі. Глядзі, што ёй абыходзіць. Адамкнула свіран, нагрэбла арэхаў ці шышак, і гора ёй мала. Сядзіць сабе ў дупле, ласуецца. А ты штодня з гэтым сваім долатам па лесе лётаеш. А ці многа ім заробіш, калі холад гэткі і дзень — не згледзіш, як ён і праміне...

Дзяцел-бедалак і праўда — зіма не зіма, холад не холад — дзень пры дні павінен быў зарабляць сабе на пражытак.

— Ат, цётачка, колькі мне чаго трэба,— звычайна адказваў ён старой яліне.— Дзяцей я пагадаваў. Старая мая, вы ж самі ведаеце, яшчэ леташняй зімы не перазімавала... Дык колькі мне аднаму трэба... От жа пражыву неяк зіму. Балазе кажух цёплы маю.

— Так, так, дзіва што пражывеш,— нездаволена бурчала яліна.

Як і ўсе старыя, яна не любіла, калі з ёю не згаджаліся.

Яна змаўкала, збіраючыся крыху падрамаць. Але тут налятаў халодны сівер. Ён трос яе, выкручваў скурчанае ад старасці і холаду голле і ўзнімаў такі свіст і трэск, што спуджаная вавёрка зашывалася ў сваё дупло, стойвалася і не дыхала, быццам яе там і не было.

— Шалёны,— адмахвалася старая яліна,— адкуль цябе прыгнала!

— Ой, цётухна, адкуль прыгнала, не пытай. Скажы лепей, куды гоніць! — рагатаў вецер.

— Ведаю ўжо... Ляці сваёй дарогай, шыбенік.

Сівер узмахваў доўгім расхлістаным халатам, перакручваўся некалькі разоў у паветры і імкліва знікаў — гэтак, як і прыляцеў.

— Ох, скруціць ён галаву гэтай дурной



каліне! Вунь як яна хіліцца, ледзь не да самай зямлі яму кланяецца...

Старой яліне з узгорка было добра відаць усё, што рабілася на ўзлессі.

І сапраўды, маладзенькая каліна яшчэ больш чырванела і харашэла, сустракаючы ветра.

— Ляцім са мною па свеце! — шаптаў ёй вецер-сівер.— Што ты тут бачыш, стоячы вунь ужо колькі год усё на адным месцы, усё пры гэтай дарозе?

— Людзі тут ходзяць і ездзяць...

— «Людзі ходзяць і ездзяць...» Дурная ты! Ты паслухай, што кажа пра гэтых людзей старая яліна. Яны загубяць цябе, паламаюць твае рукі... А ягады твае — навошта яны ім.

— Не кажы так. Мае ягады лечаць людзей... У цябе няма сэрца, і ты не ведаеш, як гэта цяжка, калі яно баліць. А людзі ўмеюць варыць з маіх ягад лекі і лечаць імі сэрца...

— «Людзі», «лекі»... Навошта яны табе здаліся! Мы з табой паляцім за мора, паляцім да такіх высачэзных гор, якіх ты і не сніла ніколі. І ты тады забудзеш пра гэты свой лес, пра гэтую дарогу, на якую ты дзень і ноч глядзіш, як утрапёная.

— І ніколі больш не вярнуся сюды?

— А чаго?

— Не, я не здолею... Я высахну і памру без свайго лесу, — плакала каліна.

— Ну, дык і заставайся тут! А мне няма часу з табой валаводзіцца. Не спадзявайся, каб я яшчэ лятаў да цябе...

Вецер-сівер узмахваў сваім халатом, пранізваў каліну смяртэльным холадам. Каліна калаціліся, дрыжала, і на зямлю чырвонымі ягадамі сыпаліся яе горкія слёзы.

— Пачакай, не пакідай мяне адну!.. — стагнала наўздагон ветру каліна. Але вецер ужо не чуў яе.

* * *

А калі настала зіма і ў лесе не было ўжо ніводнага зялёнага лісціка, ніводнай кветачкі, ішла гэтай самай дарогай, каля якой расла каліна, жанчына з маленькім хлопчыкам.

— Мамачка! — закрычаў хлопчык і запляскаў у далоні. — Зірні, зірні — ягады!

Яны спыніліся.

— Гэта каліна, сынок. Бачыш, якая яна: зіма, мароз, а яна не баіцца...

— Можна сарваць?

— Толькі асцярожна. Не паламі галінак.

Хлопчык ірваў чырвоныя калінавыя ягады, клаў іх у сваю рукавічку і пяшчотна прыгаворваў:



— Не бойся калінка-малінка. Мае ручкі не злыя. Галінак тваіх не паломяць, вершалінкі не скрышаць. Толькі ягадкі сарвуць — маме на лякарства...

Так ён прыгаворваў і ўсё клаў і клаў у сваю рукавічку чырвоныя ягады. І каліна радавалася: ашукваў яе вецер і яліна-казачніца памылялася. Добрыя ў чалавека рукі, разумныя...

Вось і канец гэтай лясной казцы. Той маленькі хлопчык захацеў назваць яе казкай пра калінавую рукавічку.

Ну што ж, няхай сабе рукавічка, няхай сабе калінавая...

*Вацлаў Ластоўскі*

## ВАРОНА І РАК

Ляціць варона па-над ракой і каркае, ды так каркае, што не ўцярпеў рак сядзець у сваёй норцы і вылез паўзірацца, чаго яна галасуе. Вылез рак і пытае вароны:

— Чаго ты гэтак гвалт падняла?

— Чаго я гвалт падняла? А як-жа, яшчэ ён, у каторага галава не з таго канца засечана, пытаецца ў мяне! Чаго я гвалт падняла? Кажны будзе крычаць на маім месцы. Гняздо, у якім я вясну веснавала і лета летавала,

цяпер суздром усё засьмечана.

— А куды-ж ты цяпер ляціш? — пытае рак.

— Новага гнязда шукаці!

Падумаў, падумаў рак, дый кажа:

— Э, кумка, дарэмна твой клум і турбота, бо ты-ж і новае гняздо засьмеціш...

*Вісарыён Гарбук*

## ЛЮСТЭРКА

Гэта было вельмі даўно. Жылі на свеце светлая кучаравая дзяўчынка і чорнавалосы хлопчык. Яны разам гадаваліся і заўсёды разам гулялі.

Дзяўчынку звалі Айя, бо яна часта гушкалася на галінках дрэў і спявала:

— Ай-я!.. Ай-я!..

Хлопчыка празвалі Пуф, у яго была звычка моцна надзімаць шчокі. Айя любіла ўскапваць градкі, садзіць кветкі і даглядаць іх. Пуф зрываў кветкі або ганяўся за матылямі.

— Паслухай, Пуф! — аднойчы сказала Айя. — Чаму я бачу неба і траву? Бачу, як ноччу зіхацяць зоркі, бачу цябе, а сябе ніяк не магу ўбачыць? Хацелася б ведаць, якога колеру мае вочы, які твар, на каго я падобная?



— Кажуць, — адказаў Пуф, — што мы бачым толькі іншых і ніколі — сябе. Я добра бачу рыбак пад вадой, бачу цябе, нават у сне сню, а які я, не ведаю.

— Ты, — сказала Айя, — падобны на таго, хто хістаецца ў вадзе, калі ты нахіляешся над ёю. Але ўсё ж такі гэта не ты.

— І я не раз бачыў у рэчцы дзяўчынку, падобную на цябе, але ні разу не змог злавіць, як лаўлю цябе ў час гульні.

Засмуцілася Айя.

— Прыдумаць бы нештачка, дзе можна было б бачыць сябе так, як мы бачым іншых, — сказала дзяўчынка.

Падслухаў гэтую гутарку стары добры чарадзей. Раней, калі людзі яшчэ нічога не ўмелі прыдумваць, сярод іх жылі добрыя чарадзеі. Як маглі, яны дапамагалі людзям.

Тры дні і тры ночы думаў чарадзей, і яму ўдалося зрабіць сапраўднае люстэрка. Глянеш у яго — бачыш сябе. Варухнешся — і твой адбітак паўтарае тыя ж самыя рухі.

Узрадаваўся чарадзей і прыйшоў да дзяцей. Падносіць люстэрка да Айі.

— Хто гэта там? — спыталася Айя.

— Ты! — адказаў чарадзей.

— Гэта я? — здзівілася Айя і доўга ўзіралася на сябе. — А чаму я не бачу там Пуфа?

Не бачу іншых? Я хачу, каб усе там былі на ўвесь рост.

Чарадзей спагадліва ўсміхнуўся і сказаў:

— Хай падыдзе Пуф.

— Гэта я? — спытаўся Пуф і доўга-доўга назіраў за сваім адбіткам. — А чаму, калі я адыду ў бок, мяне там няма? — незадаволена сказаў хлопчык. — Я хачу заўсёды быць там і каб усе мяне бачылі!

— Добра, — пагадзіўся чарадзей. — Дайце час, і я зраблю, як вам хочацца.

Чарадзей знік.

Вырас Пуф і стаў каралём у сваёй дзяржаве. Вырасла Айя і стала нявестай Пуфа. У дзень вяселля з'явіўся чарадзей і падарыў ім абаім па люстэрку.

Наглядзелася Айя ў сваё люстэрка і, радасная, запрасіла да яго ўсіх гасцей, што былі на вяселлі. Усе падыходзілі да люстэрка Айі, дзівіліся і не маглі надзівіцца: ніхто ж ні разу так ясна не бачыў усяго сябе адразу. І ніколі Айя не была такая шчаслівая: гэтулькі радасці прынесла гасцям яе люстэрка!

І Пуф быў вельмі задаволены падарункам чарадзея, які выканаў яго даўняе жаданне. Але госці, убачыўшы ў люстэрку аднаго надзьмутага Пуфа, адышлі ад яго адбітка і зноў стоўпіліся перад люстэркам Айі.



Пуф выказаў чарадзею жаданне мець столькі сваіх адбіткаў, колькі людзей у яго дзяржаве, і каб усе мелі гэтыя адбіткі. А ў той час і чарадзеі слухаліся каралёў, і жаданне Пуфа было выканана. Хутка не засталося ніводнага дома і ніводнае сцяны ў дзяржаве Пуфа, дзе б ні віселі адбіткі яго асобы.

Пуф загадаў разбіць люстэрка Айі. І гэта было зроблена. Але цішком людзі пазбіралі ўсе асколачкі ад люстэрка і, хаваючыся ад каралеўскіх наймітаў, любаваліся ў іх на свае адбіткі. З замілаваннем яны заўважылі, што нават сонца і кветкі любяць адлюстроўвацца ў гэтых асколачках.

Ішлі гады.

Даўным-даўно памерлі і Пуф, і Айя. Без дапамогі чарадзеяў людзі навучыліся выраб ляць усялякія люстэркі, дзе ўбачылі, якія прыгожыя і яны самі, і іншыя. Ніхто не захаваў адбіткаў Пуфа, а ў люстэрку Айі мы дзівімся на сябе і па сённяшні дзень.

Так і ўсё добрае, што робіцца для людзей, назаўсёды застаецца ў іх памяці.

*Міхась Машара*

## ЗЕЛЯНУШКА І КРАКАТУШКА

(З народнага)

У даліне, каля клёну,
у сукеначках зялёных,
жабкі дзве жылі паціху,
без бяды жылі, без ліха.
Адну звалі — Зелянушка,
а другую — Кракатушка.

І зялёнымі вачамі
зелень бачылі навокал:
зелень гораў, што плячамі
дасягалі да аблокаў,
зелень яркую травіцы,
зелень светлую вадзіцы,
зелень лісцейка на дрэвах,
зелень справа, зелень злева.

І сукенак ўласных зелень
сёстры-жабкі не сцярпелі:
— Непрыгожыя сукенкі,
іх і ў росах не адмыеш...
Зелень коле нам у зрэнкі,
больш не трэба нам такія...

— А ў мяне яшчэ мянушка,
як наўмысна, Зелянушка.



— Колькі колераў, я знаю,
разнастайных, разнастайных
маюць краскі, мушкі, птушкі, —
дадала і Кракатушка. —

Нават у кароўкі божай,
што тут поўзае, лятае,
плашчык надта ўжо прыгожы,
можа, лішні яна мае?..
Дай запросім, пачастуем,
хай у нас тут пагасцюе.
Возьмем вывесім аб'яву
з запрашэннем на забаву.

Вельмі рады былі жабкі,
аж запляскалі у ладкі.

«Каляровае адзенне
хто з вас мае,
хто з вас носіць,
мы у гэтую нядзелю
на забаву ўсіх папросім.
Колер можа быць барвовы,
і вішнёвы, і ружовы.
Просяць жабкі: Зелянушка
і сястрыца Кракатушка».

Гэту дзіўную аб'яву
на старым прыбілі клёне,

ўсхвалявала гэта з'ява
увесь лес і луг зялёны.

Прыляцела першай пліска,
прачытала радкі зблізку.
— Не мяне тут ў госці просяць,
колер жоўты пліскі носяць.

Прыляцелі верабейкі,
прачыталі, паскакалі,
успырхнулі ўсёй сямейкай:
— Не для нас гэта, — сказалі. —
Такіх колераў не маем,
а сваіх мы не мяняем...

Прыляцелі дзятлы з лесу,
два вялікія гарэзы.
Колюць дзюбамі літэркі,
пазіраюць у люстэрка.
— Падыходзяць нашы шапкі,
не ступіліся і дзюбы,
дык гасцей прымайце, жабкі,
нам забава ваша люба.

Прыкалдыбала да клёна
бабка модніц тых зялёных,
жаба мудрая, старая,
і ў здзіўленні пазірае
на унучак і аб'яву:



— Вам нашто гэта забава? —
запытала яна жабак...

Адказалі з абурэннем:
— Бачыш, не спыталі бабкі!
А мы хочам жыць з натхненнем.

— Трэба век пражыць вясёла! —
падтрымалі іх наўкола
госці жабак — Зелянушкі
і маленькай Кракатушкі.

— Што ж, — сказала бабка ціха, —
не зрабіце толькі ліха...

Але жабкі не пачулі
засцярог сваёй бабулі,
бо там стукалі, бы ў дзверы,
ў дрэва дзятлы-кавалеры.

— Мы даўно ўжо вас чакаем,
запрашаем і вітаем.

Дзятлы нізка б'юць паклоны:
— Дом — хай будзе пахвалёны,
ваш гасцінны дом заўсёды
хай не знае злой нягоды.

Пры паклоне з дзятлаў гэтых
не спускалі жабкі вока,

іх барвовыя берэты
модніц ўзрушылі глыбока.

А там божыя кароўкі
усміхаюцца нялоўка.
Іх сукенкі проста цуда —
кропкі чорныя паўсюду.

А за імі крочаць макі
яркіх колераў усякіх.

А за макам — мухаморы
у барвовых капялюшах,
яны выйшлі толькі з бору,
нацягнуўшы іх на вушы.

— Капялюшы — цуда проста,
падышлі б і нам па росту.

— Мець бы з макаў тых каўнерык,
хоць сарві іх ды прымерай.

— Плашчык вунь кароўкі божай,
што за мода! Як прыгожа. —
Прыглядаліся да ўбораў
зачарованыя сёстры.
І стаяла ў вачах гора,
пазірала зайздрасць востра.
Колер ўласнае сукенкі
намазоліў жабкам зрэнкі.



— Вось капелюш мухамора
ў кропках срэбных, як у зорах,
нашых плашчыкаў, без жартаў,
штук пятнаццаць, пэўна, варты, —
так казала Зелянушка...
Кракатушка ж уздыхала,
паглядала на падружку
і, надзьмуўшыся, маўчала.

Ды настала вось часіна
паказаць сваю гасціннасць.
А стараннем гаспадынек
рознай закусі і вінаў
на стале стаяла многа, —
ўсё з'яўлялася, як з рога!

Сокам красак, расой свежай
праганялі госці смагу.
Многа ягад, рознай ежы,
сок з бярозы быў за брагу.

Чаркі — кветачкі-званочкі,
мёду — ландышаў збаночкі.
Госці елі, выпівалі,
чаркі зноўку налівалі.
Было поўнае застолле
і вясёла на прыволлі.

— Ешце, божыя кароўкі,
піце, дзятлы-кавалеры, —

чутны ласкавыя словы,
сёстры радыя без меры.

Цвыркуны нястомна йгралі,
пелі скрыпкі і цымбалы.
Усе госці танцавалі,
як заведзена на балю.

Ды пачуўся раптам клёкат
і трывожны нейкі шоргат.
Потым бачаць — ідзе бусел,
жабак баль яго спакусіў.

— Бусел! — крыкнулі сястрыцы
і схаваліся ў травіцу.

Той з усмешкай кінуў дзюбай,
паказаў ім на аб'яву:
— Чым жа я вам так нялюбы?
Вы ж прасілі на забаву.
На мае зірніце ногі,
які колер на панчохах?
Быць тут з вамі маю права.
Як забава — дык забава!

Жабкі госця не прынялі
у панчохах каляровых,
бо ад страху паўцякалі,
прытаіліся па сховах.



На свой луг вярнуўся бусел.
Сам сабе прызнацца мусіў,
што на лузе тым забава
не прынесла яму славы.
Дзюбу ўскінуўшы на спіну,
клекатаў ён з паўгадзіны.

Жабкі ж страх забылі хутка,
ён прайшоў для іх без шкоды.
Зноў вясёлыя, без смутку
сталі ладзіць карагоды.

Потым... у каровак божых
шыць вучыліся прыгожа.
Шыць каўнерыкі, сукенкі
яркіх колераў з адценнем.
З капялюшаў знялі меркі
і глядзеліся ў люстэркі.

Стала весела ў даліне,
ажывіўся луг зялёны.
Ні хмарынкі ў небе сінім,
ззяе сонейка над клёнам.

Па лужку між траў мурожных
скача хтось неасцярожна.
Гэта жабка Зелянушка,
яе госці і падружкі
у сукенках каляровых
і вішнёвых, і барвовых.

Капялюшы — мухамораў,
і ружовых макаў стужкі.
І мільгаюць, нібы зоры,
жабкі нашы весялушкі.

Адна плашчык абцягнула,
у ставочак заглянула.
Другой — банцік свой яскравы
над вадою трэ папpавіць.

Так заняты ўсе адзеннем:
банты, плашчы, капялюшы.
А сукенкі!.. Летуценне!
Хоць каго яны узрушаць.

Жаба мудрая старая
ўнучак зноў засцерагае
і гаворыць ім трывожна:
— Ці ж так можна, ці ж так можна!
Жыць не можаце вы ціха,
дачакаецеся ліха.

Жабкі ўвагі не звяртаюць
на старой бабулі словы
і гуляюць, як гулялі,
легкадумна, бесталкова.

Між зялёнага мурогу
іх нат бусел не палохаў,



што стаяў ў гняздзе высока,
пазіраючы навокал.

— Хтось там скача каля горкі,
бы малыя мухаморкі?
Што быць можа там такое?
Трэба глянуць... Мо здалося? —
сказаў бусел неспакойна,
разняў крылы і панёсся.

Апусціўся каля клёна
і ўзіраецца здзіўлёны, —
капялюшы ходзяць, шапкі...
Глянеш ніжай — жабак лапкі.

І ціхенька, як на лыжах,
клекатун пакрочыў бліжай.
«Гэта ж жабак тых забава.
Вось чаго не спадзяваўся!
Як прыемна! Вось дык з'ява! —
бусел хітра рассмяяўся. —
А прыбраны як прыгожа!
Плашчык, бы ў каровак божых.
Капялюшы — мухамораў —
срэбрам вышытыя ўзоры.
Прыгажэй і быць не можа,
апранецца так не кожны.
Ідзе справа, як належыць.
Запрасіць, можа, суседзяў?

Такой смачнай ежы свежай
рэдка ўбачыш на абедзе».

Нашы ж мілыя танцулі
дум драпежніка не чулі.
І танцулі, і танцоры
вялі гутарку пра ўборы:
— Плашчык новенькі барвовы,
капялюшык мой ружовы.
Ці то ў лузе, ці то ў полі,
у пагоду, ці ў імгліцу,
не зніму я іх ніколі,
мая мілая сястрыца.

— Ах зялёны колер гэты,
згоніць ён мяне са свету.
Мне вішнёвы так да твару,
ён быў вечна маёй марай.

Выхвалялі колер новы,
і барвовы, і ружовы.

А тым часам бусел крочыць,
нагу ўздыме і апусціць...
Ён спяшаць, відаць, не хоча
і ахвяры не прапусціць.

Бусел ў добрым быў настроі,
гаварыў так сам з сабою:



— Не схавацца нідзе жабкам,
адшукаю іх па шапках.
Па барвовых капялюшах
я знайду іх і пад кручай.

Бусла зараз толькі жабкі
тут заўважылі пад клёнам,
паскакалі ва ўсе лапкі
шукаць схоў ў траве зялёнай.

Напявае бусел ціха:
— Не ўцячэце вы ад ліха...
Не знайсці нідзе вам сховы,
выдасць колер вас барвовы.
Не схавацца вам у зелень,
капялюшы дзе падзенеш?

Жаба мудрая старая
зрокам воч сваіх разумных
бачыць: бусел насцігае
яе модніц легкадумных,
і крычыць ім у адчаі,
што ў іх бусел за плячамі.
Каб скідалі чужы колер,
каб не зналі яго болей,
каб хаваліся у травы,
ў мох зялёны кучаравы.

І ў адно тут вокамгненне
паспадала на мурогі

з жаб чужое ўсё адзенне
буслу гэтаму пад ногі.

Без чужых берэтаў, шапак
нельга ўбачыць буслу жабак.

Будуць помніць жабкі скокі, —
паляцелі ва ўсе бокі.

Колер ўласны стаў ім любы,
ратаваў ён іх ад згубы.

Утаропіў бусел вочы,
пазіраючы ў здзіўленні.
Клекатаць ужо не хоча,
страціў гумар, захапленне.
Дзе ні гляне — ляжаць шапкі,
дзюбай клюне — няма жабкі.
— Дзе ж падзеліся танцулі?
Дзе іх госці, дзе іх гульні?

Бусел з гневу чуць не плача:
зелень толькі ўсюды бача.
Не знайсці яму ніколі
жабак, што жылі пад клёнам...
Сваіх маленькіх свавольніц
абароніць луг зялёны.



*Еўдакія Лось*

## КАЗКА ПРА ЛАСКУ

Ціха, дзеці,
Паслухайце казку
Пра дзяўчынку харошую —
Ласку!

Дзе жыве яна,
Як выглядае,
З кім сябруе,
Каму памагае.

* * *

Неяк Ласку угледзеў
Сяргейка,
Хоць і слёзы блішчалі
На вейках.

Захварэў неўспадзеўкі
Хлапчына.
Сінява залягла
Пад вачыма.

Парашкі ён глытаў
І пілюлі,
Смеху хлопчыка
Доўга не чулі.

І тады да ягонага
Ложка
Падышла, нібы цень,
Басаножка.

Падышла неўзаметку
Малая,
За плячыма —
Каса залатая.

— Ты Сяргейка?
Пытае ласкава
І плыве каля ложка,
Як пава.

— Ты хварэеш?
Замучылі лекі?
Пацярпі,
Не хвалюйся, маленькі!

Хочаш — коўдру тваю
Я папраўлю!
Хочаш — кветак у шклянку
Пастаўлю!

Каля хворага
Без адпачынку
Завіхаецца
Тая дзяўчынка.



Лоб малога пагладзіла,
Бровы, —
І Сяргейка заснуў,
Як здаровы.

І ў сне ўжо,
Што быў нібы казка,
Ён пытае:
— Скажы, калі ласка,
Хто ты?
— Ласка.
— Якая?
— Такая,
Што маленькім
Заснуць памагае.

— Дык застанься са мной,
Мая Ласка!
— Я спяшаю ў калгас,
Да Тараскі.

І, махнуўшы хусцінкаю
Белай,
Неўпрыкметку пайшла,
Паляцела.
Ціхі хлопчык
Ажно засмяяўся:
Ён з хваробай сваёй
Развітаўся!

* * *

Пасварылася з Надзяй
Ларыска.
І за што?
З-за малочнай ірыскі!
Да дзяўчынак прыходзіла цёця.
Надарыла цукерак блазноце.
І дражэ, і «падушак» і «мішак»...
Немалое багацце ў малышак!

Адно цешся з салодкіх
І еш
Ды сябровак частуй ты...
Дык не ж!

Стала крыўдна старэйшай —
Ларысцы,
Што ў Надзеі —
Яшчэ і ірыскі!

Вось старэйшая,
Каб не журыцца,
Адабрала ірыскі
Ў сястрыцы.

Хто паможа
Надзейцы ціхмянай?
Хто ёй верне
Прысмак адабраны?



Можа, цёця?
Яна на рабоце.
Можа, мама?
На працы таксама.

Памагла ёй
Дзяўчына-краса,
За плячмі —
Залатая каса.

І адкуль яна толькі
Ўзялася,
Як пазнала,
Што спрэчка ўзнялася?

На маленькіх нагах
Неабутых
Падышла да дзяўчынак
Надзьмутых.

Белай хусткаю
Твар абмахнула,
На сястрычак
Лагодна зірнула.

— Я завуся, — гаворыць ім, —
Ласкай,
Вы паслухайце
Простую казку!

Я прыйшла
Ад Сяргейкі-
Хварэйкі,
Я прыйшла
Ад Тараскі-
Падпаска.

Сумаваў той без ласкі
За статкам,
Калі ў поле падаўся
За таткам.

А пасля пабыла я
За морам,
За бязмежным
Блакітным прасторам.

Там чакаў мяне
Бедны, пануры
Хлопчык з чорнаю-
Чорнаю скурай.

У краіне,
Дзе сонца багата,
Гэты хлопчык
Застаўся без таты.

Тату ворагі злыя
Забілі,



Бо змагаўся ён
Супраць насілля.

Супраць гора змагаўся
Адважна,
Клікаў волю
Ў свой край неабсяжны...

Пацямнелі,
Як быццам ад ночы,
Васільковыя
Ласчыны вочы.

Залатую касу
Запляла,
Пацішэлых сястрыц
Абняла.

І тады запытала
Ларыса:
— А як хлопчыка клічуць?
— Патрысам.

І ўжо шэпчуцца ціха
Дзяўчынкі...
Ім цяпер
Не да прыкрых учынкаў!

Трэба другу
Пісьмо напісаць,

Падарунак яму
Пераслаць.

І пачула тут госця:
«Патрысік!
Шлём табе мы салодкіх
Ірысак.

І дражэ,
І «падушак» — малышак.
Толькі з'елі мы
Некалькі «мішак».

З падарункам прымі,
Калі ласка,
Нашу светлую
Шчырую Ласку!

Не гаруй,
Мы цябе не забудзем
І пра татку
Раскажам мы людзям.

Будзем дружныя мы
Між сабою
І навек
Пасябруем з табою!..»



* * *

Вось вам, дзеці,
І ўся мая казка
Пра дзяўчынку харошую —
Ласку.

Ласка ўсіх вас
Пабачыць жадала,
Але часу ў яе
Дужа мала.

А таму покуль стрэнецца
З вамі,
Будзьце, дзеці,
Ласкавыя самі!

*Уладзіслаў Галубок*

## ГОНАР

На краю бярозавага гушчару, пад калматай ёлкай, вырас непамерна вялікі баравік.

Колькі было гонару, неба толькі адно ведала, ад рання да змяркання, як чмель, гудзеў, скоса пазіраючы звысока ўніз, дзе раслі апенькі, казлы, лісіцы і ўсялякая, як казаў ён, пошасць.

— Што ж вы, дармаеды, — пад шум бара-

вы мармытаў баравік, — я старшына, мне ж толькі пашана ад лесу і людзей. — Ні рост, ні сіла, нераўня вам, карлюкам.

— Яго праўда, яго праўда! — шаптала сямейка апеняк, прытуліўшыся к спарахнеламу пню.

— Глянуць на нас, смеху варта, камель як лазіна і шапка, — зжалься божа, — толькі знак той! — А ў яго галава з салятырку і нага, як выварацень.

Ішоў лесам мужык і няўзнак падслухаў гонар баравіка.

— Э, стары грыбазвон, дос плявузгаць, хадзі-тку ў кош, пабачым, што рэкнеш, як палезеш у печ.

І, прыгнуўшыся к зямлі, звольна падняў яго ўгару, павёўшы вострым нажом па грубым ашыйку.

Але як угледзеў, што ўнутры капашыліся чэрві, мякнуў аб зямлю, наступіў шырокім, як засланка, лапцем і пайшоў паважна сабе далей.

*Уладзімір Караткевіч*

## ЧОРТАЎ СКАРБ

У нейкім прыгожым краі, трошкі бліжэй Сонца і трошкі далей ад Месяца, у краі,



багатым залатымі нівамі, празрыстымі рэкамі, сінімі азерамі ды цёмнымі пушчамі... Словам, у тым краі, дзе мы з табою жывем, стаяла, а можа, і цяпер стаіць, адна хата.

А жыў у гэтай хаце селянін па імені Янка. Здаровы, як зубр, добры і не дужа мудры. Было ў яго пяцьдзесят сыноў, сорак валоў і кошка. Ну, можа, не пяцьдзесят сыноў, а тры, не сорак валоў, а два. Але кошка была, гэта ўжо можаце мне паверыць. Пярэстая. З чатырма лапамі. З адным хвастом.

Араў Янка зямлю, пасвіў каровы і хмары. І жыў бы зусім добра, каб не звалілася на яго бяда.

Было гэта даўно. Так даўно, што на Беларусі тады яшчэ вадзіліся чэрці. І ў кожнага з тых чарцей было сваё месца працы.

Адзін жыў у вадзе, пасвіў шчупакоў, лінёў ды акунёў. Быў зялёны ды калматы, вельмі падобны на купу твані. Звалі яго Вадзянік.

Другі жыў у лесе, пасвіў аленяў і быў падобны на аброслы мохам пень. Калі сустрэнеш, то і не адрозніш. Звалі яго Лесавік.

Але быў і трэці, што жыў па хатах і пасвіў цвыркуноў. Гэты быў самы шкодны. Рожкі ў яго былі, як у козкі, зубкі, як часначок, хвосцік, як памялцо.

І аблюбаваў гэты чорт Янкаву хату. І не

тое, каб са злосці шкодзіў, а проста быў свавольнік. Толькі ад тых свавольстваў Янку аж плакаць хацелася. Дзіва што! Ты ж таксама не ад злосці сваволіш? Ну вось, а бацькі часам плачуць. Кепска!

Не стала ў хаце ад чорта спакою. Пазапляртае коням грывы так, што пасля не расчэшаш, а думаюць на сыноў. Вяршкі з малака зліжа, а думаюць на бедную кошку. Часам узімку так завые ў коміне, што ў людзей мароз па скуры і страшна на двор выходзіць. Ці забярэцца ў комін, з'едзе па ім і насыпле ў капусту сажы.

А то раніцай вынуць з печы пірог і здзівяцца: на пірагу невялічкі адбітак. Гэта чорт на гарачае цеста адпачываць садзіўся. Грэўся з марозу.

Зусім не стала жыцця. Янка ішоў начаваць, нават у холад, на сена ў адрыну. Ледзь бедных дзяцей не памарозіў. І вырашыў урэшце, праз гэтыя чортавы выбрыкі, забіць хату дошкамі і падавацца з дзецьмі, коньмі, валамі і кошкай некуды за свет. Кінуўшы сваю радзіму, цёмныя пушчы, светлыя рэкі ды чыстыя воды. І стала б на Беларусі меней яшчэ адной сялянскай хатай, каб не пачуліся аднойчы вечарам на дарозе цяжкія крокі.

Тупу-тупу-тупу,
Нясе Мішка ступу.



Ў ступе ўперамежку
Цукар і арэшкі,
Разынкі й цукеркі
Ў залатой паперцы.
Па шляхах, палетках
Нясе Мішка дзеткам
Салодкую ступу
Тупу-тупу-тупу...

Ішоў павадыр з мядзве́дзем. Хадзілі яны ад сяла да сяла.

Павадыр песні спяваў і граў на цымбалах. А мядзведзь паказваў, як бабы ваду носяць ды як дзеці гарох крадуць. І гэтым яны з мядзведзем карміліся.

— Здароў, Янка. Ці не пусціш нас з Мішкам пераначаваць? — спытаў павадыр.

— Мне што? Начуйце,— адказаў Янка.— Толькі ж я сам на сене сплю.

— А што такое?

— Ды чорт у мяне ў хаце завёўся. Так сваволіць, што ратунку няма. Верыш, на пірагах адпачывае. У коміне вые. І часам, у цёмныя ночы, нешта ў падпеччы, як жар, гарыць. Страшна.

— Гэ-э,— сказаў павадыр.— Не ўсе ж такія неразумныя, як твайго бацькі дзеці. Каб гэта павадыр, ды яшчэ з мядзведзем, нейкага там чорта спалохаўся!? Не бывала яшчэ такога на свеце.

— То ідзі. Капусты пад'еш. Там яшчэ гаршчок з паранай рэпай ёсць, дык, калі нічога за ноч не здарыцца, то раніцай падсілкуешся. А я на сена. Як сцямнее, я ў хату ісці баюся.

Ну вось, пасёрбаў павадыр капусты, пакарміў Мішку ды заваліўся дрыхнуць на лаве. А мядзведзь прымасціўся ля печы і таксама засоп на ўсе насавыя загорткі.

Гэта было так даўно, што тады яшчэ на Беларусі нават бульбы не вадзілася. Сказаць каму — не павераць. Замест бульбы парылі рэпу ці бручку. І вось спіць павадыр і сніць, як ён заўтра смачна будзе рэпай снедаць.

Толькі глухая ноч запала — чорт тут як тут. Скаціўся комінам, узняўшы цэлую хмару сажы, і пачаў у печы, злодзей такі, шнарыць і мацаць. Як кажуць, ты за парог, а ён на пірог. Узняў накрыўку. Павеяла сытым духам.

«Ага, рэпа. Вось гэта якраз тое, што мне трэба. Я люблю рэпу».

Але ж у печы цёмна, як... у печы. То чорт адсунуў засланку, вывалак гаршчок на прыпечак, сеў, звесіўшы ногі, і пачаў ласавацца салодкай паранай рэпай, а лушпайкі ўніз кідаць.



«Нічога, гаспадыня заўтра падмяце. Трэба ж, каб і ёй работа была».

Упала адна лушпіна мядзведзю на нос, і той прачнуўся. Злізнуў з носа — салодка. І пачаў Мішка ў цемры нюхаць, знаходзіць лушпінне ды чмякаць.

Чорт пачуў, што нехта ўнізе чмякае ды ліжа. А ён жа ведаў, што ў хаце нікога, акрамя кошкі, няма. І вось нейкая там кошка чмякае ды сапе, і не дае яму, чорту, чужой рэпы спакойна пад'есці.

Развярнуўся ён ды і піхнуў кошку нагой.

— Апсік! Апсік, гадасць такая!

Ну вось. А мядзведзь гэта табе не кошка. Даваць мядзведзю выспятка ніколі не раю.

Пакрыўдзіўся Мішка. Згроб чорта ў ахапак, сцягнуў з прыпечка і давай яго мяць, давай яго прасаваць, давай яго лапамі валтузіць ды калашмаціць, давай абходжваць, лупцаваць, малаціць ды дубасіць, давай яго за рогі круціць, як сідараву казу, ды дзерці смяротным боем.

Ледзь вырваўся чорт з мядзведжых абдымкаў. Узляцеў на прыпечак. Сяк-так выкараскаўся праз комін. Скаціўся са страхі ды і чкурнуў далей ад хаты. У пушчу, як ашалелы.

А мядзведзь, задаўшы чорту чосу, зноў заснуў, як пшаніцу прадаўшы.

Раніцою ўсе ўсталі і падумалі, што гэта мядзведзь рэпу еў. Здзівіліся, што не пабаяўся лезці ў гарачую печ, і ўзрадаваліся, што з'еў зусім мала. Што ж, мядзведзь не першы і не апошні ў свеце адказваў за чужыя грахі.

Пасля ўсе даелі тое, што заставалася ў гаршчку. Мядзведзь нават яшчэ паскакаў дзецям. І пайшлі яны з павадыром зноў, ад мястэчка да мястэчка, ад сяла да сяла. Пад сонцам і дажджом.

Тупу-тупу-тупу,
Нясе Мішка ступу...

Але з таго часу чортава гарэзаванне як нажом адрэзала. Коні здаровыя, сажы ў капусце няма, на пірагах ніхто не адпачывае. У коміне, праўда, нехта часам вые і з падпечку часта нешта свеціць, але гэта ўжо цярпець можна. Раздумаў Янка кідаць сваю хату.

Толькі на гэтым гісторыя не скончылася, не думайце. Неяк пад восень араў Янка свой клін пад азіміну. Мокра, касы дождж, нізкія чорныя хмары. Аж бачыць, з-пад хмар, з самага акаёму нехта ідзе да яго па раллі. Прыгледзеўся — ага, стары знаёмы, чорт.

Ідзе ўвесь мокры, як цуцык пад злевай. На кожным капыце па пуду гліны наліпла.



Пад носам ад прастуды вісіць вялізная кропля. А насоўкі ж ён не мае. Як ты часам, калі дома забудзеш. А капытом не дужа высмаркаешся. Ідзе такі няшчасны, такі жаласны і ўбогі, што нават Янка яго пашкадаваў:

— Ты куды гэта?

— А так, — сказаў чорт. — У свет.

Памаўчалі. Пасля чорт пытае:

— А скажы ты мне, ці ўсё яшчэ ў цябе тая кошка?

Янка быў чалавек не дужа мудры ды не ведаў, пра якую кошку размова:

— А нягож, — кажа. — Ясна, што ў мяне. Ды яшчэ і шасцёра кацянят прынесла.

— І ўсе ў матку?

— Ага. Усе пярэстыя, з чатырма лапамі, з адным хвастом.

— З лапамі, з лапамі, — сказаў чорт. — Даліся мне тыя лапы.

— Дальбог аж шасцёра!

— Ну, то я, мабыць, ніколі да цябе не прыйду, — уздыхнуў чорт. — А трэба было б. Дужа трэба.

— Гэта чаму?

— Ат! Закапаў я ў цябе ў падпечны казан з золатам. Скарб. І трэба было б выкапаць, але як тваю кошку ўспомню — бр-р-р! — ну яго. Хай прападае.

— Ты, як зусім змерзнеш, прыходзь. Гля-

дзіш, рэпу зварыш, дзяцей пакалышаш.

— Н-не. Кошкі баюся. А рэпы гэтай я цяпер да самай смерці ў вочы бачыць не магу.

Ды й пайшоў сабе полем, пад дождж, ледзь цягнучы пудовыя ногі. Такі гаротны небарака.

А Янка даараў клін і пайшоў дахаты. І толькі там успомніў, што нештачка ў падпечку свяціла, і чорт пра нейкі скарб казаў.

Пачалі капаць у падпеччы і — на табе — выкапалі вялізны закураны казан з золатам і чырвонцамі. Нібы жар, разлілося святло па хаце.

Так ужо свяціла, так паліла, так пякло, што ўсе аж распранацца пачалі.

Чорт пасля таго ў моцныя маразы ўсё ж прыходзіў. Толькі прасіў кошку ў камору выкідаць. Капусту Янку варыў і дзяцей калыхаў. З таго часу і пайшла прыказка, што «шчасліваму і чорт дзяцей калыша».

А на той чортаў скарб паставіў Янка сабе і ўсяму наваколлю новыя хаты, свірны, адрыны, новыя стайні. Сады пасадзіў, млын паставіў.

Ва ўсіх сялян па сорак сыноў ды дачок, па сорак коней ды валоў. І ўсе хаты, як звон. І ў кожнай хаце на акне, на сонейку, кошык. А ў кожным кошыку Кошка. І ў кожнай



кошкі па шасцёра кацянят. Во шчасце дык шчасце!

І таму, калі ты жывеш шчасна і радасна, ніколі не дражні мядзведзя ў звярынцы і не кідай у кошку не тое што каменем, а нават мяккай грудкай зямлі. Бо гэта ж яны зрабілі калісьці так, што табе добра. Ды і наогул ні ў кога нічым не кідай і нікога не дражні.

Тады ўсім будзе хораша на гэтай прыгожай зямлі, што ляжыць крышку бліжэй Сонца і крышку далей ад Месяца. Людзі будуць працаваць, кошкі будуць вуркатаць, а мядзведзі насіць табе і ўсім іншым дзецям салодкія ступы...

...Тупу-тупу-тупу.

*Алена Кобец-Філімонава*

## ЗАРАНКА

Ёсць на свеце краіна Шчаслівых. Жыве ў той краіне дзяўчынка. Такая вясёлая! Хату падмятае — спявае песні. Абед гатуе — спявае песні. Пабяжыць на луг пагуляць ды кветак назбіраць — спявае песні. З самай раніцы ўсё спявае ды спявае, як птушка заранка. Вось і празвалі яе за гэта — Заранкай. Слухаюць людзі, як спявае Заранка, і самі ёй падпяваюць. І працаваць ім лягчэй з пес-

няй, і жыць цікавей. А дзяўчынка ўсё новыя і новыя песні складае. І песні яе адна за адну лепей. Не нарадуюцца ўнучцы дзед ды бабка. Не нарадуюцца Заранцы ўсе людзі, якія яе ведалі.

Дзіва што! Ад яе песень нават сэрца спявала. Таму і назвалі краіну, дзе жыве Заранка, краінай Шчаслівых.

Аднойчы дзядуля сказаў унучцы, што ёсць на свеце краіна Маўчання. Там жывуць маўчуны. Гэта вельмі няшчасныя людзі, таму што ў іх ёсць цар. А цар вельмі злосны і не любіць радасці. Ён сам ніколі не смяецца і ўсім забараняе смяяцца і спяваць песні. Яго ўсе баяцца: ходзяць на дыбачках і гавораць шэптам. А па краіне бегаюць царскія слугі. Яны хапаюць усіх, хто спявае і смяецца, і кідаюць у падзямелле. Нават птушак няма ў той краіне. Яны паляцелі адтуль, таму што царскія слугі шпурлялі ў іх каменне, калі тыя спявалі.

І сказаў дзядуля Заранцы:

— Гэтыя людзі могуць стаць шчаслівымі, калі пачуюць добрую песню.

А Заранка і кажа:

— Любыя бабулька і дзядулька, я хачу, каб усе людзі на зямлі былі шчаслівыя, як мы. Я пайду ў краіну Маўчання і навучу маўчуноў спяваць.



Заплакала бабка: баіцца адпускаць унучку. А дзед кажа:

— Не плач, бабка. Добрую справу задумала ўнучка. Трэба дапамагчы маўчунам.

Развіталася Заранка і пайшла.

— Шчаслівай дарогі! — закрычала ўслед ёй бабулька.

— Спадарожнага ветру! — закрычаў ёй услед дзядулька.

Ідзе Заранка. А побач з ёй спадарожны вецер ляціць. Заранка спявае — і вецер спявае. Весела і лёгка ісці Заранцы.

Прыйшла яна да высокай мураванай сцяны. Наблізілася да жалезнай брамы. А каля брамы варта стаіць і не пускае Заранку ў краіну Маўчання.

— Цар нікога не дазволіў пускаць, — сурова сказалі ёй стражнікі.

Тады вецер падхапіў Заранку, падняў яе высока над сцяной і перанёс у краіну Маўчання.

Апынулася Заранка на вялікай плошчы. Сабраліся наўкол яе маўчуны з пахмурнымі, невясёлымі тварамі. Ніхто не ўсміхаўся ёй, толькі моўчкі яе разглядалі. І зразумела Заранка, што гэтыя людзі вельмі баяцца цара. Шкада ёй стала іх. І заспявала яна вясёлую песню. Забыліся маўчуны на страх, засмяяліся весела і звонка, заспявалі разам

з Заранкай. Але раптам наляцелі царскія слугі, схапілі дзяўчынку, звязалі і кінулі ў падзямелле.

У падзямеллі было так цёмна, што Заранцы стала страшна. А тут яшчэ і пацукі павыбягалі з нор. «Яны ж мяне загрызуць!» — падумала дзяўчынка і нават заплюшчыла вочы ад страху. Што рабіць? У яе звязаны рукі і ногі, і яна не можа адагнаць ад сябе пацукоў. І тады Заранка зноў заспявала песню. Спалохаліся пацукі і пахаваліся ў свае норы. А Заранцы стала весела і зусім не страшна. Яна ўсё спявала і спявала пра тое, як добра жывуць людзі ў яе краіне. Якія яны смелыя і вясёлыя. І ніхто ім не можа забараніць спяваць і смяяцца.

Гэта песня вырвалася з падзямелля, а вецер данёс яе да вушэй маўчуноў. І захацелася маўчунам шчасця. Падхапілі яны песню і пайшлі з ёю да падзямелля. Разламалі дзверы — і Заранка выйшла на волю. А потым усе разам прагналі цара. І маўчуны перасталі быць маўчунамі. Зажылі яны вольна і шчасліва. Вярнуліся да іх птушкі і заспявалі так жа смела, як спяваюць у краіне Шчаслівых.



## СМЕХ І ПЛАЧ

Хадзілі па свеце Смех і Плач. Кожны сваёй дарогай. І так здаралася, што яны ні разу не сустрэліся: свет вялікі, дарог шмат.

Плач заўсёды хадзіў брудны. Ён ніколі не мыўся. Па шчоках яго каціліся слёзы. Усю дарогу ён жаласна ўсхліпваў:

Я няшчасны... Ой-ёй-ёй!
Слёзы льюцца ўсё часцей.
Пагарджаюць людзі мной,
Не пускаюць да дзяцей.

А Смех быў чысты і заўсёды вясёлы. Калі ён ішоў па дарозе, дык спяваў такую песеньку:

Эх, як добра жыць на свеце!
Ха-ха-ха! Ха-ха-ха!
Любяць смех бацькі і дзеці.
Ха-ха-ха! Ха-ха-ха!

Смех часта прыходзіў да Лідачкі. Перад ім шырока адчыняліся дзверы. Плач таксама любіў наведваць Лідачку. Але дзверы перад ім не адчыняліся, дык ён хоць праз шчыліну, а ўсё ж улезе. Дзяўчынцы чатыры гадкі. Як толькі паваліцца Лідачка — Плач ужо тут. Быццам толькі і чакаў гэтага. Заліваецца Лідачка слязамі, горка плача.

Усе дома — мама, тата, бабка і нават коцік Мурзік — не любілі, калі да Лідачкі прыбягаў Плач. Яны гналі яго венікамі, пакуль той не ўцякаў з хаты.

Затое ўсе вельмі радаваліся, калі да Лідачкі ў госці прыходзіў Смех. А гэта бывала тады, калі дзяўчынка гуляла з Мурзікам, ці ёй расказвалі што-небудзь смешнае, або прыносілі падарункі ў святочныя дні. Усе ў доме любілі Смех. Ён так рагатаў, што ўсім рабілася весела: і Лідачцы, і маме, і тату, і бабцы, і нават коціку Мурзіку. Усе прасілі яго пабыць яшчэ з імі, частавалі цукеркамі і пірагамі. А калі Смех развітваўся, яго запрашалі прыходзіць часцей.

Аднойчы, калі ў Лідачкі быў дзень нараджэння, яна запрасіла ўсіх дзяўчынак і хлопчыкаў са свайго двара ў госці. І, вядома, самым жаданым госцем быў Смех. Лідачцы прынеслі шмат падарункаў. Дзеці спявалі, вадзілі карагод, і ўсім было вельмі весела.

А Плач пакрыўдзіўся, што яго не запрасілі ў госці, і рашыў адпомсціць Лідачцы. Ён паціху адчыніў дзверы, падкраўся да крэсла, на якім сядзела дзяўчынка, і адвінціў у ім шрубкі. Крэсла развалілася — і Лідачка ўпала. Усе спалохаліся. Але тут моцна зарагатаў Смех. І заспяваў такую песеньку:



Вось прыгода! Вось няўдача!
Але Лідачка не плача.
Ха-ха-ха! Ха-ха-ха!
Наша Лідачка не плача.

Усім стала весела і смешна. І Лідачка таксама смяялася, хаця па твары яе цяклі... слёзы.

А тата сказаў:

— Напэўна, Плач недзе тут схаваўся.

Ён узяў венік і тут жа выгнаў яго з-пад стала.

І ніхто больш не плакаў у гэты дзень. Але з таго часу, калі Смех і Плач сустракаюцца, людзі смяюцца і плачуць, прыгаворваючы:

— І смех і плач.

## МАЛЕНЬКІ ЗЕМЛЯРОБ

Поўз дажджавы Чарвячок па пшанічным полі. І ўбачыў, што адзін Каласок галоўку дадолу павесіў. Пытае яго Чарвячок:

— Чаму глядзіш так нявесела? Захварэў, ці што?

А Каласок у адказ ледзь прашаптаў:

— Я так даўно не піў!

Здзівіўся Чарвячок: толькі ўчора дождж спорны прайшоў. А Каласок скардзіцца, што не піў даўно.

Палез Чарвячок карэнні Каласка паглядзець. Ледзь да іх дабраўся. Бо зямля, на якой рос Каласок, засохла і зрабілася, як цвёрды камяк. Таму дождж не мог напаіць карэнні.

Стаў Чарвячок зямлю араць. Араў да тае пары, пакуль зямля не зрабілася мяккай, пульхнай.

Пайшоў дождж. Вада лёгка прасачылася ў зямлю. І напаіла карэнні Каласка. Каласок зноў павесялеў.

Цяпер ты здагадаўся, чаму дажджавога Чарвячка завуць маленькім земляробам?

А яшчэ яго завуць – падзямельным аратым.

## ДЗІВОСНЫ ЛЯДЗЯШ

Гуляў Васілёк на двары. І ўбачыў ледзяшы. Яны звісалі з застрэшка павеці. Доўгія і празрыстыя. І так нагадвалі цукеркі ледзянцы! Асабліва адзін. Самы вялікі. Ён ярчэй за ўсіх іскрыўся на сонцы. І Васільку вельмі захацелася яго з'есці. Узлез ён на гурбу, адламаў самы вялікі лядзяш і пачаў грызці. Лядзяш прыемна захрумсцеў на зубах, а ў роце стала холадна, як ад марожанага.

– Ой, як смачна! – узрадаваўся Васілёк. І з'еў увесь лядзяш.



І раптам:

– Апчхі! – чыхнуў Васілёк.

Не ведаў ён, што гэты лядзяш быў чароўны. У ім сядзеў Чых-невідзімка. Калі Васілёк з'еў лядзяш, Чых з яго і выскачыў. Ён лятаў па двары і чыхаў:

– Апчхі! Апчхі!

Ён чыхаў так моцна, што пачулі ўсе мамы і не пусцілі сваіх дзяцей гуляць.

А ў Васілька забалела горла. І паскардзіўся ён маці. Спалохалася маці і выклікала доктара.

Прыйшоў доктар да Васілька. Паглядзеў горла і даў хлопчыку праглынуць пілюлю. Яна была горкая, нясмачная, зусім не такая, як лядзяш. А калі доктар адыходзіў, ён сказаў, што Васільку трэба ляжаць у пасцелі і кожны дзень глытаць пілюлі.

– Ніколі больш не буду есці ледзяшы! – заплакаў Васілёк.

Доўга ён хварэў. А калі паправіўся, зімы ўжо не было.

Выйшаў Васілёк на двор і не ўбачыў ледзяшоў. Яны расталі ад цёплага вясновага сонейка. І Чых не лятаў па двары. Ён баіцца цяпла і таму паляцеў туды, дзе была халодная зіма.

# ДЗЕД МАРОЗ

Калісьці Мароз быў вельмі падобны на Дзеда Мароза, якога ставяць пад навагодняй ёлкай. І Мароз так любіў дзяцей, што нават не шчыпаўся. Але дзеці з яго насміхаліся, бо ў яго быў чырвоны-чырвоны нос. Як убачаць дзеці, што Дзед Мароз ідзе, бягуць за ім і прыгаворваюць:

— Дзед Мароз Чырвоны Нос! Дзед Мароз Чырвоны Нос!

Так яны дражнілі Дзеда Мароза, пакуль той не на жарт раззлаваўся.

Аднойчы Мароз надзеў на галаву шапку-невідзімку, узяў чырвоную фарбу, пэндзлік і пайшоў па вуліцах. А дзеці не бачылі, што Мароз ідзе. Макнуў Дзед Мароз пэндзлік у фарбу і пафарбаваў усім насы.

З той пары ён ходзіць невідзімкай. А калі ў цябе зашчыпле нос, дык ведай — гэта Дзед Мароз яго ў чырвоны колер пэндзлікам фарбуе.

Не верыш? Паглядзіся ў люстэрка.



## МУЖЫЧОК, МУЖЫЧОК, МАЁ СЭРЦАЙКА

(Беларуская народная песня)




Мужычок, мужычок, маё сэрцайка,
Не хадзі на таржок ты да местанька.

Не хадзі на таржок ты да местанька,
Не купляй ты лянку ні павесманька.

Каля лёну хадзіць — паясніца баліць,
Калапенькі ірваць — мае ручкі баляць.

О-ё-ёй, як баляць! О-ё-ёй, як баляць!
Не магу вытрымаць! Не магу вытрымаць!



## АЙ, КУРЫ, КУРЫ, КУРАНЯТАЧКІ

(Беларуская народная песня)




Ай, куры, куры, куранятачкі,
Вашы хвосцікі, як лапатачкі:
І грабуць, мятуць, у засек нясуць,
З засека нясуць, куранятам даюць,
Кураняткі ядзяць і болей глядзяць.

## ГЭЙ ТЫ, ВОЎЧАНЬКА

(Беларуская народная песня)




Гэй ты, воўчанька,
Гэй ты, шэранькі.

Чаму ты, воўчанька,
Такі злосненькі?

— Як жа мне не злаваць?
Няма ў чым зімаваць:
А ні буданькі,
А ні хатанькі.

За кусточкам сядзеў
Ды на свінку глядзеў.
Хацеў свінку схапіць—
Пачалі мяне біць.

## КОЗАНЬКА БЕЛАЯ

(Беларуская народная песня)




А козанька белая
Па надворку бегае.
Пераскочыла праз плот
Ды пабегла ў агарод.



Аб'елася цыбуліцы —
Крычыць, бяжыць па вуліцы.
Аб'елася часнаку —
Крычыць, бяжыць па таку.

А козанька белая
Па надворку бегае.
Аб'елася лебяды —
Крычыць, бяжыць да вады.

## СЯДЗІЦЬ КАМАР НА ДУБОЧКУ

(Беларуская народная песня)




Сядзіць камар на дубочку,
На зялёненькім лісточку,
Ай, люлі, люлі, люлі,
На зялёненькім лісточку.

Сядзіць камар, напявае,
Чорных мушак забаўляе,

Ай, люлі, люлі, люлі,
Чорных мушак забаўляе.

Наляцела злая бура,
Камарочка з ліста здула
Ай, люлі, люлі, люлі,
Камарочка з ліста здула.

Тут дзве мушкі падляцелі,
Камара пад ручкі ўзялі,
Ай, люлі, люлі, люлі,
Камара пад ручкі ўзялі.

## САЎКА ДЫ ГРЫШКА

(Беларуская народная песня)




Саўка ды Грышка ладзілі дуду,
Павесяліцца ды прагнаць нуду.
Ду-ду-ду-ду, ду-ду-ду-ду, } 2 разы
Ды прагнаць нуду.



Як разышліся музыкі, гу-га!
Згінула гора, згінула туга.
Ту-га-га-га, гу-га-га-га, } 2 разы
Згінула туга.

Дзядок старэнькі, ёмкі ўзяўшы скрут,
Кіем на дзверы паказаў ім тут.
Ту-ту-ту-ту, ту-ту-ту-ту, } 2 разы
Паказаў ім тут.

— Вы сабе дуйце сваё «го-ца-ца»,
Толькі не страшце малога хлапца.
Го-ца-ца-ца, го-ца-ца-ца, } 2 разы
Малога хлапца.

## МІКІТА

(Беларуская народная песня)




А Мікіта жыта паша,
А я рада, — поле наша!

*Прыпеў.*

Мікіта, Мікіта,
Так і гэтак, Мікіта.

А Мікіта жыта косіць,
А я рада, — есць не просіць.

*Прыпеў.*

А Мікіта вее жыта,
А я рада, што аббіта.

*Прыпеў.*

А Мікіта жыта меле,
А я рада, што так веле.

*Прыпеў.*

А Мікіта муку сее,
А я рада, што умее.

*Прыпеў.*

А Мікіта ў печы паліць,
А я рада, што кухарыць.

*Прыпеў.*

А Мікіта хлеб саджае,
А я рада, што гуляю.

*Прыпеў.*



## ЖАВАРОНАЧКІ, ПРЫЛЯЦІЦЕ

(Беларуская народная песня)




Жавароначкі, прыляціце,
Вясну красную прынясіце,
Каб сонейка засвяціла,
Каб снег белы растапіла,
Каб садзікі расквяціла.

Жавароначкі, прыляціце,
Зямлю-матухну абудзіце
І дожджыкам напаіце,
Каб травачкі нарасціла,
Каб волікаў накарміла.

# ЗАЙГРАЙ ЖА МНЕ, ДУДАРОЧКУ

(Беларуская народная песня)




Зайграй жа мне, дударочку,
А я патанцую,
А за гэта цябе, мілы,
Мёдам пачастую.

*Прыпеў:*

Тум, тум, тум-та, тум-та,
Мёдам пачастую. } 2 разы

Зайграй жа мне, дударочку,
Як сам разумееш.
Зайграй, сівы галубочку,
Тое, што умееш.

*Прыпеў:*

Тум, тум, тум-та, тум-та,
Тое, што умееш. } 2 разы



Як танцуюць без дуды,
Ножкі ходзяць не туды,
А як дуду пачуюць,
Самі ножкі танцуюць.

*Прыпеў:*

Ту, тум, тум-та, тум-та,
Самі ножкі танцуюць. } 2 разы

# РЭЧАНЬКА

(Беларуская народная песня)




Ой, рэчанька, рэчанька,
Чаму ж ты не поўная?
Люлі, люлі, люлі,
Чаму ж ты не поўная?

Чаму ж ты не поўная,
З беражком не роўная?
Люлі, люлі, люлі,
З беражком не роўная?

А як жа мне поўнай быць,
З беражкамі роўнай плыць?
Люлі, люлі, люлі,
З беражкамі роўнай плыць?

Ясю коніка паіў,
Кася ваду чэрпала.
Люлі, люлі, люлі,
Кася ваду чэрпала.

## ПАСТУШОК

(Беларуская народная песня)




Раным-рана чуць дзянёк
Затрубіў наш пастушок,
Ту-ру, ту-ру, та-ра-ра!
Затрубіў наш пастушок.

На пяньку пастух сядзіць,
А ў гары нешта гудзіць.
Ту-ру, ту-ру, та-ра-ра!
А ў гары нешта гудзіць.



Глянуў хлопчык, ды аж сеў, —
Самалётаў цэлых сем.
Ту-ру, ту-ру, та-ра-ра!
Самалётаў цэлых сем.

На іх лётчыкі сядзяць,
На маторы ўсё глядзяць.
Ту-ру, ту-ру, та-ра-ра!
На маторы ўсё глядзяць.

Я і сам, як падрасту,
Самалёты павяду.
Ту-ру, ту-ру, та-ра-ра!
Самалёты павяду.

## ОХ, І СЕЯЛА УЛЬЯНІЦА ЛЯНОК

(Беларуская народная песня)




Ох, і сеяла Ульяніца лянок,
Ох, і сеяла Іванаўна лянок.

*Прыпеў:*

Ох, сэрца лянок,
Мая радасць ты, лянок,
Ўсё бялюсенькі кужалёк!

Ох, палола Ульяніца лянок,
Ох, палола Іванаўна лянок.

*Прыпеў.*

Ох, ірвала Ульяніца лянок,
Ох, ірвала Іванаўна лянок.

*Прыпеў.*

А сарваўшы, ў снапочкі ставіла,
А сарваўшы, ў снапочкі ставіла.

*Прыпеў.*

Ох, і слала Ульяніца лянок,
Ох, і слала Іванаўна лянок.

*Прыпеў.*

Ох, і мяла Ульяніца лянок,
Ох, і мяла Іванаўна лянок.

*Прыпеў.*



Ох, і прала Ульяніца лянок,
Ох, і прала Іванаўна лянок.

*Прыпеў.*

Ох, і ткала Ульяніца лянок,
Ох, і ткала Іванаўна лянок.

*Прыпеў.*

А саткаўшы, ды сарочак нашыла,
А саткаўшы, ды бялёвых нашыла.

## ПАЙШОЎ ЯСЬ НАШ НА ЛУЖОК

**(Беларуская народная песня)**




Пайшоў Ясь наш на лужок, } 2 разы
Накасіў атавачкі ён стажок. } 2 разы

Пайшоў Ясь наш спачываць } 2 разы
І сваю Настулечку стаў чакаць. } 2 разы

А Настулька не прыйшла,} 2 разы
Маці дома ёй работачку знайшла.} 2 разы

— Чакай, Яська, да пары,} 2 разы
Аж да самай ночанькі, да зары.} 2 разы

## КУПАЛІНКА

(Беларуская народная песня)




Купалінка, купалінка,
Цёмная ночка,
Цёмная ночка,
Дзе ж твая дочка?

Мая дочка у садочку
Ружу, ружу поле,
Ружу, ружу поле,
Белы ручкі коле.



Кветачкі рве, кветачкі рве,
Вяночкі звівае,
Вяночкі звівае,
Слёзкі пралівае.

## КУМА МАЯ, КУМАЧКА

(Беларуская народная песня)




Кума мая, кумачка,
Дзе жывеш? } 2 разы
Чаму мяне ў госцейкі
Не завеш? } 2 разы

А вунь мая хатачка
Ля вады, } 2 разы
З высокага дзераўца,
З лебяды. } 2 разы

Тады цябе ў госцейкі
Пазаву, } 2 разы

Як свежае рыбачкі } 2 разы
Навару.

## ЮРАЧКА

(Беларуская народная песня)




Эх ты, Юрачка, што ты цешышся?
Прыйдзе зімачка – куды дзенешся?
Твая хата як свірон, —
Без падлогі, без вакон...
Эх ты, Юрачка, што ты цешышся?



## ВЕРАБЕЙЧЫК

(Беларуская народная песня)




Вось прыйшлі зімовы сцюжы,
На дварэ замерзлі лужы;
Скача, скача верабей,
Ён склікае ўсіх дзяцей:
«Ціў-ціў-ціў-ціў-ціў-ціў-ціў», —
Ён склікае ўсіх дзяцей.

Да дзяцей ён просьбу мае
І чырыкае, як знае:
«Ціў-ціў-ціў-ціў-ціў-ціў-ціў,
Дайце есці – я ледзь жыў!
Ціў-ціў-ціў-ціў-ціў-ціў-ціў,
Дайце есці – я ледзь жыў!

Есці многа мне не трэба, —
Трохі зерняў, трохі хлеба

Кіньце, дзеткі, на зямлю,
Я вам песеньку спяю:
— Ціў-ціў-ціў-ціў-ціў-ціў-ціў,
Я вам песеньку спяю!»

## БУЛЬБА

(Беларускі народны танец)





## КРЫЖАЧОК

(Беларускі народны танец)




## БЕЛАРУСКАЯ-ТАНЦАВАЛЬНАЯ

Музыка і словы Э. БАГУСЛАЎСКАЙ




Танцавалі мы гапак,
Танцавалі рускую.
Паглядзіце зараз, як
Скачам беларускую.

*Прыпеў:*

Туп, туп, чаравік,
Не ляніся!
Туды, сюды, чаравік,
Павярніся!

Дзяўчынка, Надзейка,
Выхадзі на круг хутчэй-ка,
Патанцуй-ка на памосце,
Будуць рады нашы госці.

*Прыпеў.*

На Палессі стук ды звон —
Гэта грае наш Лявон.
З Юрачкам да нас ідзе,
Мікіту з сабой вядзе.

*Прыпеў.*

Ўсіх сабралі! Ну, давайце
Дружна танцы пачынайце!
Трэба ўсім на свеце знаць,
Як мы можам танцаваць.

*Прыпеў.*



## ПАЛЕЗ КОТ ПА ДУЛІ

Словы народныя — Музыка М. ХАЎЛЯНЦАВА




Люлі, люлі, люлі!
Палез кот па дулі,
Наеўся, напіўся } 2 разы
Ды уніз спусціўся.

«Мы-ра, мы-ра, мы-ра!
Я не хачу сыра,
Ні мышэй, ні сала, } 2 разы
Мне ўсяго дастала».

Чуюць мышак трое,
Што кот у настроі,
Пачалі скакаці, } 2 разы.
Коціка ўсхваляці.

# ПЕВУНОК

Словы народныя

Музыка В. СЯРЫХ




— Кукарэку, певунок,
Пашый сабе кажушок,
Пашый штонікі з шаўкоў,
З залацістых паяскоў.

І пашыў, і надзеў,
І ў люстэрка паглядзеў,
І пашыў ён, і надзеў,
І ў люстэрка паглядзеў!

Ўсё!



# АРЭШКІ

Словы В. ЖУКОВІЧА

Музыка Э. КАЗАЧКОВА




З лесу ўчора наш Алежка
у кішэньцы
Нёс ласункі — нёс арэшкі
сястры Жэньцы.

Ды не ўбачыла арэшкі
сястра Жэнька,
Бо дзіравая Алежкава
кішэнька.

Будзе гай у чыстым полі,
дзе арэшкі
Ўсе пасеяў мімаволі
наш Алежка.

# ПРЫЛЯЦЕЛА ВОСЕНЬ

Словы В. ЖУКОВІЧА — Музыка Э. КАЗАЧКОВА




Залатыя стужкі
На бярозцы мілай.
Хутка, хутка птушкі
Паляцяць у вырай.

І вятры крутыя
Злосна загамоняць,
Воблакі густыя
Неба запалоняць.

А пакуль што — просінь
Між аблокаў белых.
Маладая восень
Толькі прыляцела.



# СВЯТА

Словы А. ІВАНОВАЙ — Музыка Л. ШЛЕГ




Я гляджу, бы з гары,
На чырвоныя шары,
Кветкі і плакаты.
Мне так весела глядзець,
Мне так хораша сядзець
На плячах у таты.

## УСМІХАЕЦЦА ВЯСНА

Словы Я. ПУШЧЫ | Музыка Г. БАРАНОЎСКАЙ




Мчыць у рэчку сакавік
Ручайкоў усмешкі,
І нясе нам красавік
Першыя пралескі.

*Прыпеў:*

Ой, люлі, ой, люлі,
Ручайкі паплылі.
Ой, люлі, ой, люлі,
Паплылі, паплылі.

Ясны веснавы прамень
Грэе долы, ўзгоркі,



З рэчкі п'юць жывы струмень
Родныя вясёлкі.

На паляне журавы,
У даліне гусі,
Вее вецер баравы
Ім на Беларусі.

## РУЧАЁК

Словы А. РУСАКА | Музыка Ю. СЕМЯНЯКІ




Звініць, пяе, іскрыцца
Вясёлы ручаёк,
Жывой вадою поіць
Травінку, каласок.

Лісточак пад вярбою
Спалошча у расе,

Лугам расу пакіне,
А песню панясе.

Звініць ручай, спявае
У полі-шырыні,
Назад дарог не знае,
Не знае цішыні.

## ЯК ВЯСНА ПРЫЙШЛА

Словы М. ТАНКА

Музыка В. СЯРЫХ






Як вясна прыйшла ў гаі,
Разбудзіла ручаі.
І паклікала ізноў
Птушак з выраю дамоў.

Прыляцелі жаўрукі,
І зязюлі, і шпакі,
Качкі і чэпікі,
А за імі — ластаўкі.

Ластаўкі, ластаўкі!
А за імі — ластаўкі...

## КАРАГОДНАЯ

Словы В. ПЧОЛКІ

Музыка А. РЭМІЗОЎСКАЙ



Мы хадзілі,
Мы хадзілі на лужок,
Там бялюткія рамонкі,
Як сняжок.

Там сінявыя, як неба,
Васількі.
Там блакітныя
Званочкі ля ракі.

Мы хадзілі,
Мы хадзілі на лужок,
На высокі,
На дняпроўскі беражок.

Там прыгожыя вяночкі
Мы плялі
З кветак-красак
Нашай роднае зямлі.

Мы хадзілі,
Мы хадзілі на лужок,
Там бялюткія рамонкі,
Як сняжок.

Там прыгожыя вяночкі
Мы плялі
З кветак-красак
Нашай роднае зямлі.



# ПЧАЛА

Словы А. ВОЛЬСКАГА Музыка П. АХРАМЕНКІ




Рана-раненька пчала
Пакідае вулей,
Заспявала, загула,
Каб усе пачулі.
Жу-жу-жу, жу-жу-жу } 2 разы
Я без справы не сяджу. }

Палячу я на лужок,
Потым на палетак,
І збяру духмяны сок
Самых лепшых кветак.
Жу-жу-жу, жу-жу-жу, } 2 разы
Я над кветкамі кружу. }

Панясу яго да сот,
Адпачну ля лёткі.

Пакаштуюць дзеці мёд,
Скажуць: — Ну-й салодкі!
Жу-жу-жу, жу-жу-жу, } 2 разы
Я падзяку заслужу.

## ДОБРАЙ НОЧЫ

Словы Л. ПРАНЧАКА — Музыка Д. ЯЎТУХОВІЧА






«Баю-баю, люлі-люлі» —
Гэта песенька матулі.
Закрывайце, дзеткі, вочы.
Добрай ночы, добрай ночы.

*Прыпеў:*

Спіць над лесам аблачынка.
Засынай, мая дзяўчынка,
Добрай ночы, добрай ночы,
Засынай, мой любы хлопчык.

Дзед баюн не спачывае,
Калыханку дзеткам бае.
Засынайце, калі ласка,
Вам прысніцца ўночы,
вам прысніцца ўночы казка.

*Прыпеў.*

## МАЯ ЗОРАЧКА

Словы А. ВОЛЬСКАГА — Музыка С. АЛЬХІМОВІЧ



Ноч блукае па двары,
І ўвесь дом наш спіць.
Толькі зорачка мая
Ярка зіхаціць.

Зорка-зорачка ў акне
Ззяе ўсё ярчэй.
І міргае з вышыні:
— Прылятай хутчэй!..

Пазнаёміцца даўно
З зоркаю хачу.
Я ў ракеце да яе
Хутка палячу.

## ЗЯМЛЯ МАЯ

Словы Н. ГАЛІНОЎСКАЙ Музыка С. ГАЛКІНАЙ




Зямля мая азёрная—
Рабіна за акном,



Крынічка ціхамоўная,
Гасцінны ветлы дом.

Іду жытнёвай сцежкаю —
Мне звоняць жаўрукі,
Блакітнаю усмешкаю
Вітаюць васількі.

Ты працаю славутая,
Карміцелька-зямля.
Цярплівая, пакутная,
Ты назаўжды мая.

## ДУДКА

Словы народныя Музыка С. АЛЬХІМОВІЧ




Я іграў на дудцы,
Седзячы на будцы,
Ту-лю-лю, ту-лю-лю, } 2 разы
Седзячы на будцы.

Грае мая дудка,
Пяе весялушка,
Ту-лю-лю, ту-лю-лю,
Пяе весялушка. } 2 разы

Як іграла дудка,
Прыскакаў тут Юрка,
Ту-лю-лю, ту-лю-лю,
Прыскакаў тут Юрка. } 2 разы

А за Юркам Янка,
А за Янкам Танька,
Ту-лю-лю, ту-лю-лю,
А за Янкам Танька. } 2 разы

## РОДНЫ БУСЕЛ

Словы Н. ГАЛІНОЎСКАЙ — Музыка С. ГАЛКІНАЙ






Пакружыся, бусел,
Нізка над вярбой.
Чуцен Беларусі
Клёкат ціхі твой.

Міру ўсёй планеце,
Шчасця і святла
Хочуць усе дзеці
Горада, сяла.

Разгарні ты крылы
Вольна на ўсю шыр.
Сонца пералівы
Поўняць слова мір.

Пасяліся, бусел,
Побач, на вярбе.
Песні Беларусі
Будзем пець табе.

## БАБЧЫНА ПАМОЧНІЦА

Словы К. КІРЭЕНКІ — Музыка В. СЯРЫХ




Вачаняткі — васілёк,
А валосікі — лянок, —
Вось якая ў бабкі ўнучка —
Бабчына памочніца.

Ледзьве ранічкай прачнецца, —
Хопіць звонкае вядзерца

І да студні — скокам-скок!
Бабчына памочніца.

Курак беленькіх напоіць,
Куранятак супакоіць:
— Не сумуйце, тут я, тут!..—
Кажа ім памочніца.

## КАЛЫХАНКА

Словы Г. БУРАЎКІНА — Музыка В. РАІНЧЫКА






Доўгі дзень,
Цёплы дзень
Адплывае за аблокі.
Сіні цень,
Сонны цень
Адпаўзае ў кут далёкі.
Збеглі зайкі ўсе ў лясы.
Змоўклі птушак галасы.
І буслы ў гняздо схавалі
Свае доўгія насы.

*Прыпеў:*

Баю-бай, баю-бай,
Вачаняты закрывай.

Пакрысе
На расе
Патухаюць зоркі-сплюшкі.
Гулі ўсе,
Казкі ўсе
Пахаваны пад падушкі.
Спяць і мышкі, і стрыжы.
Спяць машыны ў гаражы.
Ты таксама
Каля мамы
Ціха-ціхенька ляжы.

*Прыпеў.*

# ГРЫБНЫ ДОЖДЖЫК

Словы А. ДЗЕРУЖЫНСКАГА　　　Музыка С. ГАЛКІНАЙ




Дожджык, дожджык дробненькі, дробненькі,
Будзь ты, дожджык, добранькі, добранькі.
Лісся ты ўсю ночку,
Каб раслі грыбочкі. } 2 разы

І паслухай дожджык нас, дожджык нас,
Усю ночку ліў якраз, ліў якраз.
Колькі там каля дубоў
Добрых вырасла грыбоў! } 2 разы



* * *

(З народнага)

Ходзіць коцік па палях,
Носіць сон у кашалях.
Ходзіць коцік па капусце,
Носіць сон у белай хусце.
Бабка коціка дагнала,
Сон для дзетачак забрала.
А ты, коця, вон, вон,
А на дзетак — сон, сон.

## А ТЫ, КОЦІНЬКА-КАТОК

(З народнага)

А ты, коцінька-каток,
Ў цябе шэранькі хвасток.
Ты прыходзь к нам начаваць,
Будзеш Янку калыхаць.
А я шэраму катку
За работу заплачу —
Дам гарлачык малака
І кавалак пірага.



*Змітрок Бядуля*

## ДУДАЧКА

Баю, баю баечку,
Граю, граю граечку.

Я пайшоў далінаю,
Вузкаю сцяжынаю.

Там над самай рэчкаю,
Ёсць кусты з парэчкамі.

Пад высокай кручаю —
Крапіва пякучая.

Ёсць лазіна стройная,
Гладкая і роўная.

Выразаў я дудачку,
Дудачку-пагудачку.

Засвістаў я птушкаю,
Птушкаю-пяюшкаю.

Заіграў я граечку,
Траля-траляляечку.

Рэхі пакаціліся —
Жаўранкі здзівіліся.

Камары зляцеліся —
Ім свістаць хацелася.

Пчолкі пазбіраліся —
Ім свістаць жадалася.

Гускі прывалюхалі,
Дудачку паслухалі.

— Дай пам, дай нам дудачку,
Дудачку-пагудачку.

— Дай нам, дай свісцёлачку
Пасвістаць пад ёлачкай.

Граю, граю граечку,
Траля-траляляечку.

## КАЛЫХАНКА

Кукарэку, певунок!
Пашый Янку кажушок,
Шапачку бабровую,
Боцікі казловыя.
— Я пашыю, я зраблю,
Бо я хлопчыка люблю.
Мяу-мяу, рабенькі каток!
Схадзі, коцік, на таржок,



Купіш абаранычкаў,
Будзе есці Янычка.
І пайшоў ён, і купіў,
І малога накарміў.

Му-му, трацячок-бычок!
Ты да пчол схадзі ў садок.
Ад пчалінай мамачкі
Нясі мёду Янычку.

І пайшоў у сад бычок,
І мядку прынёс збанок.

Го-го, жвавы гусачок!
Зрабі Янку ветрачок
З тваіх пер'яў точаных,
Сонцам пазалочаных.

І зрабіў сваяк-гусак
З пер'яў хлопчыку вятрак.

Піск-піск, мышка-мышанё!
Збегай зараз на гумно,
Зрабі Янку граечку,
З стружак балалаечку.
— Балалаек зраблю пяць,
Будзе Янычка іграць.
Ты, сыночку мой, засні.
А-ля-лю-лі, а-лю-лі.
Пад тваёй калыскаю
Кіска дрэмле з мышкаю.
Спяць браток і певунок,
Спіць і жвавы гусачок.

Вось ідзе ён, вось і ён —
У кашульцы белай сон.
Казкі-байкі баюцца,
Вочанькі зліпаюцца.
  Не шуміце... ну, ну, ну!
  Хлопчык Яначка заснуў...

*Янка Лучына*

## КАЛЫХАНКА

Спі, малы сакол,
Свет увесь заціх,
Лічыць хай анёл
Бег хвілін тваіх.

  Ночка на парог,
  Ззяе зорак рой.
  Спі!.. хай моцны Бог
  Сон бароніць твой!

Наплывае змрок,
Ціху свету шле...
Ды матулін зрок
Бачыць і ў імгле.

  Матчына далонь
  Гладзіць цеплы лён.
  Спі!.. ціхутка ў скронь
  Дыхае твой сон...



Спі!.. Засні!.. маё каханне!
Заўтра ясна сонца ўстане,
Зноў на ніву і на поле
Паляціш ты, мой саколе.
Птушкі там жывуць сям'ёю.

  Спі... дзіцятка залатое!
  Спі, малы сынок,
  Прыйдзе сон яшчэ!
  Золатам уток
  Нітка чараў тчэ.

Светлы век міне,
Не прысняцца сны,
У жыцця млыне
Змелеш шмат маны.

  Маладосць мільгне,
  Сцісне золлю свет
  У чароўным сне
  Выбуялы цвет!

Спі!.. Жыццёвы гнеў
Знішчыць мар загон.
Хай жа матчын спеў
Лашчыць светлы сон.

*Эдзі Агняцвет*

## ЦІХІ ВЕЧАР

Ходзіць сон у цёплых ботах —
Светла-сіні, залаты.
Апускаецца дрымота,
Засынай хутчэй і ты!
Спі, Галінка!

А дачка адкрыла вочы,
Засынаць яна не хоча:
— Я не маю часу спаць,
Трэба ляльку калыхаць.

Той, хто спіць, —
расце здаровы.
Лялька, ляж на правы бок!
Я ж табе пашыю новы,
Паркалёвы фартушок.
Стужкі з крамы прынясу я,
Акуратна адпрасую.
Люлі, лялька!

Ды не хоча лялька спаць,
Стала зайку калыхаць:
— Ходзіць сон у цёплых ботах.
Спі, мой зайка, люлі-лю!
Рукавічкі для работы
Я табе, малы, зраблю.



І не змогуць застудзіцца
Лапкі ў белых рукавіцах.
Спі, мой зайка!

Кожны мае тут нагрузку:
Мама шые Галі блузку,
Галя — ляльцы фартушок,
Лялька вяжа рукавіцы.
І нікому тут не спіцца,
Хай сабе гусцее змрок!

Сон ступае сам не свой,
Ён ківае галавой:
— Неспакойныя часіны!
Клапатлівыя жанчыны!

*Андрэй Александровіч*

## КАЛЫХАНКА

Ціха, кіска,
Ціха, братка,
У калысцы
Спіць дзіцятка.
Будзь жа добранькі, глядзі,
Дзіцяня не разбудзі.

Коцік слухацца не хоча,
Скача ён з кутка ў куточак.

Ох ты, кіска,
Ох, паганы,
Скінуў міску
З кашай маннай.
Галубкі лятуць, лятуць,
Кашку гэтую з'ядуць.

Баючыся кары цяжкай,
Коцік слёзы лье над кашкай.

Чуеш, кіска,
Ля калыскі
Ходзіць мышка —
Карантышка.
Не марудзь жа ані-ні,
Гэту мышку прагані.

Коцік часу не губляе,
Мышку ў норку заганяе.

Змогся кіска,
Прытаміўся,
Пад калыскай
Прымасціўся,
Хвост пад лапкі падгарнуў
І салодкім сном заснуў.

— Баю-баю...
Ціха ў хаце.
Захацела спаць і маці.



*Ларыса Геніюш*

## СПІ, АЛЁНКА

— Спі, Алёнка,
Маленькая, спі.
Вунь пад зорамі дрэмлюць палі.
Вецер коўдраю іх прыкрывае.
— Як мяне?
— Як цябе, дарагая.
— Хто ім казачку бае?
— Бары.
— Хто ім песню спявае?
— Вятры.
— Хто іх туліць?
— А туліць зіма.
— Хто да працы іх збудзіць?
— Вясна.

*Ганна Іванова*

* * *

Люлі-люлі-люлі!
Прыляцелі гулі!
Гулі-гулі-галубы!
Селі гулі на дубы.
І спявалі, і гукалі —
сны салодкія склікалі.
Мядовыя!
Цукровыя!

Рознакаляровыя!
Зорна-зіхатлівыя!
Лёгкія, шчаслівыя!
Любаму сыночку
хопіць на ўсю ночку.

*Рыгор Барадулін*

## КАЛЫХАНКА

Ціха ноч ступае
З зорнаю сявенькай.
Па сінім Дунаі
Дзед плыве сівенькі.

А вязе ён кадку,
Мёд салодкі ў кадцы.
Кожнаму дзіцятку —
Па цікавай казцы.

Мёдам вочкі мажа,
Доўга казку кажа.
А гэтага дзеда
Дзеткам трэба ведаць.

Не рыпнуць завесы,
Калі зойдзе ў хату.
Добрым сном завецца
Дзядок барадаты.



Ты, дзядок, у лодку
Забяры Ілонку —
Няхай засынае
На сінім Дунаі.

Як засне — да мамы
Прывязі малую.
Хвалі б'юць памалу,
Месячык вяслуе.

Плыві, плыві, лодка,
Засынай, Ілонка!
Лю-лі, лю-лі, лю-лі!
Зоранькі паснулі.

*Сяргей Новік-Пяюн*

## НАД КАЛЫСКАЙ

Запаліла ночка
Зорныя агні.
Спі, мая дачушка,
Любая, засні.

Над тваёй калыскай
Буду я пяяць,
Пра ката і мышку
Казачку казаць.

Пад акенцам кветачка
Цудная цвіце.
Мая крошка-дзетачка
З дня на дзень расце.

Вунь высока зорачка
Золатам блішчыць,
А мая дачушка
Штосьці ўсё не спіць.

З-за хмурынкі месячык
Беленькі ідзе,
За сабою зорачак
Карагод вядзе.

*Васіль Вітка*

## КАЛЫХАНКА

Люлі, люлі, люлі,
Дзеткі ўсе паснулі.

Не спіць толькі коця,
Ходзіць па балоце.

Застудзіў ён лапку,
Прыйшоў грэцца ў хатку.

Недзе коцю дзецца,
Лапачцы пагрэцца.



Палез на палаткі,
Спалохаўся бабкі.

Палез ён на вышкі,
Там гулялі мышкі,

Так яны дурэлі —
Хвост кату ад'елі.

Пайшоў каток у лясок,
Знайшоў белы паясок,

А котачка узяла
І дзіцяці аддала.

Пайшоў каток пад масток,
Злавіў рыбку за хвасток.

Ці самому з'есці,
Ці дадому несці?

Думаў, думаў каток,
Укусіў адзін разок

І панёс дадому
Дзіцятку малому.

*Наталля Арсеннева*

## КАЛЫХАНКА

Ноч рассыпала зораў агні,
ў сінім небе яны патанулі.
Вее сон над прасторам зямлі.
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі.

З гэтых зорных чырвоных агнёў
я спляту прамяністы вяночак.
Над галоўкай павешу тваёй,
люлі ж, люлі, засні, мой сыночак.

Будуць зоры маленькаму ззяць,
будуць светлыя сны пасылаць.

Ціша ўсюды і сонны спакой...
Вербы гнуткае вецце схінулі
над сцюдзёнаю, змерзлай ракой.
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі.

Я падслухаю шэпты вярбін,
я падслухаю шэляхі ночкі
і ў напеў пазбіраю адзін.
Люлі ж, люлі, засні, мой сыночак.

Будуць вербы шасцець, шапатаць,
Будуць снамі цябе асыпаць.



Як бы плачучы, ў кропельках слёз
прыгажуні-бярозы паснулі.
Гэта ў пэрлы прыбраў іх мароз.
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі.

Тыя пэрлы-слязінкі збяру,
наніжу з іх пацёркаў шнурочак
і на шыйку завешу тваю.
Люлі ж, люлі, засні, мой сыночак.

Будзе з імі малы засынаць,
ручкай пацеркі-слёзы кранаць.

Ноч рассыпала зораў агні,
ў сінім небе яны патанулі...
Спіць усё, й ты, маленькі, засні.
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі.

*Сяргей Грахоўскі*

## КАЛЫХАНКА

Носіць зорны парасон
І нячутна ходзіць сон,
Ціха, голасам бабулі
Ён спявае: «Люлі-люлі,
Люлі-люлі, люлі-люлі,
Дзеткі ўсе даўно заснулі.
Зоркі спяць увышыні,

Дык і ты хутчэй засні.
Залаты маладзічок
Лёг у небе на бачок,
На канапе дрэмле мішка,
Пад сталом заснула мышка.
— Люлі-люлі, а-а-а, —
Шэпча росная трава.
— Баю-бай, — спявае слон
І вядзе ў дзівосны сон —
На пуховыя падушкі
І ў краіну райскай птушкі.
Усё заснула ў цішыні,
Дык і ты хутчэй засні,
Люлі-люлі, баю-бай,
Спі, дзіцятка, засынай,
Дарма вочкі не сляпі,
Спі спакойна, спі, спі.
А-а-а... А-а-а...»



## ЯГОРАЧКА

(З народнага)

Горкай, горкай, горачкай
Ішоў малы Ягорачка.

Ваўкоў не баяўся,
Страхаў не пужаўся.

Выразаў Ягорачка
Дудачку-свісцёлачку,

І свістаў ён птушачкай,
Птушачкай-пяюшачкай.

Горкай, горкай, горачкай
Ішоў малы Ягорачка.

## МЫШКА, МЫШКА, ДЗЕ БЫЛА?

(З народнага)

— Мышка, мышка, дзе была?
— Была ў пана караля.
— Што рабіла? — Лыжкі мыла.



— А што далі? — Кавал сала.
— Дзе паклала? — Пад лаўкаю.
— Чым накрыла? — Халяўкаю.
— Дзе падзела? — Кошка з'ела.

*Кандрат Лейка*

## ПТУШКІ

От плісачкі з ластаўкамі
Пайшлі жыта жаці,
А аўсянкі, канаплянкі
Снопікі вязаці.
Салавейчыкаў з драздамі
Выгналі касіці,
А малінак, канарэек —
Пакосы сушыці.
Качачкі з вутачкамі
Пайшлі малаціці,
А жураўле з петухамі
Рыбіцу лавіці.
І вароны, і сарокі
На скрыпаццы граюць,
А буслэ з індыкамі
Седзячы спяваюць.
Вараб'е і жаўтабрушкі
Па шляхам гуляюць,
А крукі з каршунамі
Радай запраўляюць.

## САРОКА

Сарока-белабока
Па хаці скакала,
Рагатала, вярцелася,
Дзетак забаўляла.
На ёй бела фартушына,
Чорненька сукенка,
А гаворыць і шчабечэ
Дробна, як паненка...

## БУСЕЛ

Бусел, бусел, галяндач,
Пайшоў жыта аглядаць;
Яшчэ жыта зеляно,
Буслу ногу адняло.
Скача бусел на кію,
Кляне доленьку сваю.

## ЖУРАВЕЛЬ

Даўгашыі журавель
Скляваў лешку канапель,
Загон цэлы сачывіцы.
Ой, я таму жураўлю
Калом спіну пераб'ю,



Каб ён болей не лятаў,
Ў полі збожжа не кляваў.

*Ларыса Геніюш*

## КУРАЧКА

Выйшла курачка на снег,
Пагуляла трошкі.
Гэта ж гора, а не смех —
Босенькія ножкі.

Цыпка бегае па снезе,
Мёрзне з непрывычкі.
На адну нагу прысела:
— Дайце чаравічкі!

## ВЕРАБЕЙ

Верабейка:
- Ціў-ціў-ціў! —
Муху дзюбаю злавіў.
А таму, што ён быў добры,
То з сябрамі падзяліў.

Елі муху ўсе са смакам.
Шчабяталі:
— Дзякуй!
— Дзякуй!

*Авяр'ян Дзеружынскі*

## ГУСАНЬКІ

— Дзе былі вы, гусанькі?
— Га-га-га! —
На беразе рэчанькі,
На лугах.
— Што рабілі, гусанькі?
— Скублі муражок,
Але там
Нас высачыў
Злосны шэры воўк.
— Як уратавацца
Ад яго змаглі?
— Га-га-га! —
На крылах
Хуценька ўцяклі.

## КУЮ-КУЮ НОЖКУ

Кую-кую ножку,
Паеду ў дарожку,
Куплю чаравічкі,
Зусім невялічкі,
На быструю ножку —
Маломy Цімошку.
Вось і чаравічкі,
Шоўкам вышываныя,
Вось і невялічкі,
Фарбай маляваныя.

Як ні прымяралі,
Як ні абувалі,
Не лезуць на ножку
Маломy Цімошку.



Абувала Цімошку
Бабуля —
Не абула.
Абувала Цімошку
Матуля —
Не абула.
Прыляцелі
Птушкі-гулі
І ўраз хлопчыка
Абулі.

*Нэлі Тулупава*

## КУЛАЧОК

— Во, які кулачок!
Во, які круглячок!
— А што ў гэтым кулачку?
А што ў гэтым круглячку?
— А ў ім — пальчыкі:
Адзін,
Другі,
Трэці,
Чацьвёрты
І пяты
У дачушкі Наты.

## ЛАДЫ

У дачушкі Верачкі
Пальцы, бы цукерачкі.
У дачушкі Ладачкі
Шчочкі, як аладачкі,
Лады мае, ладачкі.

## ВОЧКІ

Сіненькія вочкі
У маленькай дочкі.
Кажуць вочкам матылькі:
— Вы не вочкі — васількі,
А можа, званочкі?
— Не, мы — вочкі, вочкі!

## МАМІНА ДАЧУШКА

Гэта — вочкі,
Гэта — носік,
Гэта — роцік,
Гэта — вушкі,
Гэта — маміна дачушка!

*Еўдакія Лось*

## КУРКА-КВАКТУХА

Курка-квактуха
вадзіла дзяцей
каля кляцей:
квох-квох...
Дзеці зярнят
з'елі зашмат:
квох-квох!

Жоўценькі пеўнік
зляжа, напэўна:
квох-квох!
Грэлку на брушка
нясе квактушка:
ох-квох...



*Яўген Крупенька*

## ЧЫТАЧЫ

Злезла з печы
Мурка-кошка,
Пахадзіла
Каля ложка,
Прыкмеціла
Кніжку,

Паклікала
Мышку:
— Досыць, мышка,
Гуляць,
Будзем кніжку
Чытаць.

*Максім Танк*

## ЕХАЎ КАЗАЧНІК БАЙ

— Ехаў казачнік Бай
Цераз сёлы і гай.
Баіць ці не?
— Бай!

— Ён пытаўся ў мяне,
Што даць дзецям у сне?
Баіць ці не?
— Бай!

— Я прасіў: дзецям дай
Казку-песеньку, Бай!
Баіць ці не?
— Бай!

— Казку, — кажа, — я дам,
Толькі выберу сам.
Баіць ці не?
— Бай!

— А найлепшую з іх
Дам для самых малых.
Баіць ці не?
— Бай!

— Тым, хто любіць мяне
І хто першы засне.
Баіць ці не?
— Не!

*Васіль Вітка*

## БАБІНЫ ГОСЦІ

Ладачкі-ладкі,
Дзе былі? — У бабкі.

Што пілі вы? — Малако.
А што елі? — Ко-ко-ко.

Доўга ж вы сядзелі,
Доўга пілі-елі.

А мы не сядзелі —
Цэлы дзень дурэлі.



Мы і заўтра пойдзем
Да бабулі нашай —
Абяцала бабка
Бярозавай кашы.

## АЙ І ОЙ

Ладачкі-ладкі...
А дзе мае тапкі?
Ладачка, пашукай.
— Ай!

Ах ты, непаслушка,
Давай сюды вушка.
Не хачу гуляць з табой.
— Ой, ой, ой!

## ДАРОЖКА

Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку.

Дарожка крывая,
Кабылка сляпая.

Еду, еду, еду,
Не натраплю следу.

Пасаджу дзіцятка
Я на казлянятка.

Казлянятка ўпала,
Ножку паламала.

Сын прачнуўся рана,
Сеў ён на барана.

Баранок падбіўся,
А сынок зваліўся.

Барана пакіну,
Завяду машыну.

Ту-ту-ту, машына,
Вязі майго сына.

## САРОЧЫНЫ БЛІНЦЫ

Клапатлівая сарока,
Гаспадыня белабока,
Па прыпечку скакала,
Бліны расчыняла.

А дачушка памагала.
Сынок цеста мясіў.
Другі сын ваду насіў.
Трэці ў печы паліў.



А чацвёрты сядзеў,
На агеньчык глядзеў,
Памагаць не хацеў.

Бліны маці даставала,
Усіх дзетак частавала:

— На, дачушка, блінец,
Ты ў мяне — маладзец.
І сынок — маладзец,
І яму даю блінец,

І табе, сынок другі,
Мой памочнік дарагі.

Самы смачны блінок
Возьме трэці мой сынок...

Дзеці ўсе бліны паелі.
Шух, шух — паляцелі.

— Ну, а дзе ж, а дзе мой блін? —
Запытаў чацвёрты сын. —
Мама, дзе мой блінец?
— А табе няма.

## ПРЫЛЯЦЕЛІ ГОСЦІ

Прыляцелі госці,
Селі на памосце,

Сталі сакатаці,
Просяць есці даці.

Вазьму ў сенцах сіта,
Вынесу ім жыта.

З рукаўца-мяшэчка
Пачастую грэчкай.

Дам паўрукавіцы
Ярыцы-пшаніцы.

Кіну ўсім патроху
Бобу і гароху.

На закуску жменю
Сыпану ячменю.

Прыляцелі госці —
Частункі выносьце:

Старому —
Арэшкі,
Малому —
Пацешкі.



## ВЕРАБЕЙ

Чы-чы-чы, верабей,
Не скачы, не дурэй.
Не паслухаў ён мяне,
Стаў скакаць па бервяне,
Хацеў злавіць мошку,
Зламаў сабе ножку.
Я каленца
Вераб'ю
Палаценцам
Пераўю,
На хворую ножку
Пашыю панчошку.
Чы-чы-чы, верабей,
Не скачы, не дурэй.

*Аляксей Пысін*

## СЛАВІНЫ ЧАРАВІЧКІ

Чаравічкі ў нашай Славы —
Адзін левы, другі правы.
Справа — левы,
Злева — правы,
Скажы, Слава,
У чым справа?
— Тут маёй няма віны:
Паспрачаліся яны.

*Станіслаў Шушкевіч*

## КАМАРЫК

Камарыку ладачкі,
Ён зваліўся з кладачкі.
Давялося, балазе,
Стракатлівай страказе
Камарыка ратаваць,
З быстрай рэчкі даставаць.
Каб не мелкая вада,
З камаром была б бяда.

Сеў камарык на траве,
Як заплача, зараве:
— Ой, замокла кашуля,
Будзе лаяць бабуля,
Мой касцюмчык, як сажа,
Што матуля мне скажа?

Ладкі, ладкі, ладачкі,
Больш не падай з кладачкі.
Нашто плакаць і енчыць?..
Кладка мела парэнчы,
Не трымаўся, сваволіў...
Годзе плакаць, даволі!



## ПАРСЮЧОК

Парсючок пад'еў
І прыйшоў у хлеў.
Стогне: — Ух-ух-ух,
Я пад'еў за двух.
Але пэўна б мог
З'есці і за трох.

*Янка Купала*

## БАЙ

Бегаў бай па сцяне
У чырвоным кафтане.
Байку баіў. Ай, лю-лі!
Жылі пчолкі ў вуллі...
    Баіць ці не?
    — Баіць!

Бегаў бай па сцяне...
Шла вясна па вясне,
Жылі пчолкі з году ў год,
Бралі ў соты з кветак мёд.
    Баіць ці не?
    — Баіць!

Бегаў бай па сцяне...
Ніхто пчолак не кране;

Самі мёд збіраюць той,
Самі ласваюць зімой…
Баіць ці не?
— Баіць!

Бегаў бай па сцяне…
У той самай старане
Пустапасам труцень жыў,
Неяк з пчолкамі здружыў…
Баіць ці не?
— Баіць!

Бегаў бай па сцяне…
Труцень кажа: «Дайце мне
Глянуць, пчолкі, у вуллёк,
Паспытаці ваш мядок!..»
Баіць ці не?
— Баіць!

Бегаў бай па сцяне…
Ці так добра, ці так не, —
Пчолкі добрымі былі,
Трутня ў госці прынялі…
Баіць ці не?
— Баіць!

Бегаў бай па сцяне…
Труцень пальцам не кіўне;
Пчолкі мёд нясуць да сот,



Труцень есць да есць той мёд.
Баіць ці не?
— Не!

*Уладзімір Скарынкін*

## ДЗЯЦЕЛ

Востры дзюбай
па кары
Дзяцел грукае
ў бары.
Барабаніць:
— Тук-тук-тук!
Недзе тут
схаваўся жук.

*Данута Бічэль-Загнетава*

## ЗАЙЧЫК-ХВАЛЬКО

Белячок малы хваліўся:
— Я ад снегу пабяліўся.
А вясна як прыйдзе ў лес,
буду я зялёны спрэс!

*Ганна Іванова*

## ВАЛЁНКІ

Коця коўзацца хадзіў,
сабе лапкі застудзіў.
Прыбег да Алёнкі:
— Пазыч мне валёнкі!
Я зімою панашу,
а вясною прынясу!

*Іван Муравейка*

## ЦІ ПАМЫЛІЎСЯ ЯША?

— Хто за ўсіх шпарчэйшы?
— Я!
— Хто за ўсіх дужэйшы?
— Я!
— Хто за ўсіх спрытнейшы?
— Я!
— Хто за ўсіх смялейшы?
— Я!
— А хто самы разумнейшы?
— Я!
— А ў каго язык даўжэйшы?
— У мяне!

Раптам Яша спахапіўся:
— Я, прабачце, памыліўся...
— Вось і не!



*Авяр'ян Дзeружынскі*

## ДЗІВА

Прыйшла
Качка
Ў хату
З рэчкі,
Напаліла хутка
Печку.

Качар —
Добры хлебапёк,
Шэсць буханак хлеба
Спёк.

Падмялі падлогу
Мышы.
Кот прынёс
Яловых шышак,
Стаў іх есці
Ды хваліць,
Мышак шэранькіх
Карміць.

Бык зрабіў сабе
Гняздзечка
І адразу
Знёс яечка.
Сеў і вывеў
Ён шчаня.
Качар кажа:
— Качаня.
— Качаня, —
Сказала качка, —
Толькі вые,
Як сабачка.



*Нэлі Тулупава*

## ДОЖДЖЫК МІКІТА

Зноў расхныкаўся Мікіта,
Слёз наплакаў ён карыта.
— Дайце шчэ адно карыта.
Плакаць некуды Мікіту.
— Нясіце карыта! —
А прынеслі сіта.
— Нясіце бітон! —
Прынеслі батон.
Зноў надзьмуўся,
Зноў сярдзіты,
Зноў расхныкаўся Мікіта.
Тут прыйшла дзяўчынка Рада,
Кажа:
— Сядзь і плач над градкай,
Памагай бабулі
Паліваць цыбулю.

*Уладзімір Карызна*

## НЕБЫЛІЦА

Сёння
Хмара ў хату
Ўбегла,
На засланы ложак
Легла,
Хлеб змахнула
Са стала,
Стол
Булёнам заліла.

Парассыпала скрозь
Смецце...
І зваліла ўсё
На Пецю.

*Васіль Жуковіч*

## НА ДАРОЗЕ БАРТАВОЙ...

На дарозе бартавой
па машыне роўнай
з дому
вёз
дзівак
зімой
у дуброву дровы.
А ў хляве
у дзівака,
пакуль вёз ён дровы,
сена
схрумстала бычка
акрамя каровы.
Распаліў курам на смех
дзівачок той печку,
на вячэру смажыў снег,
доячы авечку.

*Рыгор Барадулін*

## ЖАРТ

Проста жах —
Гарыць калодзеж,
Аж пад неба
Полымя.

Чым астудзіш,
Ахалодзіш?
Не рукамі голымі!



Што рабіць?
Бяда
Адна —
Выгарыць
Вада
Да дна.

Што рабіць
І што рашыць?

Як ваду
Вадой тушыць?!.

*Васіль Зуёнак*

## РАСПЛАКАЛАСЯ...

З-пад куста чырванапёрка
Не вылазіць, плача горка:
— Ой, згубіла я, сястрыцы,
Каснічок і завушніцы...
Як жа будзе, як жа будзе
Паказацца мне на людзі?

Вочы трэ чырвоныя,
Слёзы лье салёныя.
Лье руччом. Патокам лье!..
Сталі ўсе прасіць яе:
— Кінь, бо, добрага чаго,
Рэчка выйдзе з берагоў!..

*Васіль Лаўрыновіч*

## ПАШКАДАВАЎ

Трусік, шэранькі дружочак,
З'еш капустачкі лісточак,
Палавінку агурка
І скрылёчак бурака.
Малака ж табе не дам:
Малако люблю я сам.

*Іван Муравейка*

## НЯВЕТЛІВАЯ КАЧАРГА

Міхасю не па сабе.
— Ох!
Сёння вырас на ілбе
Рог.

Ён на качаргу нагой —
Туп,
А яна па лбе —
Луп:
— Стрымгалоў куды бяжыш,
Зух?
А пад ногі не глядзіш,
Друг...

Міхасю не па сабе,
— Ох!



Так і будзе на ілбе
Рог?

## ФАДЗЕЙ ЧАКАЕ

Ляжыць у садзе дзень Фадзей
На зайздрасць гультаям:
Чакае ён, калі ўпадзе
З галіны яблык сам.

## ПРА МЫШКУ І КНІЖКУ

Мама Мыш
Купіла кніжку
Для сваёй дачушкі
Мышкі:
— Час табе
Ужо за парту.
На, грызі
Навуку ўпарта.

Мама Мыш
Прыйшла з работы:
— Без мяне рабіла
Што ты?

Адказала маме
Мышка:
— Натамілася
Я з кніжкай.
Гэтулькі было
Мне мукі,
Але згрызла ўсю
Навуку.

*Мікола Хамянкоў*

## УРОК

З самай раніцы Змітрок
Вучыць з мамаю урок.
Кажа дзед:
— Унук, відаць,
Атрымае сёння пяць.
Толькі вось я ўсё мяркую:
Як дзяліць пяцёрку тую?

*Віктар Гардзей*

## ВІТАМІН

Дзед у садзе сліў натрос, —
Поўны кош дамоў прынёс.

— На здароўе еш, Ігнат, —
Вітамінаў у іх шмат.

Сліву ўнук пасмакаваў,
Дзеду костачку падаў:

— Вось і, праўда, вітамін,
Ды шкада — ўсяго адзін.



## МЕСЯЦ

Месяц коціцца за хату.
Тут Алёнка кажа тату:
— Прывязаць яго нам трэба,
Каб не ўпаў ён часам з неба.

*Анатоль Грачанікаў*

## ЗАДАЧА

На вагі ўскочыў
Пеўнік сам.
Заважыў
Роўна кілаграм.
Запамятайце,
Дзеці, ўсе:
Стаяў ён
На адной назе.
А колькі
Будзе ў ім вагі,
Як стане ён
На дзве нагі?

*Станіслаў Шушкевіч*

## МЫШ І КАЗЁЛ

Ішла мышка і пытала,
Дзе знайсці мукі і сала.
Паказаў казёл бародкай:
— За высокай загародкай,
Супроць млына на прыгорку
Жыве коцік на задворку.
Паважае ён гасцей,

Хлебасол і дабрадзей.
Мышка ціха адказала:
— Пэўна ён не мае сала?..
Потым глянула на горку
І хутчэй шмыгнула ў норку.

*Авяр'ян Дзeружынскі*

## ЧЫЯ ПАМЫЛКА?

— Двойку ў дзённіку, дачушка,
Я ізноўку бачу.
— Ты ж няправільна рашыла,
Мама, мне задачу.

## У ЦЁМНЫХ АКУЛЯРАХ

— Чаго ты
Ў цёмных акулярах
Ідзеш у школу
Ігарок?
— Каб па вачах
Не знаў настаўнік,
Што я
Не вывучыў урок.



## ПАЧАЎ ЛЕПШ ВУЧЫЦЦА

— Ты пачаў, Ясь,
Лепш вучыцца
І як след
За кнігі ўзяўся.
— Дык ты ж ведаеш,
Бабуля,
Тэлевізар
Сапсаваўся.

*Мікола Чарняўскі*

## ЗАЯЦ МОРКВУ ВАРТАВАЎ...

Заяц
Моркву вартаваў,
Рваць
Нікому не даваў:
Ні вялікай,
Ні маленькай —
Гнаў з палетка ўсіх
Кавенькай!

Сам мядзведзь,
Пад восень гэтак,
Завітаў
На той палетак,
Каб прыкінуць,

Паглядзець,
Як сабраць,
Куды ўсё дзецъ.

Зірк налева,
Зірк направа:
Што за дзіўная
Праява?
Ні зялёнага радочка,
Ні зялёнага чубочка
На палетку
Не відно!..
Анямеў
Мядзведзь ажно!

Ды ачомаўся імгненна:
— Гэй, касы,
скажы сумленна,
Хто тут поркаўся
Ўсё лета?..
Ён адкажа мне
За гэта!

Паціскае Зай плячыма,
Хітра бліскае вачыма:
— Я не знаю,
Я не бачыў...
Я стараўся,
Не лайдачыў...



Сапраўды:
Дзе ж морква тая?
Хто
Загадку
Адгадае?

## КАГО БАІЦЦА ЗУБР?

— Зубр, ты ў пушчы —
Гаспадар.
Зубр, ты ў пушчы —
Уладар.
А скажы,
Прызнайся, дружа,
Воч пахмура не адводзь:
Ці каго баішся дужа,
Ну, не дужа, —
Трошкі хоць?..

Чмыхнуў зубр,
Пахрумстаў,
Потым
Шумна выдыхнуў:
— Янота...

— Як? Янота?
Кпіш ты мусіць?
Гэткага

Не можа быць!..
— Як хаджу, заўжды баюся, —
На яго б
Не наступіць!..

*Уладзімір Мацвеенка*

## СМЯШЫНКА

На ўроку малявання
Ала
Тры сонейкі
Намалявала.
— Чаму аж тры? —
Спытаў Панас.
— Хачу,
Каб пацяплела ў нас.

## НАСТАЎНІЦА ВІНАВАТА

Вова прыйшоў са школы раней тэрміну.

— Што, зноў правініўся? — пытае маці.

— Настаўніца сама вінавата. Яна сказала: паводзьце сябе як дома. Я так і паводзіў сябе. І яна адправіла мяне дамоў.



## НАМАЛЯВАЎ КАНЯ

— Тата, наш настаўнік не ведае, як конь выглядае!

— Адкуль ты гэта ўзяў?

— У нас сёння быў урок малявання. Я намаляваў каня, а настаўнік пытаецца, што гэта.

## КАБ НЕ ПАВАЛІЦЦА

Маленькая Ніна ідзе па сходках з кубкам у руках.

— Асцярожна, Ніначка, не паваліся, — гаворыць ёй мама.

— Не, не павалюся — я ж за кубак трымаюся, — супакойвае яе дзяўчынка.

*Вацлаў Ластоўскі*

## ПАД СТАРАСЬЦЬ АДГУКНЕЦЦА

Пачула маці, што Антук яе плача, — хлопчык быў ужо сямігодка, крумяненькі, — выскачыла ў панадворак і пытае:

— Чаго ты, сынок?

— Певень на нагу наступіў!

— То што ж за бяда: певень ня конь, нагі табе не скалечыў.

— Ага, не скалечыў, а як пад старасьць то й гэта адгукнецца.

## СМЯШЫНКІ

— Вася, навошта вырываеш старонкі з падручніка? — пытае настаўніца.

— А я не ўсе вырываю, а толькі прачытаныя, каб памылкова не чытаць двойчы адно і тое ж.

✦✦

— Мама, хто з нас старэйшы: я ці кот? — пытаецца Стасік.

— Вядома, ты!

— А чаму ён вусаты, а я — не?

✦✦

Хвалько кажа хвальку:

— Чуў пра Атлантычны акіян?

— Чуў.

— Я яго пераплыў.

— А ты чуў пра Мёртвае мора?

— Чуў.

— Гэта я яго забіў.



✦✦

Маці пытаецца ў сына:

— Чаму ты запрасіў на дзень нараджэння толькі гэтых двух хлопчыкаў?

— А яны не любяць торта, — адказаў сын.

✦✦

Да хлопчыка, які плача, падышоў міліцыянер:

— Што здарылася?

— У мяне сабака прапаў.

— А якія ў яго прыкметы?

— Ён прапаў разам з прыкметамі.

✦✦

Маці:

— Настаўніца спевау паскардзілася, што ты заснуў на ўроку. Гэта праўда?

Сын:

— А што мне было рабіць, калі ўвесь клас спяваў калыханку.

✦✦

Мама вядзе Мішу з цырульні. Уздоўж дарожкі, па якой яны ідуць, ляжаць галінкі, зрэзаныя з кустоў.

— Мама, чаму тут ляжаць галінкі?
— Гэта садоўнік падстрыг кусты.

Міша здзіўлена паглядзеў на маці і спытаў:

— У цырульні?

✦✦

— Мне гэтыя цукеркі зусім не падабаюцца, — кажа Уладзік.
— Чаму ж ты іх ясі?
— А каб хутчэй скончыліся!

✦✦

У суботу, калі Паўлік збіраўся ў школу, маці сказала:

— Вось атрымаеш сёння чацвёрку — паедзеш заўтра з татам на рыбалку. На цэлы дзень.

Прыйшоў Паўлік са школы і кажа:

— Мама, на рыбалку я паеду на паўдня.

✦✦

Маленькі Гена ўбачыў у двары сабачку і пытае ў таты:

— Як завуць сабачку?



— Шарык.
— А чаму ён не круглы?

✦✦

— Тата, пойдзем гуляць?
— Мокра на вуліцы, дождж пайшоў.
— А куды ён пайшоў?

✦✦

Мама пытае ў чатырохгадовага сына:

— Алег, табе гэтыя туфелькі цесныя?
— Не, я проста пальцы зажмурыў.

✦✦

— Бабуля, глянь, якія ў мяне кветкі.
— А дзе ж ты іх ўзяў?
— З твайго абруса.

✦✦

— Што такое снягір? — спытала сястрычка.

Брат падумаў і адказаў:

— Гэта птушка са снегу.

✦✦

— Дай мне тваю ручку, Віця.
— А чаму ты сваёй не пішаш?
— Яна шмат памылак робіць.

✦✦

Бабуля кажа Марынцы:
— Хутка будзе дождж.
— Чаму?
— Куры на жэрдку паселі, прыкмета — на дождж.
— А ты іх згані,— параіла Марынка,— і дажджу не будзе.

✦✦

— Раскажы, Толя, бабулі верш: ля ёлкі ты расказваў.
— Без ёлкі я не магу, забываюся.

✦✦

— Паўлік, чаму ты кожны дзень спазняешся ў школу? Няўжо ў вас няма будзільніка?
— Будзільнік ёсць, ды толькі ён звоніць, калі я сплю.

✦✦

— Віця, я спаткаў Ніну Пятроўну, яна зноў скардзілася, што дрэнна паводзіш сябе.
— І чаго яна скардзіцца? Я ж сёння зусім не быў у школе!



Андрэй-верабей
На кадушцы сядзеў.
Усіх жаб пераеў,
Адну не даеў
І жывот забалеў.

✦✦

Юзік — пузік,
Барабан,
Тры качулкі,
Адзін збан.

✦✦

Віця, Віця, Віцяля,
З'еў карову і цяля,
І дванаццаць парасят,
Толькі хвосцікі вісяць.



✦✦

Райка-балалайка
Дома не хазяйка,
Дома не начуе,
З крысамі танцуе.

✦✦

Сяргей-верабей
На кані катаўся,
Рукі, ногі паламаў,
Без штаноў застаўся.

✦✦

Барыс-барбарыс
На вяроўцы павіс,
Дзеўкі думалі — маліна,
Адкусілі палавіну.

✦✦

Жадзіна-гавядзіна,
Салёны агурэц,
На палу качаецца,
Ніхто яго не з'есць.

✦✦

Доктар Пенкін
Лечыць блох
З дзесяці
Да чатырох.
Доктар Пенкін
Лечыць дарам,
Мажа плечкі
Скіпідарам.

*Васіль Вітка*

## РАЗ, ДВА, ТРЫ, ЧАТЫРЫ

Раз, два, тры, чатыры —
Зайчык вушкі натапырыў.

Ідзе з лесу воўк, воўк
І зубамі: шчоўк, шчоўк.

Мы схаваемся ў кусты:
Зайка, я, і ты, і ты.

Ты ж, ваўчына, пачакай,
Як схаваемся — шукай!



## МАЛЫЯ АЛЕНІКІ

Малыя аленікі
Елі варэнікі,

Журавель — журавіны,
А жырафа — апельсіны,

Бегемот — ананасы,
А янот — бульбу з квасам.

Жук жур жор,
Тхор сыр цёр,

Грызла рысь рыс,
Барбос — барбарыс.

Вам наце
Па аладцы.

Табе, браце, —
Закрывацца.

## ЛІЧЫЛКА

Опа,
Опа,
Опа,
Амерыка,
Еўропа,
Азія,
Афрыка,
Кітай,

Індыя...
А дзе
Наш край!
Падвядзі
Да мяжы
І ўсім дзецям
Пакажы:
Вось яна,
Відна здаля —
Беларуская
Зямля!

*Нічыпар Парукаў*

## ЛІЧЫЛКА

Ля Яўгена села Лена,
Ля Генадзя села Ядзя,
Каля Зосі — два Антосі,
Каля Надзі — два Аркадзі,
Каля Янкі — тры Святланкі,
Каля Сашы — тры Наташы.
Колькі тут дзяўчат усіх?
Колькі хлопчыкаў ля іх?
Хочаш ведаць — не сядзі,
Сам цяпер лічыць ідзі!

*Ганна Іванова*

* * *

Завязалі ў хустачку
Караваю лустачку.



Што ты возьмеш,
выбірай:
хустку,
лусту,
каравай?

* * *

Выпалі з сумкі
салодкі гумкі.
Хто знойдзе —
той «жмурыць» пойдзе!

*Валянціна Коўтун*

## ЛІЧЫЛКА

Раз, два —
Спіць сава
У вялікім дупле
На пуховым крыле.

Тры, чатыры —
Гэтак шчыра
Па сцяжынцы мышанятка
Коціць спелае зярнятка.

Пяць, шэсць —
У норку лезь!

Як убачыць соўка,
Схопіць мышку лоўка.

Сем, восем —
Хутка восень,
А за восенню снягі
Намятуць свае стагі.

Дзевяць, дзесяць —
Свеціць месяц.
Мышка ціхенька ў кутку
Зерне меле на муку.

Папрацуе яшчэ
Ды аладак напячэ.

## ХТО ЖМУРЫЦЦА?

Шапачка-гняздзечка,
У гняздзе яечка,
А на ім шпачыха
Расселася ціха.
Засвістаў на дрэве шпак —
Вылятай, калі так!

Пасядзелі на бяседзе
Шэры воўк
І два мядзведзі.
На зялёным лужку



Разам сеялі муку.
А ні торбы,
Ні мяшка —
Рассыпаецца мука.
Крыўдна шэраму ваўку,
Не сабраць яму муку.
Лепей мех купі, дзівак,
Ў краму збегай, калі так!

У арэхавым карыце
Ні пшаніцы, ні вадзіцы.
Толькі месячык-мядзяк —
Пажмурыся, калі так!

З неба зорка паляцела,
Запаліла вугалёк,
Асвяціла вугалок.
А ў тым вугалку
Скача мячык на палку,
Не засне ён аніяк —
Выбягай, калі так!

*Іван Муравейка*

## ЛІЧЫЛАЧКА

Раз!
І я зусім не сплю,
Фіззарадку я раблю.

Два!
Умывацца я іду
І спяваю на хаду.

Тры!
Чатыры!
За сталом
Ем аладкі з малаком.

Пяць!
Бягу хутчэй у сад —
Там клубнікі спелай шмат.

Шэсць!
Клубніку я дзялю —
Сашу, Раі, Васілю...

Сем!
Мы полем буракі,
Памідоры і гуркі.

Восем!
Пот закапаў з нас
Адпачыць, напэўна, час.

Дзевяць!
Мы ўжо ля ракі,
Нас вітаюць лазнякі.



Дзесяць!
З берага — нырцом,
Пад вадою ўсе плывём.

А каб добра ўмець лічыць —
Трэба тройчы паўтарыць.

*Артур Вольскі*

## ВЫЙШАЎ ЗАЙЧЫК ПАГУЛЯЦЬ

Раз,
два,
тры,
чатыры,
пяць.
Выйшаў зайчык пагуляць.
Каля школы
невысокі
раптам бачыць плот.
Смела скочыў касавокі
проста ў агарод.
Знаем, што табе да густу,
нас не падвядзеш.
Ох, і шустры!
Нам капусту
так усю згрызеш!..

Раз,
два,
тры,
чатыры,
пяць.
Просіць зайчык не караць:
«Ох ты гора! Ох ты ліха!
І падумаць жах,
як зайчыха
плакаць ціха
будзе па начах.
І пачнуцца непаладкі
дома без мяне.

Зайчаняткі
біць у ладкі
больш не будуць, не!..»

Раз,
два,
тры,
чатыры,
пяць.
Хоча зайчык уцякаць.
Дык бяжы, спяшайся, шустры,
больш да нас не йдзі!
Густа
зайцаву капусту
ў лесе пасадзі.
Палівай старанна градкі



і кадушкі ладзь.
А блізняткі —
зайчаняткі
будуць памагаць...

Раз,
два,
тры,
чатыры,
пяць.
Болей зайца не відаць.

*Уладзімір Мацвеенка*

## ЛІЧЫЛКА

Па шырокай
Вуліцы
Едзе
Певень з курыцай,
А насустрач ім —
Гусак.
Ты выходзіш,
Калі так.

*Максім Танк*

## БУСЕЛ

Выйшаў бусел пагуляць,
З'еў рапухаў дваццаць пяць.
Дваццаць пяць ці дваццаць шэсць?
Збіўся з ліку і не есць.
На адной прыстаў назе

і на пальцах лік вядзе.
Ды як злічыш: У яго
Восемь пальцаў усяго.
Вёў ён лік і так і сяк,
Потым вырашыў, басяк,
Да рапух пайсці спытаць:
— Дваццаць шэсць, ці дваццаць пяць?
Толькі штось рапухі ўсе
Пахаваліся ў лазе.
Скуль ім знаць — чаго ізноў
Бусел з клёкатам ішоў.

## ЛІЧЫЛКІ

Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Выйшаў зайчык пагуляць.
А за зайцам — серы воўк,
Воўк у зайцах знае толк.

✦✦

Ехаў мужык па дарозе,
Зламаў кола на парозе,
Колькі патрэбна гваздзей,
Кажы хутчэй!



✦✦

Стакан, лімон,
Выйдзі вон!
Стакан вады,
Выйдзі ты!

✦✦

Плыў па моры чамадан,
Ў чамадане быў дзіван,
На дзіване плаваў слон.
Хто не верыць — выйдзі вон!

✦✦

— Заяц-месяц,
Ідзе быў!
— У лесе.
— Што дзелаў?
— Лыкі драў.
— Куды клаў?
— Пад калоду.
— Выйдзі вон із карагоду!

✦✦

Ішоў баран
Па крутым гарам,

Вырваў траўку,
Палажыў на лаўку.
Хто яе возьмець,
Той вон пойдзець.

✦✦

Кацілася торба
З вялікага горба,
А ў той торбе
Хлеб, пшаніца.
З кім ты хочаш,
З тым дзяліся.

✦✦

Курыца-квактуха
Вадзіла дзяцей
Каля кляцей.
Квох — сесці
На красным месці,
Яечка знесці.

✦✦

Ішла кошка па раялі
Наступіла на педалі
І запела:
— До, рэ, мі, фа, соль, ля, сі,



Што украла — прынясі.
— Я украла каўбасу,
Заўтра рана прынясу.

✦✦

Ішоў Ціхан па масту,
Праваліўся у ваду.
Бульк!

✦✦

Пайшла курка у аптэку,
Закрычала: — Кукарэку!
Дайце пудры і духоў
На падманку петухоў.

✦✦

Раз — снег,
Два — сняжок.
Тры — снежны камячок.
А чатыры — ужо вясна:
Ні сняжка, ні камячка.
На ваду ўсё пайшло,
А цябе там не было!

✦✦

Сцюжа скокі пачала,
Паскакала да сяла,
Сіганула цераз лес,
Наляцела на экспрэс.
Хай сваволіць! Хай злуе!
Не баюся я яе!

*Людміла Забалоцкая*

## ЛЁН

Церушылася кастрыца,
Мяла мялкай лён майстрыца,
І сцякалі з-пад рукі
Пасмы, нібы раўчукі.
Лён жаўцеў, бы шоўк, ільсніўся,
І, як сонейка, свяціўся.



*Васіль Вітка*

## СОРАК САРОК

Прыручыць сароку —
Адна марока,
А сорак сарок —
Сорак марок.

*Васіль Жуковіч*

## ЛІПЕНЬ

Лета, ліпень.
Лінуў лівень.
Пахнуць ліпы
І маліны.

## СНЕЖАНЬ

У снежні сняжынкі
занеслі сцяжынкі.



## КАЗЁЛ І СТРАКАЗА

Стракaзе каза казала:
— Я ў пучок лазу вязала,
павязу лазу казлу,
каб не лазіў у лазу.

*Міхась Пазнякоў*

## СЯБРЫ

Паклікаў Рыгорка
Ягорку на горку,
Добра з Рыгоркам
На горцы Ягорку.

## МАЛАНКА

Маланка пагрозна
Па хмарах скакала,
Хмары пілою крывой
Пілавала.

## КАША

Згатавала Саша
Кашу для Машы,

Маша Сашы ўдзячная —
Каша ў Сашы смачная.

## ЦЕЦЯРУК

Лапоча ўвосень цецярук:
— Прадам я фрак,
Куплю кажух.
Вясной лапоча цецярук:
— Куплю я фрак,
Прадам кажух.

## ВАРОНА

— Кар-р! Кар-р-равул! —
Закаркала варона. —
На др-р-рэва лезе Р-р-рома.
Тр-р-рэба Р-р-рому р-ратаваць,
Бо зваліцца не мудр-р-рона
І руку зламаць.

*Казімір Камейша*

## ЧОРНЫ КОТ

Чорны кот,
як камінар,



Лапай кратае
ліхтар.
Зверху каркае варона:
— Кр-р-ратаць лапай
р-р-рызыкоўна!

## КАМАШЫ

Шыкоўныя Машы
Купіўшы камашы,
Прыйшоў я дадому:
Нямашака Машы.

## РЫБАЛОЎ

Добры ў рэчцы ранкам клёў,
Калі спрытны рыбалоў.

*Васіль Лаўрыновіч*

## СКОРАГАВОРКІ

Добрай раніцы, шчаўкунчыкі —
пойдзем на рыбалку ў плавунчыкі:
рыбкі буйной налаваем — юшкі
спрытна пасярбаем.

✦✦

Бублік, абаранку, батон і хлеба буханку выпек хлебапёк з цеста-рашчыны яшчэ на ранку.

✦✦

Добра кельма ходзіць па сцяне, калі муляр зарана showtime становіцца каля яе.

✦✦

Праставалосы Сеня вёз бухматы воз сена: воз хістаўся, а Сеня на возе смяяўся.

✦✦

Упусцілі гусі гуслі ў вадаёмы Беларусі,
А таму на гуслях добра граюць беларусы.



## ЛІСКІ

Па лічылцы выбіраецца водзячы — ліс. Дзеці ўтвараюць круг дыяметрам 10—12 м. Кожны кладзе перад сабой невялікі прадмет — ліску. Ліс падыходзіць да аднаго з удзельнікаў і пытаецца:

— Дзе быў?
— У лесе.
— Каго злавіў?
— Ліску.
— Вярні мне ліску.
— За так не аддаю.
— За што аддасі, скажы сам.
— Калі абгоніш, тады дам!

Пасля гэтых слоў абодва бягуць па кругу ў процілеглыя бакі. Гаспадаром ліскі становіцца той, хто зойме свабоднае месца ў крузе і возьме ў рукі прадмет. Ролю ліса выконвае ўдзельнік, які адстаў.

Бегаць дазваляецца са знадворнага боку круга.



## ПОШТА

Усе, хто гуляе, выбіраюць сабе назву беларускага горада ці сяла і становяцца ў круг, не трымаючыся за рукі. Аднаму з дзяцей завязваюць вочы, ён выходзіць на сярэдзіну круга і называе два гарады. Дзеці, якія маюць гэту назву, павінны памяняцца месцамі: перабегчы ціха, каб той, хто стаіць у крузе, не чуў, дзе перабягаюць, і не злавіў іх. Калі ён зловіць аднаго з тых, хто перабягае, то становіцца на яго месца. Злоўленаму завязваюць вочы, і ён становіцца ў сярэдзіну круга. Гульня пачынаецца зноў.

Дзіця, якое стаіць у цэнтры круга, павінна ведаць назвы гарадоў і сёлаў, што выбралі дзеці; мяняцца месцамі дзеці павінны, перабягаючы праз круг, а не са знадворнага боку яго.

## КЛУБОК

Дзеці стаяць у крузе і гавораць нараспеў: «Холадна стала, трэба ніткі матаць». Назначанае дзіця падыходзіць па чарзе да кожнага, кланяецца і запрашае ісці за сабой. Так працягваецца да таго часу, пакуль усе не стануць адзін за адным, узяўшыся за рукі. Пер-

шы ў радзе пачынае рухацца па спіралі і вядзе за сабой астатніх. Так утвараецца вялікі клубок. Пасля гэтага першы ў радзе гаворыць:

— Холадна стала. Вось і гатовы наш клубок. Трэба цёплы шаль вязаць.

У гэты час клубок паступова размотваецца ў доўгі ланцужок, і тады дзеці гавораць:

— Які доўгі і цёплы шаль атрымаўся.

Дзеці павінны моцна трымацца за рукі пры ўтварэнні клубка і пры размотванні яго ў доўгі ланцужок.

## У ЛАПТУ

Удзельнікі дзеляцца на дзве каманды з роўнай колькасцю ігракоў. Кожная з іх выбірае сабе маці. На полі робяць ямачку — масла, куды кладуць шпуляк (мячык). Каманды становяцца насупраць. Першы ў шарэнзе ігрок адной з каманд б'е палкай шпуляк, і бяжыць да масла, удзельнік другой каманды імкнецца злавіць шпуляк і папасці ім у бягучага. Калі гэта яму ўдаецца, каманды мяняюцца месцамі.

Ігрок, адбіўшы шпуляк, павінен бегчы да масла; той, хто злавіў шпуляк, кідае ім у бягучага, калі яму не ўдаецца папасці, ён на некаторы час выходзіць з гульні.



## КАРОНА

Дзеці лепяць снежную бабу, зверху змяшчаюць карону (вядро, кавалак лёду і да т. п.) і падрыхтоўваюць снежкі, складаючы іх у тры кучкі за 7—8 крокаў ад кароны на роўнай адлегласці адна ад адной. Жараб'ёўкай устанаўліваюць чарговасць удараў і становяцца каля адной з куч. Першы ігрок кідае снежку ў карону і перабягае да наступнай кучкі снежак. Тое ж робіць другі, затым трэці. Аднак кідаць снежку неабходна толькі ў той час, калі папярэдні ігрок перабягае на новае месца. Калі хто-небудзь спозніцца кінуць, ён пазбаўляецца чарговага кідка.

Пераможцам лічыцца той ігрок, які большую колькасць разоў трапіць у карону.

## ПАСПЕЙ АДБІЦЬ

Усе дзеці рысуюць кругі і бяруць лапаткі (ракеткі). Адзін з іх застаецца без круга — гэта водзячы. Ён падкідвае мяч, а дзеці адбіваюць яго, імкнучыся пры гэтым не выйсці са свайго круга, таму што водзячы можа яго заняць. Хто застаўся без круга, становіцца водзячым, і гульня працягваецца.

Мяч павінен адбіваць той ігрок, над кругам якога ён пралятае.

## ПАЛЯЎНІЧЫЯ І АРОЛ

З дапамогай жараб'ёўкі выбіраюць вадзячага — арла. Усе дзеці — паляўнічыя, яны адвольна перамяшчаюцца на пляцоўцы, перакідваючы адзін аднаму мяч, і імкнуцца выбраць зручны момант, каб лёгка ўдарыць мячом у спіну ці па нагах арла. Але падыходзіць да арла бліжэй, чым пяць-шэсць крокаў, не дазваляецца. Калі арол набліжаецца да паляўнічага, у якога мяч, той уцякае або аддае мяч іншаму. Калі арол зловіць мяч на ляту, ён кідае яго за межы пляцоўкі. Вяртае мяч у гульню паляўнічы, па віне якога мяч быў злоўлены арлом. Паляўнічы, якому ўдаецца падбіць арла, мяняецца з ім ролямі.

Арол можа адабраць мяч у паляўнічага, дакрануўшыся да яго рукой.

## ФІГУРЫ

Усе дзеці круцяцца ў крузе. Убаку стаяць воўк і маці.

Пасля слоў маці: «На месцы фігура замры!» — ігракі заміраюць у любой позе. Тады воўк выбірае фігуру, якая яму падабаецца, вядзе яе да маці і пытаецца, колькі яна каштуе. Маці гаворыць: «Два рублі». Воўк



два разы б'е далоняй па далоні маці, фігура ў гэты час уцякае. Воўк яе ловіць. Калі зловіць, то гэта дзіця становіцца ваўком.

Воўк ловіць фігуру толькі тады, калі «выплаціць» за яе грошы.

## ПРЭЛА-ГАРЭЛА

Да пачатку гульні выхавальнік у розных месцах пляцоўкі хавае цацкі. Дзеці становяцца ў круг і гавораць наступныя словы:

Прэла-гарэла,
За мора ляцела,
А як пpыляцела,
Дзе-нідзе села.
Хто першы знойдзе,
Той сабе возьме.

Пасля гэтага яны разбягаюцца па пляцоўцы і шукаюць схаваныя цацкі.

Дзеці не павінны бачыць, куды выхавальнік хавае цацкі; пераможцам лічыцца той, хто больш іх знойдзе.

## ПАЛЯЎНІЧЫ

Па лічылцы дзеці выбіраюць паляўнічага і двух-трох сабак. Усе астатнія — зайцы.

Зайцы хаваюцца за кустамі, у ямах і іншых месцах. Выходзіць паляўнічы і крычыць: «Бах! Бах!» Сабакі бягуць ва ўсе бакі, знаходзяць зайцаў і выганяюць іх на адкрытае месца. Кожнага з дзяцей-зайцаў паляўнічы павінен сустрэць словамі: «Бах! Бах!» Інакш яны схаваюцца і іх трэба будзе шукаць зноў. Знойдзеныя зайцы павінны выйсці з гульні. Пераможцамі лічацца тыя зайцы, якіх паляўнічы на працягу 5 хвілін не знайшоў.

Дзеці-сабакі павінны шукаць дзяцей-зайцаў толькі пасля сігналу паляўнічага «Бах! Бах!»

## КАЛІМ-БАМ-БА

Дзеці становяцца адзін супраць другога, утвараючы дзве шарэнгі. Дзеці кожнай шарэнгі бяруцца за рукі, паміж імі ідзе гаворка:

— Калім-бам-ба!
— На што слуга?
— Прышыць рукавы.
— На чые бакі?
— Пятае, дзесятае (імя) сюды.

Названае дзіця бяжыць да другой шарэнгі і спрабуе разарваць яе. Калі дзіця зможа разарваць счэпленыя рукі, то вядзе ў сваю шарэнгу аднаго з ігракоў каманды праціўніка. Калі не разарве, застаецца ў шарэнзе праціўніка.



Пераможцай лічыцца тая каманда, у якой у канцы гульні будзе найбольшая колькасць дзяцей.

Названае дзіця павінна разарваць счэпленыя рукі дзяцей другой шарэнгі, якія не маюць права пры набліжэнні іграка раздымаць іх.

## ГАРЛАЧЫК

Дзеці сядзяць у крузе на кукішках. Гэта гарлачыкі. Па кругу ходзіць пакупнік. Спыніўшыся каля каго-небудзь, ён пытаецца:

— Колькі каштуе гарлачык?

Дзіця адказвае:

За гарлачык гэты
Дай нам зусім крышку:
Каб ніколі не хварэць —
Маннай кашы лыжку.

Пасля гэтых слоў дзіця-гарлачык падымаецца на ногі і бяжыць па кругу ў адным напрамку, а пакупнік — насустрач яму. Кож-

ны імкнецца заняць свабоднае месца. Той хто спазняецца, становіцца пакупніком.

Дзеці павінны бегчы па кругу ў розных напрамках пасля слоў «...маннай кашы лыжку»; кожны з іх імкнецца заняць свабоднае месца.

## ЗМЯЯ

Дзеці строяцца ў калону па аднаму і бяруць рукамі за пояс таго, хто стаіць спераду. Уся калона — змяя; першы ў калоне — галава, апошні — хвост.

Па сігналу выхавальніка галава павінна злавіць хвост, які ад яе ўцякае. Галава, што злавіла хвост, пераходзіць у канец калоны, і гульня паўтараецца.

Дзеці павінны моцна трымацца рукамі адзін за аднаго, стараючыся не разарваць калону; калі хвост ці галава адарваліся ў гульні, яны прайгралі і выходзяць з калоны.

## ФАРБЫ

Дзеці выбіраюць гаспадара фарбаў і адгадчыка Несцерку. Усе астатнія — фарбы.



Несцерка адыходзіць убок, а гаспадар і фарбы ціхенька згаворваюцца, хто якой фарбай будзе. Назву фарбам можа даваць гаспадар, або кожны сам выбірае сабе які-небудзь колер (зялёны, чырвоны, белы і г. д.). Гаспадар павінен добра запомніць, хто якая фарба.

Калі назвы дадзены, фарбы і гаспадар прысядаюць на кукішкі і робяць выгляд, што засынаюць.

Тут да фарбаў падыходзіць Несцерка, тупае некалькі разоў нагой і гаворыць:

— Стук-стук!

Гаспадар прачынаецца і пытаецца:

— Хто тут?

— Несцерка!

— Чаго прыйшоў?

— Па фарбу!

— Па якую?

Несцерка называе які-небудзь колер, напрыклад:

— Па сінюю!

Калі такога колеру сярод фарбаў няма, гаспадар гаворыць:

— Такой фарбы ў нас няма!

А ўсе фарбы пляскаюць у ладкі і прыгаворваюць:

Пайдзі за сіненькі лясок,
Знайдзі сіні чабаток,

Панасі, панасі!
І нам прынясі!

Пасля гэтых слоў Несцерка адыходзіць убок, потым вяртаецца і працягвае з гаспадаром гутарку:

— Стук-стук!
— Хто там?
— Несцерка!
— Чаго прыйшоў?
— Па фарбу!
— Па якую?
— Па белую!

Калі белая фарба ёсць, гаспадар яму гаворыць:

— Ёсць белая фарба, бяры яе!

Фарба ўцякае, а Несцерка яе ловіць.

Дзіця-фарба павінна бегчы ў загадзя абазначанае месца; злоўленая фарба наступны раз у гульні ўдзел не прымае.






Абяцаная шапка вушэй не грэе.

✦✦

Адзін раз зманіш — другі не паверацЬ.

✦✦

Ад хлусні не мруць, толькі веры болей не даюць.

✦✦

Багата вясна кветкамі, а восень палеткамі.

✦✦

Вуснамі мёд разлівае, а за пазухай камень трымае.



✦✦

Гэты Яўхім і з вады вылезе сухім.

✦✦

Даражэйша не сняданне, а прывітанне.

✦✦

Дзе шчырая праца, там густа, а дзе лянота — пуста.

✦✦

Загляне сонца і ў наша ваконца.

✦✦

За сем работ бярэцца, а ні адна не ўдаецца.

✦✦

Заўтра ў тую пару, калі рак паляціць з вады ўгару.

✦✦

Згубіш — не шкадуй, знойдзеш — не радуйся.

✦✦

Каб вады напіцца, трэба ёй пакланіцца.

✦✦

На Бога спадзявайся, але і сам старайся.

✦✦

Не гняві Бога, не жадай чужога.

✦✦

Хто пытае, той не блудзіць, хто шукае, той знаходзіць.

✦✦

Усё мінецца, адна праўда застанецца.



✦✦

Страх мае вочы вялікія.

✦✦

Баязліваму і свой цень страшны.

✦✦

Ні сюды ні туды, мае мілыя дуды.

✦✦

У сваім краі, як у раі.

✦✦

Без кавалка хлеба кепская бяседа.

✦✦

Калі ўлез у дугу, не кажы: не магу.

✦✦

Жураўлі ляцяць высока — зіма яшчэ далёка.

✦✦

Пытаецца люты, ці добра абуты.

✦✦

Адна галава не бяда, а калі і бяда, то адна.

✦✦

Адзін сынок Юзік і той як гарбузік.

✦✦

Якая мая мама, такая я і сама.

✦✦

Без песні — хоць трэсні.

✦✦

Лепш праўда спаліць, чым ліха пахваліць.

✦✦

Няма тае хусты, каб завязаць людзям вусны.



✦✦

Адзеўся, як пава, але дурная слава.

✦✦

Пасварыліся за мех, а ў мяху смех.

✦✦

Не бачыць сава́, якая сама.

✦✦

Як гукаюць, так і адгукаецца.

✦✦

Як павіншуеш, так цябе і пачастуюць.

✦✦

Вучэнне без умення не карысць, а бяда.

✦✦

Дзе сіла не бярэ, трэба розумам надтачыць.

✦✦

Шчыраму сэрцу і чужая болька баліць.

✦✦

Як крэсівам выкрасаў — усю праўду сказаў.

✦✦

Як аб табе чуюць, так цябе судзяць.

✦✦

Зіма на лета працуе, а лета на зіму.

✦✦

Зімовая ночка — дзеткам сарочка.

✦✦

Зімовы дзянёк — што камароў насок.

✦✦

Голад — найлепшы кухар.



✦✦

Дар за дар, а дарам не дам.

✦✦

Лета збірае, а зіма паядае.

✦✦

Не бяры нічога і не бойся нікога.

✦✦

Ранняя птушка зубкі цярэбіць, а позняя — вочкі працірае.

✦✦

Ідзі ў родны край, там і пад елкаю рай.

✦✦

Не вугламі хата слаўная, а пірагамі.

✦✦

Якая птушка, такі і галасок.

✦✦

Без навукі і лапця не спляцеш.

✦✦

Малако ў каровы на языку.

✦✦

Кошка мышцы не таварыш.

✦✦

Увосень і верабей багаты.

✦✦

## ЗАГАДКІ І АДГАДКІ

**1.**

На полі Ярох рассыпаў гарох, стала світаць — няма чаго збіраць.

✦✦

**2.**

Два браты ў ваду глядзяць, а разам не сыходзяцца.



✦✦

**3.**

Кругом вада, а з піццём бяда. Хто адгадае, дзе гэта бывае?

✦✦

**4.**

Маленькі, удаленькі скрозь зямлю прайшоў, чырвоную шапачку знайшоў.

✦✦

**5.**

Лата на лаце і шва не знаці.

✦✦

**6.**

Касцяшка сячэ, дзеравяшка вязе, а мокры Мартын падкладвае.

✦✦

**7.**

З барадою, а не стары, з рагамі, а не бык, дояць, а не карова, лыкі дзярэ, а лапці не пляце.

✦✦

**8.**

У маці дваццаць дзетак. Усе дзеткі — аднaлеткі.

✦✦

**9.**

Не кароль, а ў кароне, не гусар, а пры шпорах, гадзінніка не мае, а час знае.

✦✦

**10.**

Які звер пакідае птушыныя сляды?

✦✦

**11.**

Хто два разы на свет родзіцца?

✦✦

**12.**

У вадзе радзілася, а вады баіцца.

✦✦

**13.**

Сам драўляны, а галава жалезная.



✦✦

**14.**

Не звер, а махнаты, не конь, а з вушамі.

✦✦

**15.**

Складзеш — клін, разгорнеш — блін.

✦✦

**16.**

Ляжыць паленца, а ў сярэдзіне сэрца.

✦✦

**17.**

Болей б'ём — ён лепей скача, не сярдуе і не плача. Моцна ўдарыш — не дагоніш, а ў вадзе з ім не патонеш.

✦✦

**18.**

Несла гаспадыня ў кошыку дзесяць яец, а дно ўпала. Колькі засталося?

✦✦

19.

Плыве ў прасторы, ды не ў моры, караблём завецца, а ля зорак уецца.

✦✦

20.

Нітак многа, а ў клубок не зматаеш.

✦✦

21.

Сядзяць у кругу чатыры кошкі, супраць кожнай кошкі па тры. Колькі будзе разам?

✦✦

22.

Зімой расце коранем уверх, а вясной памірае — хто адгадае?

✦✦

23.

Па моры ідзе-ідзе, а да берага дойдзе — тут прападзе.



✦✦

24.

Расчыніцца ночка — глянуць з яе лісточкі; хто іх разглядае, той многа пазнае.

*Гальяш Леўчык*

25.

Маю рогі, маю ногі,
Я багаты і убогі —
Ля мяне усе сядаюць,
Дык скажы — як называюць?

25.

Мяне кожны хоча,
А цэніць замала,
Купіць хто хацеў бы —
Грошай бы не стала.
Каго я мінаю,
Дык сум пакідаю.

27.

Жыву я ў кожнай хаце,
Удзень я мала варты,
А нанач усім людзям
Патрэбны я — не жарты!

**28.**
У гаршчочку на калочку
Тысяча зярнят пясочку.

**29.**
Што гэта за малаточак —
Стукае, не прыбівае,
Не ў жалезны б'е цвічочак?
Кожны з вас трымае.

**30.**
Хоць нямко, а ўсё раскажа,
Не маляр, а ўсё намажа,
Без вачэй, а ўсё пакажа —
Хто стаіць, сядзіць ці ляжа.

*Уладзімір Карызна*

**31.**
Не будзільнік,
А праспаць
Гаспадыні
Ён не дасць.

Прапяе шмат раз:
— Пад'ём!
І увесь разбудзіць
Дом.



**32.**
У лесе жыве,
Харчуецца,
На галаве
Дрэва красуецца.

**33.**
Гудзе,
Ды не самалёт,
Можа раніць,
Ды не страла.
Хто адгадае,
Хто гэта?..

**34.**
Ён ніколі рук не меў —
Маляваць жа век умеў.

*Казімір Камейша*

**35.**
Хоць б'юць яго,
А ён не плача.
Чым б'юць мацней,
Тым вышай скача.

**36.**
Яна зусім не мышка,
Хоць і на М завецца.

Сама імчыцца ў норку,
А хвост у неба рвецца.

*Уладзімір Мацвеенка*

**37.**

І носік мае,
Ды не нюхае.
І вушка мае,
Ды не слухае.
І каляровы
Хвосцік мае,
Але і той
Штораз губляе.

**38.**

Не скажу, што і не любяць,
Ды скубуць мяне ўсе,
Без віны штодзённа чубяць,
Я танчэю пакрысе.
Я ніколі не злуюся,
Бо цудоўны маю дар.
Адгадайце, як завуся?
А завуся...

*Ніл Гілевіч*

**39.**

Расце ён зімою
Уніз галавою,
Камлём дагары,
І расце да пары:



Як стане грэць сонца —
Ён плача бясконца,
Сыходзіць слязамі
І ўвесь прападае.
Падумайце самі:
Мо' хто адгадае?

**40.**

Пад хвоямі
Пад смолкімі,
Па лясных дарожках
Бяжыць
Клубок з іголкамі
На кароткіх ножках.

**41.**

Беленькая бочка,
На ёй — ні сучочка,
Ні абручыка,
Ні дна,
І хоць бы
Клёпачка адна!

**42.**

Чырвонае цельца,
Каменнае сэрца,
Вінная на смак.
А завецца як?

43.
Туды — рог,
Сюды — рог,
Пасярод — нібы пірог,
А сама
Напхана пухам
І ў мяне
Ляжыць пад вухам.

44.
Вось загадка дык загадка:
Дзе праеду — будзе гладка.
Толькі пальцам не крані —
Апячэш, як на агні.
А каб мог ты ўзяць мяне —
Маю ручку на спіне.

45.
На полі аксамітным
Чароўнае пісьмо:
Сярэбраныя літары
І пішацца само,
Удзень яно хаваецца,
Увечары відаць,
А хто з вас пастараецца,
Той зможа прачытаць.

46.
Шустранькі,
Маленькі,



Сам у шэрай світцы
Шукае канапелькі,
Каб трохі пажывіцца.

47.
Закаціўся пад плот,
Лёг у баразёнцы,
Паласаты жывот
Грэючы на сонцы.

48.
Царэўна ў няволі,
У цёмнай каморы,
А косы на сонцы,
На вольным прасторы.

49.
Праз горы, даліны,
Праз тысячы сёл
З далёкай краіны
Вярнуўся пасол.
Спаважны, чыноўны,
Ён стаў на страсе,
У ботах чырвоных,
Каб бачылі ўсе.

50.
Бліснула,
Зламалася,

Дзесьці ўміг схавалася,
Ні дагнаць,
Ні след пазнаць —
Толькі водгулле чуваць.

**51.**
На вадзе —
І не плыве й не тоне,
На агні —
Не тлее, не гарыць,
Па пяску ідзе —
Слядоў не знойдзеш,
Па саломе ходзіць —
Не шасціць.

**52.**
У белым сарафане,
Пад хусткаю зялёнай
Сумуе на паляне
Танклявая Алёна.

**53.**
У лужку-лужочку
Выраслі сястрычкі:
Залатое вочка,
Белыя раснічкі.

**54.**
Поле — шкляное,
Празрыстае,



Чыстае,
Межы —
драўляныя,
Падмаляваныя.

*Уладзімір Мазго*

**55.**
Па лясах
Блукае статак
Волатаў
І немаўлятак.
Гэта
Пушчы спадары —
Белавежскія...

*Васіль Жуковіч*

**56.**
З выраю
першы вяртаецца,
з песняй
да свету звяртаецца,
поля і неба сябрук, —
гэта, вядома, ...

**57.**
Як толькі дачакалася цяпла,
збіраць нектар

старанна пачала
працалюбівая ...

58.
Ці бачылі такое вы:
сваіх вачэй мяняю колеры
і размаўляю я вачыма,
са мной спрачацца немагчыма.
Вам памагаю з даўніх пор,
а назву маю ...

*Васіль Вітка*

59.
Брат сястру пабачыць рад,
Але строгі ў іх расклад:
Прачынаецца сястра —
Брату спаць ісці пара.

60.
Не пытайся ў мамы —
Сам гавары:
Хто бегае над намі
Нагамі
Дагары?

61.
Дуб-дубавін,
Дванаццаць галін
На кожнай галіне



Чатыры гняздзіны.
У кожным гняздзечку
Па сем яечкаў.
Кожнае мае
Сваё імя.
Хто адгадае —
Што за сям'я?

## АДГАДКІ

**1.** Зоркі на небе. **2.** Берагі. **3.** На моры. **4.** Падасінавік. **5.** Капуста. **6.** Зубы, лыжка, язык. **7.** Каза. **8.** Квактуха з куранятамі. **9.** Певень. **10.** Выдра. **11.** Птушка. **12.** Соль. **13.** Малаток. **14.** Шапка-вушанка. **15.** Парасон. **16.** Аловак. **17.** Мячык. **18.** Усе разбіліся. **19.** Касмічны карабель. **20.** Павуцінне. **21.** Чатыры. **22.** Лядзяш. **23.** Хвалі. **24.** Кніга. **25.** Стол. **26.** Здароўе. **27.** Ложак. **28.** Макаўкі. **29.** Сэрца ў грудзях. **30.** Люстэрка. **31.** Певень. **32.** Лось. **33.** Пчала. **34.** Мароз. **35.** Мяч. **36.** Морква. **37.** Іголка. **38.** Каляндар. **39.** Лядзяш. **40.** Вожык. **41.** Яйка. **42.** Вішня. **43.** Падушка. **44.** Прас. **45.** Зоркі ў небе. **46.** Верабей. **47.** Гарбуз. **48.** Морква. **49.** Бусел. **50.** Маланка. **51.** Цень. **52.** Бярозка. **53.** Рамонкі. **54.** Акно. **55.** Зубры. **56.** Жаўрук. **57.** Пчала. **58.** Святлафор. **59.** Сонца і месяц. **60.** Муха. **61.** Год, месяц, тыдні і дні.

# ЗМЕСТ



Вучэбнае выданне

## ЗАЛАТЫЯ КАЛАСКІ

**ЧЫТАНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ**

Частка 2

Укладальнікі:
ФЕДАСЕЕНКА Марыя Аляксееўна,
РАЗАНАВА Галіна Мікалаеўна,
ПРОХАРАВА Таццяна Паўлаўна,
ЯНУШКЕВІЧ Наталля Сяргееўна

Адказныя за выпуск
В. В. КРУГЛІК, А. В. БАРЫСЁНАК

Рэдактар *А. І. Сачанка*
Мастацкі рэдактар *П. М. Драчоў*
Тэхнічны рэдактар *М. А. Шабалінская*
Карэктар *Я. М. Важнік*

Здадзена ў набор 05.07.94. Падпісана да друку 26.08.94. Фармат $60\times90^1/_{16}$. Папера афсетная. Гарнітура кудрашэўская энцыклапедычная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 20,0. Ум. фарб. адб. 45,5. Ул. выд. арк. 20,2. Тыраж 30 000 экз. Заказ 1250.

Таварыства з абмежаванай адказнасцю «Лазурак»
Ліцэнзія ЛВ № 690. 220005, Мінск, вул. Пугачоўская, 1.
Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА
імя Я. Коласа. 220005, Мінск, вул. Чырвоная, 23.